ПРАЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 46 (2625)
ПЯТНІЦА
17
лістапада 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

Кіраўнік маладой Савецкай Беларусі Алесь Рыгоравіч Чарвякоў—у Ільіча ў Горках. Карціна Ул. Стэльмашонка, якая ўзнаўляе гэты эпізод, экспануецца зараз на рэспубліканскай мастацкай выстаўцы «СССР—наша Радзіма».



# НАШЫ СЭРЦЫ — ТВАЕ, РОДНАЯ ПАРТЫЯ!

## АБ'ЯДНАНЫ ПЛЕНУМ ПРАЎЛЕННЯЎ ТВОРЧЫХ САЮЗАЎ І ТЭАТРАЛЬНАГА АБ'ЯДНАННЯ БЕЛАРУСІ, ПРЫСВЕЧАНЫ 50-годдзю ЎТВАРЭННЯ САЮЗА САВЕЦКІХ САЦЫЯЛІСТЫЧНЫХ РЭСПУБЛІК

**У СТАНАЎЛЕННІ савецкага народа як новай гістарычнай агульнасці людзей, у фарміраванні духоўна багатай асобы чалавека выдатную ролю адыгрываюць літаратура і мастацтва. З'яўляючыся неад'емнай часткай адзінай культуры вялікага савецкага народа, літаратура і мастацтва Савецкай Беларусі верна служаць вялікай справе камуністычнага будаўніцтва. Пісьменнікі і кампазітары, мастакі і архітэктары, майстры сцэны і экрана, работнікі друку, тэлебачання, радыё ўсталёўваюць сваёй творчасцю высокія ідэалы камунізму, высакародныя пачуцці дружбы і брацтва, савецкага патрыятызму, пралетарскага інтэрнацыяналізму, адкрываюць свету вялікую праўду нашага жыцця, актыўна змагаюцца супраць буржуазнай ідэалогіі і маралі.**

**Справаздачай перад партыяй і народам дзеячаў літаратуры і мастацтва Беларусі аб праведзенай рабоце, дзелавой размовай аб тым, як творчая інтэлігенцыя ажыццяўляе рашэнні XXIV з'езда КПСС, стаў аб'яднаны пленум праўленняў саюзаў пісьменнікаў, мастакоў, кампазітараў, кінематаграфістаў, архітэктараў, журналістаў БССР, Беларускага тэатральнага аб'яднання, які адбыўся 14 лістапада ў Мінску і быў прысвечаны 50-годдзю з дня ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.**

**Кароткім уступным словам аб трыумфе ленінскай нацыянальнай палітыкі, аб культуры Савецкай Беларусі, якая расцвіла ў шматнацыянальнай сацыялістычнай дзяржаве, аб высокім абавязку работнікаў літаратуры і мастацтва пленум адкрыў народны пісьменнік БССР, акадэмік, віцэ-прэзідэнт АН БССР Кандрат Крапіва.**

**З дакладамі на пленуме выступілі: старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, народны паэт рэспублікі Максім Танк, старшыня праўлення Саюза мастакоў БССР, заслужаны дзеяч мастацтваў рэспублікі В. Грамыка, старшыня праўлення Саюза кампазітараў БССР, народны артыст СССР Р. Шырма, сакратар праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР І. Дабралюбаў, старшыня праўлення Саюза архітэктараў БССР, заслужаны архітэктар рэспублікі Ю. Шпіт, старшыня праўлення Беларускага тэатральнага аб'яднання, народная артыстка СССР Л. Александроўская, намеснік старшыні праўлення Саюза журналістаў БССР М. Дзялец.**

## ІДЭЙНАЯ ЯСНАСЦЬ, ВЫСОКАЕ МАЙСТЭРСТВА

*З даклада старшыні праўлення СП БССР Максіма ТАНКА*

ПАЎВЕКАВЫ ЮБІЛЕЙ Краіны Саветаў — вялікае свята нашай ленінскай дружбы, якой мы абавязаны ўсімі сваімі дасягненнямі і заваяваннямі.

Беларускі народ заўсёды будзе ўдзячны вялікаму рускаму народу і ўсім братнім народам Краіны Саветаў за іх дапамогу ў барацьбе супраць розных чужаземных захопнікаў, у барацьбе за ўз'яднанне беларускіх зямель з нашай сацыялістычнай Радзімай, у барацьбе супраць фашысцкіх орд, якія неслі з сабой смерць і знішчэнне, удзячны за тую дапамогу, якая дала нам магчымасць у параўнальна кароткі час не толькі залячыць крывавыя раны вайны, але і выйсці на высокія сённяшнія рубяжы развіцця ў галіне эканомікі, прамысловасці, сельскай гаспадаркі, навукі і культуры.

Вось чаму тэма дружбы стала адной з галоўнейшых у нашай шматнацыянальнай савецкай літаратуры, у тым ліку і ў нашай беларускай з першых дзён яе нараджэння. Пачынаючы ад яе заснавальнікаў — Купалы, Коласа, Багдановіча, Бядулі, Цёткі — у нас няма такога пісьменніка, які не прысвяціў бы гэтай высакароднай тэме сваіх твораў. Чырвонай ніткай яна праходзіць праз усю нашу беларускую літаратуру.

Пачуццём сям'і адзінай, савецкага патрыятызму і інтэрнацыяналізму, супольнасцю перакананняў і імкненняў, любоўю да сваёй роднай мовы і да мовы братняга рускага народа, якая стала мовай нашай дружбы і міжнародных нашых сувязей, любоўю да свайго кутка і да ўсёй нашай савецкай зямлі, якую мы называем Радзімай, прасякнуты вершы і паэмы, аповесці і п'есы, нарысы і публіцыстыка нашых старэйшых пісьменнікаў Крапівы, Лынькова, Броўкі, Куляшова, Панчанкі, Лужаніна, Мележа, Шамякіна, Пестрака, Брыля, Быкава, Макаёнка, Кулакоўскага, Вялюгіна, Віткі, Кірэенкі, Калачынскага, а таксама творчасць маладзейшых — Барадуліна, Караткевіча, Гілевіча, Бураўкіна, Сачанкі, Навуменкі, Пташнікава, Сіпакова і іншых. Ды інакш яно і не магло быць.

Савецкая літаратура, як адзін з найбольш дзейсных сродкаў пазнання свету, глыбінь чалавечай душы, актыўна ўдзельнічае ў змаганні за перабудову свету і грамадства на новых марксісцка-ленінскіх асновах эканомікі, навукі, эстэтыкі.

І таму ідэі інтэрнацыяналізму нашай літаратуры надаюць ёй выключную прыцягальную сілу, аб чым гаворыць яе папулярнасць ва ўсім свеце і той уплыў, які яна аказвае на творчасць многіх сучасных прагрэсіўных пісьменнікаў за межамі нашай краіны.

Мы ўсе знаем, якую велізарнейшую дапамогу аказвае вялікая руская літаратура ў росце, развіцці і фарміраванні ўсіх нашых нацыянальных літаратур, у тым ліку і нашай — беларускай, якую аказвае яна дапамогу ў выхадзе літаратур нашых братніх народаў на сусветны форум, за што мы бязмерна заўсёды ёй будзем удзячны.

Бясспрэчна, што адзнакай нашага часу з'яўляецца жыватворны, усё нарастаючы працэс ўзаемаўплываў і збліжэння нацыянальных літаратур, у выніку чаго мы маем адну з самых багатых і арыгінальных, найбольш сучасных па форме, найбольш перадавых па сваёй ідэйнасці літаратур — літаратуру савецкую.

І таму ў наш час праблема ідэйнасці і якасці твораў мастацтва з'яўляецца адной з важнейшых, бо маючы магчымасць выбару з усёй скарбонкі савецкай літаратуры, ніхто не захоча браць творы другарадныя або траціць на іх дарагі час толькі таму, што яны — свае. Ды і паняцце «свой» пашырылася да паняцця ўсесаюзнага, савецкага. Мерай кожнага твора павінна быць яго ідэйная і мастацкая вартасць, і сакраментальная ацэнка «ўпершыню ў беларускай» ці ў нейкай іншай літаратуры ўжо не можа з'яўляцца пераканальным аргументам для публікацыі розных пераймальных і эпігонскіх твораў.

У справаздачным дакладзе ЦК КПСС XXIV з'езду партыі таварыш Брэжнеў зазначыў: «У мінулыя гады пад кіраўніцтвам партыі былі зроблены новыя крокі па шляху ўсебаковага развіцця кожнай з брацкіх савецкіх рэспублік, па шляху далейшага паступовага збліжэння нацый і народнасцей нашай краіны. Гэта збліжэнне адбываецца ва ўмовах уважлівага ўліку нацыянальных культур». І гэты ўлік нацыянальных культур — адна з характэрных рыс нашай савецкай літаратуры, якая адрознівае яе ад заходняй, бо апошняя даўно парвала ўсякія сувязі са сваімі нацыянальнымі вытокамі і, усё больш аддаляючыся ад жыцця народа, становіцца бязлікай і касмапалітычнай, як біржавыя акцыі.

Партыя наша заўсёды ўдзяляла шмат увагі ўмацаванню кантактаў пісьменнікаў з жыццём, развіццю нашых брацкіх інтэрнацыянальных сувязей з нашымі замежнымі сябрамі. Апошнія гады, асабліва пасля XXIV з'езда партыі, у сувязі з падрыхтоўкай да сустрэчы слаўнага 50-годдзя СССР, у нас было шмат сустрэч з рабочымі, калгаснікамі, шмат арганізаваных Саюзам пісьменнікаў СССР і рэспубліканскімі пісьменніцкімі арганізацыямі калектыўных паездак па памятных ленінскіх мясцінах, на Далёкі Усход, Алтай, у Краснаярскі край, Данбас, на Кубань, на радзіму Пушкіна, Някрасава, Купалы, Коласа, па шляхах рэвалюцыйных падзей і Айчыннай вайны, на велічныя новабудоўлі пяцігодкі. Шмат было праведзена дэкад, сустрэч, тыдняў літаратур народаў нашай Радзімы, канферэнцый і ўрачыстасцей, звязаных з юбілейнымі датамі класікаў нашых братніх літаратур.

Усё гэта аказала адчувальны ўплыў на творчасць многіх нашых пісьменнікаў, значна пашырыла дыяпазон іх тэм і яшчэ больш умацавала іх сувязь з жыццём рабочых, калгаснікаў, з жыццём краіны. Як ніколі раней, за апошнія гады ў нас умацаваліся сувязі з зарубежнымі нашымі сябрамі, пісьменнікамі краін сацыялізму, аб чым сведчаць шматлікія пераклады літаратур народаў нашай краіны, у тым ліку і з нашай беларускай літаратуры, на балгарскую, польскую, чэшскую, славацкую, румынскую, венгерскую, нямецкую і іншыя мовы, як і пераклады твораў нашых замежных сяброў на мовы народаў СССР. Што да перакладаў твораў беларускіх пісьменнікаў на рускую мову, перакладаў, якія з'яўляюцца сапраўднай і аўтарытэтнай пуцёўкай у шырокі свет для нашых твораў, трэба сказаць, што літаратуры нашай сапраўды пашчасціла. Пачынаючы ад М. Горкага, яе перакладалі такія выдатныя майстры слова, як Брусаў, Гарадзецкі, Пракоф'еў, Ісакоўскі, Твардоўскі, Сіманаў, Мазалькоў, Браун, Хелемскі, Камісарава, Кежун, Астроўскі, Кавалёў і многія іншыя.

З вялікай любоўю перакладалі творы нашых пісьменнікаў віднейшыя мастакі слова Украіны: Тычына, Рыльскі, Малышка, Сасюра, Бажан, Стэльмах, Нагнібяда, Вараньκо.

Даўнія і моцныя ў нас сяброўскія сувязі з літоўскімі пісьменнікамі. Сярод перакладчыкаў беларускай літаратуры мы бачым такія вядомыя імёны, як Гіра, Венцлава, Жукаўскас, Матузявічус, Корсакас...

Радасна, што нашы літаратурныя часопісы сістэматычна друкуюць пераклады з твораў братніх літаратур, што і ў выдавецкіх планах адводзіцца больш для іх месца, як гэта было раней. І ўсё ж з-за адсутнасці свайго спецыяльнага часопіса, прысвечанага перакладам, як «Иностранная литература» ці «Всэсвіт», мы яшчэ застаемся ў вялікім даўгу перад некаторымі нашымі сябрамі. Многія творы і пераклады як класічнай літаратуры, так і сучаснай, усё яшчэ чакаюць сваёй чаргі.

Таварышы! Засталіся лічаныя дні да слаўнага 50-годдзя нашай шматнацыянальнай сацыялістычнай дзяржавы, створанай воляй партыі і яе геніяльнага правадыра — Уладзіміра Ільіча Леніна.

Напярэдадні гэтай слаўнай гадавіны ўсе працоўныя нашай краіны рапартуюць аб сваіх дасягненнях на вялікім фронце будаўніцтва камунізму. І мы на сённяшнім урачыстым пленуме, прысвечаным 50-годдзю СССР, рады рапартаваць сваёй партыі, што гэты юбілейны год быў для нас — работнікаў літаратуры і мастацтва — годам цікавай, змястоўнай творчай і арганізацыйнай працы, годам плённым і на літаратурнай ніве, годам з'яўлення новых шматлікіх твораў, прысвечаных партыі, правадыру рэвалюцыі — Леніну, нашай савецкай рэчаіснасці, нашай ленінскай інтэрнацыянальнай дружбе народаў.

Мы, беларускія пісьменнікі, прыкладзем усе свае здольнасці і сілы, каб веліч нашай эпохі, гераічны подзвіг нашага савецкага народа і нашай роднай партыі знайшлі сваё адбіццё ў творах, якія дапамаглі б ажыццяўленню несмяротных ленінскіх ідэй, служылі вялікай справе камунізму!

## НА ШЛЯХУ ДА ВЯЛІКАГА КАМУНІСТЫЧНАГА МАСТАЦТВА

*З даклада старшыні праўлення Саюза мастакоў БССР В. ГРАМЫКІ*

У ГУТАРЦЫ з Клараю Цэткін Уладзімір Ільіч Ленін гаварыў пра веліч камуністычнага мастацтва будучыні. Народы СССР пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі ажыццявілі культурную рэвалюцыю, ператварыўшы вялізную адсталую і непісьменную краіну ў дзяржаву самага высокага ўзроўню духоўнай культуры. Увесь свет бачыць і ведае, што Кастрычніцкая рэвалюцыя і ленінская ідэя ўтварэння СССР змянілі і ход развіцця сусветнага мастацтва.

Майстры выяўленчага мастацтва Савецкай Беларусі, пачынаючы з першых усебеларускіх выставак 20-х гадоў, па сённяшні дзень, калі працуе вялікая рэспубліканская мастацкая выстаўка «СССР — наша радзіма», заўсёды аддавалі і аддаюць сілы свае і талент апяванню гераічных здзяйсненняў нашага народа.

Апошнія гады азнаменаваны напружанай выставачнай дзейнасцю, духам новых пошукаў, усё больш непрымірымага стаўлення да шэрасці і безаблічнасці, імкненнем да глыбокага асэнсавання рэчаіснасці і выяўлення яе ў вобразнай форме. Усё далей застаецца ў мінулым халодная апавядальнасць, пераадольваюцца павярхоўнасць і ілюстратыўнасць.

Разнастайнасць твораў на рэспубліканскіх мастацкіх выстаўках, прысвечаных 50-годдзю Вялікага Кастрычніка, 50-годдзю БССР і КПБ, 100-годдзю з дня нараджэння У. І. Леніна, на занальнай выстаўцы ў Маскве і рэспубліканскай «СССР — наша радзіма», прысвечаных 50-годдзю ўтварэння СССР, дае багаты матэрыял для мастацтвазнаўчых даследаванняў сучаснага стану выяўленчага мастацтва Савецкай Беларусі. Апрача таго, у Мінску былі наладжаны выстаўкі твораў маладых мастакоў, акварэлістаў, плакатыстаў, а таксама выстаўка, прысвечаная 90-годдзю з дня нараджэння Я. Купалы і Я. Коласа. Праз колькі дзён у Вільнюсе адкрыецца вялікая выстаўка твораў мастакоў Савецкай Беларусі. Дзесяткі перасоўных мастацкіх выставак арганізаваны Саюзам мастакоў БССР і Міністэрствам культуры БССР і паказаны ў гарадах і сёлах рэспублікі. У складзе Усесаюзных перасоўных выставак творы беларускіх мастакоў экспануюцца ў братніх рэспубліках краіны. Усё больш актыўны наш выхад на міжнародную арэну. Творы выяўленчага мастацтва Савецкай Беларусі з цікавасцю глядзелі ў Францыі і Англіі, Канадзе і краінах Лацінскай Амерыкі, Японіі і краінах сацыялістычнага лагера.

Усё гэта нас радуе, хаця яшчэ, на жаль, сустракаюцца сярод работ беларускіх мастакоў і такія, дзе распрацоўваюцца далёка не самыя важныя аспекты той або іншай тэмы. Нямала яшчэ ствараецца твораў, дзе адсутнасць глыбокага вобразнага рашэння, адсутнасць самога мастацкага адкрыцця падмяняецца ўзятым напракат штампам знешне эфектнага, але пустога рашэння. Безаблічнасць і шэрасць, часта прымаючы аблічча знешняга поспеху, самавітасці, усё яшчэ вандруюць ад выстаўкі да выстаўкі. Яшчэ не створаны намі палотны, якія б глыбока і markznabakova ўвасаблялі тэмы рабочага класа, дружбы народаў, нашых дасягненняў у пакарэнні космасу.

На шляху пераадолення недахопаў нам неабходна вырашыць нямала складаных праблем. Напрыклад, для сённяшняга дня праблема мастацкіх пошукаў, заключаных у самой прыродзе сацыялістычнага рэалізму, застаецца адной з асноўных.

У 1918 годзе У. І. Ленін паставіў перад манументальнай прапагандай сапраўды рэвалюцыйныя задачы. Ажыццяўленне гэтага плана — сапраўдны «вялікі сінтэз», мэта якога — арганічнае ўваходжанне мастацтва ў жыццё народа. Беларускія скульптары-манументалісты і архітэктары дзейсна



У ПРЭЗІДЫУМЕ ПЛЕНУМА. ВЫСТУПАЕ КАНДРАТ КРАПІВА.

Фота Ул. КРУКА.

рашаюць творчыя задачы, звязаныя з увекавечваннем памяці герояў і гераічных падзей. Хатынскі і Брэсцкі мемарыялы, Курган Славы, помнікі Я. Купалу і Я. Коласу — сведчаць пра гэта.

Адной з цудоўных наватарскіх якасцей савецкага мастацтва з'яўляецца адзінства і ўзаемасувязь нацыянальных мастацкіх школ. Мастацкія дасягненні аднаго народа памагаюць у развіцці іншым. У работах нашых беларускіх майстроў можна прасачыць творчае скарыстанне вопыту мастацтва розных гістарычных перыядаў і розных народаў. Напрыклад, гэта выразна прасочваецца ў карцінах М. Савіцкага. І разам з тым М. Савіцкі застаецца сапраўды нацыянальным беларускім мастаком, у аснове твораў якога — глыбокае асэнсаванне гісторыі і сучаснасці Беларусі, яе людзей — высакародных, гордых, мужных.

Як відаць з нашых выставак, вядучыя тэмы мастацтва рэспублікі — гераічныя падзеі Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, Вялікай Айчыннай вайны, змаганне беларускіх партызан і падпольшчыкаў супраць фашысцкіх захопнікаў. У тэме Вялікай Айчыннай вайны поўна і гарманічна ўвасабляецца эстэтычны ідэал савецкага чалавека: гэта заўсёды чалавек, які вышэй за ўсё ставіць інтарэсы сваёй сацыялістычнай Айчыны, здольны ў любы момант на подзвіг, здольны да ахвяр у імя Айчыны. Прыгажосцю подзвігу, як вышэйшага выяўлення чалавечага духу, азораны і слаўныя старонкі рэвалюцыйнага мінулага нашага народа, і мірная стваральная праца сённяшніх дзён.

Мы, мастакі, у вялікім даўгу перад сучаснікам, героем нашых дзён. Мала ў нас твораў, якія глыбока б увасобілі прыгажосць працоўнага подзвігу рабочага, працаўніка палёў, вучонага.

Адна з найбольш прагрэсіўных тэндэнцый нашага савецкага мастацтва — яго інтэрнацыяналізм, сцвярджэнне ў вобразах станоўчага героя нашых грамадскіх ідэалаў. У беларускім мастацтве паслядоўна развіваюцца тыя яго якасці, якія ўласцівы ўсяму савецкаму мастацтву ўвогуле. Нашым тэарэтыкам яшчэ прадстаіць абагуліць многае ў складаным і шматгранным працэсе ўзаемаўзбагачэння і ўзаемаўплыву нацыянальных культур Краіны Саветаў. Беларускаму выяўленчаму мастацтву, мне здаецца, менш за ўсё ўласціва імкненне да нацыянальнай замкнёнасці — і ў гэтым закладзены станоўчыя перспектывы яго развіцця.

Мастацтва сённяшняга дня надзвычай дынамічнае. Мастацкія ідэі, народжаныя той або іншай нацыянальнай школай, хутка становяцца ўсеагульным здабыткам. У поспеху беларускай нацыянальнай школы выяўленчага мастацтва ўвасоблены дасягненні нацыянальных школ братніх рэспублік, і мы заўсёды шчыра радуемся, калі нашы сціплыя дасягненні служаць справе развіцця мастацтва братніх нацыянальных рэспублік, справе развіцця ўсяго савецкага выяўленчага мастацтва.

Іменна таму не выпадковы поспех беларускіх выставак за межамі нашай краіны. Іменна пагэтаму станоўча адзначана на абмеркаванні і ў цэнтральнай прэсе наша занальная выстаўка ў Маскве.

У нас у рэспубліцы шырыцца рух па паляпшэнні работы ў галіне эстэтычнага выхавання працоўных. Паступова гэты рух пераходзіць ад колькасных паказчыкаў да якасных. Выставачная дзейнасць, шэфскія сувязі Саюза мастакоў БССР, тыдні выяўленчага мастацтва становяцца канкрэтней і глыбей. Гэта відаць у сувязях нашых мастакоў з школьнікамі, працаўнікамі сяла, воінамі Савецкай Арміі.

Гаворачы ў цэлым пра наша мастацтва, можна адзначыць узмоцненыя пошукі мастакоў не толькі ўшыркі — па лініі новых тэм і сюжэтаў, але і ўглыб — у бок грунтоўнага аналізу псіхалагічнага, філасофскага, эмацыянальнага стану душы персанажа, душы мастака.

Шырокія творчыя гарызонты адкрывае перад мастакамі наша рэчаіснасць. Як і ўся творчая інтэлігенцыя, мастакі Савецкай Беларусі, натхнёныя поспехамі сваёй краіны, ідуць насустрач святу 50-годдзя ўтварэння СССР з новымі творчымі поспехамі, з заклапочаным роздумам аб тым, што яшчэ трэба зрабіць.

# ЭПОХА, ЖЫЦЦЁ, МУЗЫКА

## *З даклада старшыні праўлення Саюза кампазітараў БССР Р. ШЫРМЫ*

САВЕЦКІЯ ЛЮДЗІ ганарацца тым, што наша мастацтва з'яўляецца важным фактарам выхавання чалавека камуністычнага грамадства, фарміруе ў ім пачуццё інтэрнацыянальнай дружбы. Музыка таксама мае вялікі ўплыў на эмацыянальны свет чалавека. Беларускія кампазітары, аб'яднаныя ў творчым саюзе, разумеюць сваю адказнасць перад партыяй і народам. Яны даюць прыклады натхнёнага служэння высокім ідэалам, захоўваючы нацыянальныя традыцыі ў спалучэнні з ясным адчуваннем прынцыпаў інтэрнацыяналізму.

Прынцып спалучэння нацыянальнага з інтэрнацыянальным заўсёды ляжаў у аснове дзейнасці беларускай кампазітарскай арганізацыі. Мы можам прыгадаць тое, што асновы беларускай прафесійнай музыкі закладзены пасланцамі рускага народа кампазітарамі Мікалаем Чуркіным, Яўгенам Цікоцкім, Аляксеем Туранковым і цяперашнім старэйшынай беларускіх кампазітараў Мікалаем Ільічом Аладавым. Чуркін вучыўся ў Тыфліскім музычным вучылішчы ў рускага кампазітара Іпалітава-Іванава. Цікоцкі, Аладаў і Туранкоў музычную адукацыю набылі ў Петраградзе. Прыехаўшы ў Беларусь, яны аддалі ўвесь свой талент, усю сваю энергію і працавітасць музычнай культуры беларускага народа. Першыя сімфоніі, першыя оперы створаны імі. Незабыўны, глыбокі след пакінула шматгадовая дзейнасць у Мінску таленавітага рускага кампазітара Васілія Андрэевіча Залатарова, які стварыў шэраг выдатных твораў беларускай савецкай музыкі, выхаваў цэлую плеяду беларускіх кампазітараў на чале з цяперашнім прафесарам—кампазітарам Анатолем Багатыровым.

У нас наладжаны дружалюбныя сувязі з кампазітарскімі арганізацыямі братніх саюзных і аўтаномных рэспублік Савецкага Саюза. Мы часта выязджаем за межы Беларусі, прымаем удзел у рабоце іхніх з'ездаў і пленумаў, выступаем з канцэртамі і творчымі справаздачамі. І да нас прыязджаюць кампазітары, музыказнаўцы, музыканты-выканаўцы з многіх братніх рэспублік.

Гэта вельмі патрэбная і карысная дзейнасць. Аднак гэта толькі вонкавая ўзаемадзейнасць музычных культур народаў Савецкага Саюза. Значна вышэйшай з'яўляецца ўнутраная сутнасць гэтай сувязі, якая выяўляецца ў творчасці кампазітараў, у іх канкрэтных творах.

Так, напрыклад, беларускія кампазітары, ствараючы вакальныя творы, часта звяртаюцца да паэзіі народаў братніх рэспублік. У адным толькі спіску паэтаў, вершы якіх паклаў на музыку Яўген Цікоцкі, мы бачым імёны М. Горкага, Веры Інбер, Эдуарда Багрыцкага, Тараса Шаўчэнкі, Аляксея Суркова, Самуіла Маршака, Сільвы Капуцікян, Максіма Рыльскага. Глыбокія па музыцы рамансы створаны Багатыровым на вершы Лермантава, Пушкіна, Ахматавай і іншых. Прыгожы цыкл рамансаў «Мелодыі» напісаў Дзімітры Лукас на словы Лесі Украінкі. Сімфанічная паэма «Попел» напісана Сяргеем Картэсам на тэксты літоўскага паэта, лаўрэата Ленінскай прэміі Эдуардаса Межэлайціса. Гэта толькі пасобныя прыклады: іх можна прывесці значна больш.

Рускія кампазітары, са свайго боку, таксама не застаюцца ў даўгу. Так, В. Шэбалін напісаў шэсць хораў на тэксты Максіма Танка. Старэйшы кампазітар Андрэй Пашчанка зрабіў 24 аранжаманты беларускіх народных песень і сем арыгінальных хораў на словы Янкі Купалы, Максіма Танка, Петруся Броўкі. Ленінградскі кампазітар В. Салманаў і маскоўскі Г. Фрыд далі нам цыкл харавых твораў на словы Янкі Купалы. Кампазітары А. Ленскі, А. Фляркоўскі, Г. Смірнова, Г. Брук, Я. Саладуха напісалі некалькі дзесяткаў харавых твораў на вершы Я. Купалы, М. Танка, П. Броўкі, А. Бялевіча, А. Бачылы, А. Ставера і іншых.

Гадоў сорак таму назад вялікі рускі пісьменнік М. Горкі выказаў такую думку: «Было б ідэальна, калі б кожны твор адной народнасці, уваходзячай у Саюз, перакладаўся на мовы ўсіх іншых народнасцей Саюза. У гэтым выпадку мы хутчэй навучыліся б разумець нацыянальна-культурныя ўласцівасці і асаблівасці адзін аднаго, а гэтае разуменне вельмі паскорыла б працэс стварэння той адзінай сацыялістычнай культуры, якая, не сціраючы індывідуальных рыс твару усіх плямёнаў, стварыла б адзіную велічную, грозную і абнаўляючую увесь свет сацыялістычную культуру».

Гэтая, правільная ў адносінах да мастацкай літаратуры, думка Горкага ў стасаванні да музычнага мастацтва павінна быць крыху зменена. Музыка не патрабуе перакладу з адной нацыянальнай мовы на іншую. Музычная мова інтэрнацыянальная і ў гэтым адна з прычын той вялізнай ролі, якую адыгрывае музыка ў пытаннях узаемасувязі народаў і выхаванні пачуцця дружбы. Але музыка вымагае іншага: надрукаваную кнігу кожны, хто пажадае, можа ўзяць і прачытаць; сімфонію і оперу так не прачытаеш, і тыя лепшыя творы, што нарадзіліся ў Кіеве або Кішынёве, Вільнюсе або Рызе, Ерэване або Баку, Алма-Аце або Ташкенце павінны быць выкананы ў Мінску, каб мінчане з імі пазнаёміліся. А такі абмен паміж Беларуссю і іншымі рэспублікамі яшчэ недастатковы. Мы вельмі мала чулі з таго, што стварылі буйнейшыя кампазітары братніх рэспублік.

Вось наш тэатр оперы і балета. Неяк давялося прагледзець яго рэпертуар за ўсе гады. Што было пастаўлена на яго сцэне з твораў кампазітараў братніх рэспублік, акрамя рускіх? Зусім мала: опера Мейтуса «Маладая гвардыя», балеты «Сцежкамі грому» Кара-Караева і «Спартак» Хачатурана. Зараз ставіцца опера Атара Тактакішвілі «Міндзія». Ці не замала?! Дзе оперы «Берагбур» Эрнесакса, оперы «Агні помсты», «Пясняр свабоды», балеты «Калевіпоэг», «Золатапраллі» Каппа, «Багдан Хмяльніцкі» Данькевіча, «Мілана» і «Арсенал» Майбарады, «Легенда аб каханні» Мелікава, «Шакунтала» Баласаняна, «Шуралє» Яруліна, оперы і балеты Жыганава, Губарэнкі, Юзелюнаса, Лазарава? Гэты пералік можна прадоўжыць, і тут знайшлося б нямала добрых твораў, добрай музыкі.

І наш сімфанічны аркестр толькі ад выпадку да выпадку, а не сістэматычна знаёміць беларускіх аматараў музыкі з тым лепшым, што створана кампазітарамі іншых рэспублік.

Праўда, і беларускія творы гучаць за межамі нашай рэспублікі не так часта і рэгулярна, як нам таго хацелася б. Тут мы адзін перад адным вінаваты; гэта праблема, якая павінна рашацца ва ўсесаюзным маштабе...

...Ад імя беларускай музычнай грамадскасці скажам, што кампазітары рэспублікі, усведамляючы значэнне мастацтва ў ідэалагічнай барацьбе, прыкладуць усе намаганні, каб даць высокамастацкія творы, прасякнутыя духам партыйнасці і народнасці, прысвечаныя жыццю і подзвігам савецкіх людзей — будаўнікоў камуністычнага грамадства.

# НАШЫ СЭРЦЫ—ТВАЕ, РОДНАЯ ПАРТЫЯ!

## ЗАДАЧЫ ПАЧЭСНЫЯ, АДКАЗНАСЦЬ ВЯЛІКАЯ

*З даклада сакратара праўлення Саюза кінематаграфістаў БССР*

*І. ДАБРАЛЮБАВА*

ПАРТЫЙНЫЯ дакументы, у прыватнасці, рашэнні XXIV з'езда КПСС і Пастанова ЦК КПСС «Аб мерах па далейшаму развіццю савецкай кінематаграфіі далі грунтоўны аналіз працэсаў, якія адбываюцца ў мастацтве.

Мы, кінематаграфісты, успрымаем указанні Камуністычнай партыі аб далейшым росквіце экраннага мастацтва і як глыбокі тэарэтычны дакумент, і як практычную праграму дзейнасці.

Кінематограф Беларусі мае свае здабыткі, але ёсць прычыны і для засмучэння. Агульнае наша імкненне і жаданне — працаваць па высокіх крытэрыях, ліквідаваць прычыны, па якіх усё яшчэ з'яўляюцца стужкі пасрэдныя.

На працягу ўсёй сваёй гісторыі беларускае кіно карысталася братняй дапамогай дзеячоў кінамастацтва Масквы, Ленінграда, Украіны. І нездарма лепшыя фільмы, якія вітаў усесаюзны глядач, створаны нашай студыяй пры актыўным удзеле сцэнарыстаў, рэжысёраў, артыстаў, мастакоў, аператараў, што набывалі свой вопыт на студыях амаль усёй нашай краіны.

Створана велічная кінапанарама жыцця беларускага народа, і стужкі мастацкага і дакументальнага кінематографа, адлюстроўваюць усе вехі слаўнай гісторыі, ратнага і працоўнага подзвігу савецкіх людзей.

Цяпер адбываецца працэс абнаўлення творчага калектыву беларускіх кінематаграфістаў. Маладыя творчыя работнікі ўсё больш упэўнена набываюць майстэрства і вопыт, і яны, па сутнасці, вызначаюць сёння аблічча «Беларусьфільма». Яны працуюць з веданнем папярэдняга шляху студыі, вывучаючы вопыт прадстаўнікоў старэйшага і сярэдняга пакалення майстроў, а часта і пад непасрэдным творчым кіраўніцтвам вядомых рэжысёраў, аператараў, здольных быць дарадчыкамі і дапамагаць маладым калегам авалодваць прафесійнай культурай. Зразумела, што пытанне фарміравання светапогляду маладых мастакоў, выпрацоўкі ў іх ясных ідэйна-эстэтычных пазіцый, — пытанне, якое і сёння хвалюе наш калектыў.

Вопытныя майстры і маладыя работнікі задумваюцца над тым, што мы, як мастакі, робім сёння і што будзем рабіць заўтра, ці дастаткова адказна вырашаюцца намі велічныя задачы, ускладзеныя на нас часам, вызначаныя гістарычным XXIV з'ездам КПСС.

Гісторыка-патрыятычная тэма заўсёды была генеральнай у творчасці беларускіх кінематаграфістаў. І гэта не выпадкова. Летапіс жыцця і барацьбы нашага народа мае яркія, векапомныя старонкі.

Для мастака натуральнае імкненне раскрыць асаблівасці народа-героя, па-новаму асэнсаваць подзвіг савецкага чалавека, глыбей раскрыць унутраны свет барацьбіта. Не так знешнія абставіны, як сам чалавек і яго душэўныя якасці прыцягваюць увагу аўтараў фільмаў на гэтую тэму. І тут ад іх, вядома, прадмет мастацкага даследавання вымагае праўдзівасці і перакапальнасці, тонкасці і пільнасці, умення ствараць не толькі буйныя характары, а і перадаваць маштаб барацьбы.

З твораў на партызанскую тэму хочацца адзначыць нядаўна знятую студыяй карціну «Бацька» па сцэнарыі Р. Шмырова (рэжысёр Б. Сцяпанаў). Эмацыянальна ярка паказаны ў ёй слаўуты партызанскі камандзір Мінай Піліпавіч Шмыроў, яго трагедыя і яго самаахвярны подзвіг. У выкананні галоўнай ролі артыст Ю. Гарабец падкрэсліў індывідуальны характар канкрэтнага чалавека і паказаў тыповыя рысы камуніста, партызанскага важака.

Да поспеху адносім мы і шматсерыйны фільм «Руіны страляюць...» рэжысёра В. Чацверыкова (паводле дакументальных кніг пісьменніка І. Новікава). Гэта эпапея жыцця і змагання герояў Мінскага камуністычнага падполля ў гады фашысцкай акупацыі. Аўтары прытрымліваюцца дакументальных фактаў, даючы ім мастацкае асэнсаванне, раскрываючы маральныя вытокі патрыятычных паводзін і ўчынкаў дзеючых у фільме асоб.

Тэме баявой садружнасці беларускіх партызан і славацкіх патрыётаў, якія разам змагаліся супраць фашызму, прысвечаны новы фільм «Заўтра будзе позна» (аўтары сцэнарыя М. Крно і А. Дзялендзік, рэжысёры А. Карпаў і М. Цяпак). Гэта — сумесная пастаноўка «Беларусьфільма» і Браціслаўскай кінастудыі. На нашу думку, фільм праўдзіва перадае атмасферу суровых падзей і малюе яркія характары савецкіх людзей і славацкіх афіцэраў і салдат.

Цікавымі мастакамі зарэкамендавалі сябе маладыя рэжысёры «Беларусьфільма» — М. Калінін, які паставіў фільм «Рудабельская рэспубліка», В. Нікіфараў — пастаноўшчык фільма «Зімародак» і некаторыя іншыя маладыя работнікі.

І ўсё ж, калі мы аналізуем зробленае намі ў апошнія гады, бачым і многія недахопы. Зусім слушна гаварыў першы сакратар ЦК КПБ П. М. Машэраў на XXVII з ездзе Кампартыі Беларусі, што ў апошні час студыя «Беларусьфільм» выпусціла некалькі карцін аб партызанскай барацьбе, але іх пастаноўшчыкі распрацоўвалі далёка не самыя важныя аспекты гэтай тэмы. Параўноўваючы перажытае савецкім народам з тым, што з'яўляецца на экране, мы бачым наколькі яшчэ далёкія нашы кінематаграфісты ад сапраўдных маштабаў падзей і вобразаў герояў гэтага часу...

Кінематаграфісты рэспублікі робяць для сябе глыбокія высновы з гэтай крытыкі і прымаюць захады, каб студыя выпускала творы зартыя подзвігу нашага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Адным з такіх фільмаў будзе двухсерыйная кінаэпапея «Полымя», якая дасць маштабны размах усенароднай барацьбы з фашызмам, пакажа веліч легендарных беларускіх народных мсціўцаў.

...Экранныя творы, прысвечаныя праблемам сённяшняга дня, таксама выклікаюць справядлівыя нараканні з боку грамадскасці. Замест глыбокага асэнсавання сучасных з'яў, маштабнага паказу карэнных перамен у нашым грамадстве, часамі з'яўляюцца лёгкадумныя, па-рамесніцку зробленыя, заснаваныя на пасрэдным драматургічным матэрыяле стужкі. Прыклад гэтаму хоць бы карціна «Дзесятая частка шляху» (сцэнарыст С. Кара, рэжысёр Ю. Дубровін). Наўрад ці выявіць штосьці новае для сябе глядач і ў новай стужцы нашай студыі — «Залаты ганак» (па сцэнарыі С. Палякова яго паставіў рэжысёр І. Шышоў). А як многа «вады» было ў фільме «Неспадзяванае каханне», зробленым І. Шульманам па літаратурным сцэнарыі Г. Бекарэвіча і Ф. Конева! Апошняя няўдача тым больш крыўдная, што героямі гэтай стужкі павінны былі быць працаўнікі сённяшняй калгаснай вёскі...

Застарэлая «хвароба» студыі «Беларусьфільм» —сцэнарная праблема. Нам не хапае і дагэтуль цікавых па задуме, маштабных і арыгінальных, па-творчаму глыбока распрацаваных літаратурных твораў, прызначаных кінематографу. Нам трэба захоўваць ранейшыя і наладжваць новыя сувязі з пісьменнікамі і журналістамі.

Цэнтральны Камітэт КПСС нацэльвае работнікаў кіно на рашучы ўздым творчай дзейнасці, заклікае забяспечыць высокую ідэйнасць экранных твораў, быць непрымірымымі да розных праяў буржуазнай ідэалогіі. Беларускія кінематаграфісты ўспрымаюць гэта як наказ, як надзённае патрабаванне да калектыву студыі і ўсяго творчага саюза.

## У ІМЯ ЧАЛАВЕКА

*З даклада старшыні праўлення Саюза архітэктараў БССР Ю. ШПІТА*

ЗА ГАДЫ, што прамінулі з часу заснавання Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, архітэктура Савецкай Беларусі разам з архітэктурай усёй краіны прайшла вялікі і складаны шлях: ад першых драўляных аднапавярховых дамоў для рабочых, якія маладая рэспубліка пабудавала ў пачатку дваццатых гадоў, да сённяшніх новых гарадоў і пасёлкаў, вялізных прамысловых прадпрыемстваў і комплексаў... Сярод тысяч самых разнастайных пабудоў многія ўзведзены па праектах архітэктараў братніх рэспублік — Г. Лаўрова і І. Запарожца, В. Яршова і М. Паруснікава, І. Лангбарда і В. Сямёнава, Г. Баданава і Б. Рубаненкі, якія не аднойчы памагалі малалікаму на першым часе атраду беларускіх дойлідаў. Гэтая братэрская дапамога сімвалізуе непарушную дружбу народаў нашай краіны.

Цяпер усе мы ганарымся нашым Мінскам, які паўстаў з руін, адноўленымі Гомелем, Магілёвам, Віцебскам, новымі гарадамі — Светлагорскам, Наваполацкам, Салігорскам, пераўтворанымі беларускімі сёламі. А ўсяго дваццаць пяць гадоў назад дзвесце нашых гарадоў, дзевяць тысяч сёлаў, 23 тысячы грамадскіх пабудоў, дзесяць тысяч прамысловых прадпрыемстваў і семдзесят працэнтаў жытла ляжалі ў руінах!.. Якая ж была патрэбна сіла, каб усё гэта аднавіць!.. Гэтая сіла ніколі не пакідала наш народ, краіну, дэвіз якой — стварэнне ў імя чалавека. Нам, дойлідам Савецкай Беларусі, прыносіць задавальненне тое, што часцінка і нашае працы ў адноўленых гарадах і сёлах, новых гарадах, плошчах, вуліцах, разнастайных будынках і манументах.

Не заўсёды спадарожнічалі нам удачы. Але яны былі. Ленінскі праспект беларускай сталіцы, Палац спорту, плавальны басейн, гасцініцы «Юбілейная» і «Турыст», павільён Выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі БССР у Мінску, пасёлак Верцялішкі, Курган Славы, мемарыяльныя комплексы ў Хатыні і Брэсце і многае іншае з творчасці нашых архітэктараў апошніх гадоў вядома не толькі ў Беларусі. Праца многіх архітэктараў па вартасці ацэнена савецкім народам.

З кожным годам у рэспубліцы ўсё больш актыўна праяўляе сябе галоўная асаблівасць архітэктуры нашай краіны — непасрэдны ўдзел як у стварэнні матэрыяльна-тэхнічнай базы грамадства, так і ў фарміраванні духоўнага свету людзей. Наша архітэктура, з аднаго боку, ствараючы матэрыяльна арганізаванае асяроддзе для працы, адпачынку, побыту, выступае як разнавіднасць матэрыяльнай культуры. А з другога — яна не механічна стварае асяроддзе, а фарміруе яго паводле законаў прыгажосці, тым самым уплываючы на фарміраванне нашай свядомасці, ідэалогіі, светапогляду, выступаючы як мастацтва. У самой сутнасці прафесіі архітэктара—вялікая сацыяльная адказнасць.

Размяшчэнне вытворчых сіл і стварэнне новай сістэмы рассялення, будаўніцтва гарадоў і жытла, фарміраванне прамысловых і сельскагаспадарчых комплексаў, індустрыялізацыя і эканоміка будаўніцтва, добраўпарадкаванне гарадоў і ахова прыроды — вось далёка няпоўны пералік праблем, над вырашэннем якіх працуюць 450 членаў Саюза архітэктараў БССР.

Няспынна расце аб'ём капітальнага будаўніцтва ў рэспубліцы. У бягучай пяцігодцы асвойваюцца мільярдныя сумы рублёў, якія ў паўтара раза перавышаюць адпаведныя выдаткі папярэдніх пяці гадоў. На гэтыя сродкі будуюцца тысячы новых — вялікіх і малых — аб'ектаў у гарадах і сёлах Беларусі. І ў кожны з іх будзе ўкладзена натхненне архітэктара. І стаяць ім дзесяткі і сотні гадоў. І ад таго, наколькі дасканалыя будуць творы архітэктуры, наколькі будуць яны задавальняць матэрыяльныя і духоўныя патрэбнасці людзей, залежыць грамадская каштоўнасць нашай працы твор дойліда. Калі ён шэры і бязлікі, дзесяцігоддзямі і стагоддзямі спараджае ў людзей раўнадушнасць і сум — бо архітэктурны твор не здымеш са сцяны, як гэта можна зрабіць з кепскай карцінай, не выключыш з праграмы канцэрта, як гэта можна зрабіць з кепскай песняй. Архітэктары павінны ўсе сілы накіраваць на павышэнне якасці нашай архітэктуры, на павышэнне эстэтычнага ўзроўню забудовы нашых гарадоў і сёлаў, узроўню іх добраўпарадкавання.

Асновай усебаковага павышэння якасці архітэктуры — галоўнай нашай задачы на бліжэйшыя гады — з'яўляецца **павышэнне архітэктурнага майстэрства нашых дойлідаў.** Пра майстэрства мы гаворым часта. Але нярэдка яшчэ забываем, што галоўны паказчык майстэрства дойліда — яго здольнасць падысці да сваёй задачы комплексна — запраектаваць збудаванне не толькі зручнае, трывалае, эканамічнае, але і прыгожае, запамінальнае, эмацыянальна выразнае.

Мы стаім перад вострай неабходнасцю зразумець, знайсці і практычна асвоіць новыя тэхнічныя, кампазіцыйныя заканамернасці і магчымасці архітэктуры паўназборных індустрыяльных збудаванняў. Мы павінны раскрыць магчымасці мастацкай выразнасці, закладзеныя ў сучаснай будаўнічай тэхніцы, будаўнічых матэрыялах, творча перанесці на беларускую глебу лепшае з дасягненняў савецкай і сусветнай архітэктуры паўназборных будынкаў, падняцца ў гэтай галіне да ўзроўню сапраўднага майстэрства.

Мы жывём у такі час, калі разам з асваеннем ужо вядомага ярка выяўляецца патрэбнасць у **сапраўдным наватарстве,** здабытым упартаю працаю майстра, які не ідзе пратораным шляхам. Мы развіваем удумлівую і аб'ектыўную крытыку архітэктуры, якая спрыяла б развіццю нашага прафесійнага майстэрства, пераадоленню кансерватызму, руху наперад.

Асаблівае месца сярод нашых творчых праблем займае **праблема сінтэзу архітэктуры, манументальнага і дэкаратыўнага мастацтва.** Сінтэза арганічнага, абумоўленага логікаю будаўнічай і мастацкай формы. Творчая садружнасць архітэктара і мастака сёння служыць высокай мэце манументальнай прапаганды нашага светапогляду, эстэтычнаму выхаванню чалавека новага грамадства. Прыклад сапраўднага сінтэзу мастацтваў — мемарыяльны комплекс у Хатыні. Тут архітэктурныя і выяўленчыя формы гавораць суладна. Значную ролю ў эмацыянальнай выразнасці мемарыялу адыгрываюць музыка і слова. Як бачым, сінтэз архітэктуры і іншых відаў мастацтва трэба разумець шырэй, чым дагэтуль. Сёння ўзаемадзеянне мастацтваў, аб'яднаных вялікай агульнай ідэяй, здольнае стварыць творы вялізнай сілы ўздзеяння. Узаемадзеянне мастацтваў у сінтэзе, месца і ролю кожнага з іх неабходна вызначаць **ужо на першых этапах стварэння нашых твораў.** Бо ў адваротным выпадку зноў станем дапускаць «прыхарошванне» архітэктуры. Іменна ад гэтага засцерагаў У. І. Ленін, які ў гутарцы з архітэктарам І. Жалтоўскім заклікаў дойлідаў рабіць прыгожа, але толькі без мяшчанства.

Мяшчанскай безгустоўшчыне, глыбока чужой нашай архітэткуры, ставіць надзейны заслон цеснае супрацоўніцтва, якое акрэслілася ў нас з Саюзам мастакоў БССР.

Сустракаючы слаўнае пяцідзесяцігоддзе заснавання СССР, архітэктары Савецкай Беларусі поўныя жадання і натхнення аддаваць і надалей усе свае веды і творчы талент стварэнню такіх твораў, якія з яшчэ большай сілай, чым дагэтуль, адлюстроўвалі б велічныя здзяйсненні нашай эпохі.

## РЭЧАІСНАСЦЬ У СВЯТЛЕ РАМПЫ

*З даклада старшыні праўлення Беларускага тэатральнага аб'яднання*

*Л. АЛЕКСАНДРОЎСКАЙ*

СЁННЯШНІ дзень нашай краіны з'яўляецца ступенню да заўтрашняга дня, да будучага камуністычнага грамадства, гэта ён прымушае пісьменніка і драматурга пісаць, рэжысёра выбраць іменна гэты твор, а акцёра, як сааўтара,—ствараць вобразы, якія нарадзіліся з нашага сучаснага. Таму і значэнне і

ўплыў тэатральнага мастацтва ў савецкім грамадстве — велізарнае.

Аўдыторыя ў нас, артыстаў драмы і оперы, балета і музычнай камедыі, эстрады і філармоніі, — шматмільённая. Штовечар адбываюцца часамі незабыўныя, сапраўды святочныя сустрэчы працоўных з сапраўдным мастацтвам.

Я памятаю канцэрт у вёсцы непадалёку ад Свіслачы. Канцэрт адбываўся ў школе. Не было піяніна. Але ў кагосьці на кватэры быў гэты музычны інструмент. Калі даведаліся, што прыехала ў вёску група артыстаў з «свайго беларускага опернага тэатра» — гаспадары гэтага піяніна далі згоду аднесці яго ў школу. Народу сабралася ў школе, як кажуць — яблыку не было дзе ўпасці! Стаялі прыціснуўшыся адзін да аднаго, а за вокнамі школы яшчэ стаялі жадаючыя паслухаць... Сэрца замірала ад таго, як слухалі канцэрт сяляне!..

Народ адзначыў у сваіх песнях і радасць, і гора, і надзеі, і непахісную веру ў наша СЁННЯ, — і радаснае, светлае, яснае ЗАЎТРА. Праз вякі пранёс ён сваю народную творчасць і ў чысціні захаваў да нашых дзён.

Усе тэатры, як абласныя, так і рэспубліканскія, рыхтуюцца сустрэць гэтае свята не толькі як усенароднае свята, але і як адказны экзамен.

Калектыў тэатра оперы і балета, выконваючы сацыялістычныя абавязацельствы, узятыя ў гонар 50-годдзя СССР — палепшыў творчую і арганізацыйную работу і дабіўся некаторых поспехаў. У юбілейным годзе ў тэатры адбыліся прэм'еры: опер — «Пікавая дама» Чайкоўскага і «Фаўст» Гуно, і балета «Раймонда». Да свята 50-годдзя будзе паказана опера грузінскага кампазітара Тактакішвілі «Міндзія». Дырэкцыя тэатра Грузіі і Беларускай оперы дамовіліся аб абмене ў гэтым спектаклі выканаўцамі: грузінскія ў беларускім, а беларускія ў грузінскім.

Тэатр умацоўвае брацкую дружбу з тэатрамі саюзных рэспублік. Ужо адбыўся фестываль майстроў опернага і балетнага мастацтва з удзелам вядучых выканаўцаў буйнейшых тэатраў краіны, рэгулярна арганізоўваюцца гастрольныя абмены выканаўцамі вядучых партый, роляў.

Калектыў Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы знаходзіцца пад свежым уражаннем ад гастрольнай паездкі ў сталіцу, ад сустрэч з патрабавальнымі і гасціннымі масквічамі і гасцямі Масквы. Выступленні купалаўцаў адбываліся на славутай мхатаўскай сцэне — вялікі гонар для любога тэатра. З друку мы ведаем, што гастролі купалаўцаў былі высока ацэнены, як за рэпертуарнае багацце, так і ўзровень сцэнічнай культуры купалаўскай трупы. Адбылося змястоўнае і ўсебаковае абмеркаванне зробленага тэатрам.

Новай старонкай у творчым жыцці тэатра імя Я. Коласа з'явілася работа калектыву над інсцэніроўкай рамана І. Шамякіна «Снежныя зімы». Людзі на зямлі павінны быць шчаслівымі. Дзеля гэтага яны ваююць, дружаць, любяць — адным словам жывуць на свеце. Так жывуць і дзейнічаюць героі ў рамане І. Шамякіна «Снежныя зімы». Жыццё іх складанае, разнастайнае, але цікавае. Гэта складаная творчая задача калектывам тэатра і пастаноўшчыкам С. Казіміроўскім у асноўным вырашана.

Ёсць прыкметны плён і ў творчай дзейнасці Рускага тэатра БССР імя М. Горкага, які быў адзначаны за поспехі на гастролях ганаровымі граматамі Ленсавета і Прэзідыума Вярхоўнага Савета Эстонскай ССР. Яркія работы паказвае Гомельскі абласны драматычны тэатр (галоўны рэжысёр — народны артыст БССР І. Папоў). Ён узнагароджаны пераходным Чырвоным сцягам ВЦСПС і Міністэрства культуры СССР, а за шэфскую работу на вёсцы — Чырвоным сцягам і грашовай прэміяй ЦК прафсаюза работнікаў культуры і Цэнтральнай камісіі па шэфству над вясковым гледачом. Гэта — прыклад для ўсіх тэатраў рэспублікі.

Ідучы насустрач 50-годдзю Савецкай дзяржавы, творчыя калектывы, канцэртныя брыгады і салісты філармоніі значна абнавілі свой рэпертуар, папоўніўшы яго ў першую чаргу за кошт лепшых узораў музычнага мастацтва і літаратуры брацкіх рэспублік. З 27 канцэртных праграм, падрыхтаваных нашымі калектывамі 18 праграм цалкам складаюцца з твораў савецкіх аўтараў.

Вялікая музыкальна-асветная работа філармоніі па лініі абслугоўвання універсітэтаў культуры, арганізацыі лекцый-канцэртаў звязана перш за ўсё з шырокай прапагандай многанацыянальнай савецкай музыкі. Лектарныя брыгады, асобныя камерныя групы і выканаўцы падрыхтавалі спецыяльныя тэматычныя праграмы, з якімі яны выступаюць у рабочых аўдыторыях, перад працаўнікамі сяла і новабудоўляў, у школах і вышэйшых навучальных установах рэспублікі.

Беларускае тэатральнае аб'яднанне наладзіла шэраг мерапрыемстваў, якія спрыялі замацаванню творчай садружнасці паміж дзеячамі сцэны і пісьменнікамі, кінематаграфістамі, работнікамі радыё і тэлебачання; адбыліся канферэнцыі ўсесаюзнага і рэспубліканскага маштабу: былі праведзены семінары творчай моладзі, камандзіроўкі для прагляду спектакляў лепшых тэатраў братніх рэспублік...

Сцэнічнае мастацтва ганарыцца тым, што ў святле рампы прадстае наша цудоўная рэчаіснасць, наш сучаснік, наш час.

# СРОДКАМІ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ

## *З даклада намесніка старшыні праўлення Саюза журналістаў БССР М. ДЗЯЛЬЦА*

АЛЯКСЕЙ МАКСІМАВІЧ ГОРКІ, які лічыў сябе старым газетчыкам, неяк заўважыў, што ўзровень культуры народа правільна вымяраецца колькасцю выдаваемых у краіне кніг і газет. Мы рады далажыць нашаму аб'яднанаму пленуму, што Саюз журналістаў рэспублікі цяпер прадстаўляе 11 рэспубліканскіх і 6 абласных, 117 раённых і аб'яднаных, 34 гарадскія і шматтыражныя газеты, а таксама 103 часопісы і выданні часопіснага тыпу. Агульны тыраж перыядычных выданняў па рэспубліцы цяпер складае каля 6 млн. экземпляраў. Дванаццаць беларускіх выдавецтваў толькі ў мінулым годзе выпусцілі 2.600 розных кніг, тыраж якіх склаў 26 мільёнаў, 221 тысячу 700 экземпляраў.

Вялікая армія работнікаў нашага друку бачыць сваё прызванне ў тым, каб штодзённа і штогадзінна несці ў масы ідэі партыі, словы партыі, усёй сілай свайго грамадскага ўплыву дапамагаць партыі згуртоўваць масы, накіроўваць іх намаганні на выкананне важнейшых народнагаспадарчых задач, на ажыццяўленне гістарычных рашэнняў XXIV з'езда КПСС.

Савецкі друк правільна называюць магутнай зброяй партыі і сацыялістычнай дзяржавы, дзейсным інструментам іх палітыкі, правадніком партыйных ідэй, важным сродкам развіцця творчай актыўнасці працоўных. Трэба адзначыць, што ў гэтай ісціне ніколькі не сумняваемся не толькі мы, але і нашы ідэйныя праціўнікі. Калі яны кідаюць у бой свой вялізны прапагандысцкі апарат, калі выкарыстоўваюць усе магчымыя прыёмы, метады, сродкі ідэалагічнага ўздзеяння, жадаючы ідэйна раззброіць або пахіснуць савецкі народ, працоўных другіх сацыялістычных краін, дык не выпадкова аб'ектам самых вострых атак выбіраюць ленінскія прынцыпы дзейснасці сацыялістычнага друку. Выбіць з рук партыі і працоўных гэтую зброю, прытупіць яе вастрыё, дабіцца яе «трансфармацыі» і падрыхтаваць такім чынам наступленне на галоўным, асноўным напрамку — запаветная мара імперыялістычных ідэолагаў.

Вось чаму савецкі друк лічыць сваёй важнейшай задачай з ленінскай паслядоўнасцю і прынцыповасцю рашуча выкрываць падкопы ідэалагічных дыверсантаў імперыялізму, выхоўваць у нашых людзей пачуццё гордасці за свой савецкі спосаб жыцця, за вялікія заваёвы сацыялізму, які звязаў разам інтарэсы асобы з інтарэсамі ўсяго працоўнага народа, за гонар любімай Айчыны.

Пытанне аб задачах рэспубліканскага друку ў сувязі з падрыхтоўкай да 50-годдзя ўтварэння СССР мы яшчэ ў пачатку года абмеркавалі на другім пленуме Саюза журналістаў. Пленумы з такім жа пытаннем былі праведзены і ў абласных арганізацыях Саюза журналістаў. На іх былі зацверджаны мерапрыемствы, якія леглі ў аснову дзейнасці рэдакцыйных калектываў у юбілейным годзе.

Ажыццяўляючы гэтыя мерапрыемствы, сакратарыят праўлення Саюза разам з іншымі грамадскімі арганізацыямі, а таксама многія рэспубліканскія і абласныя газеты, камітэты па тэлебачанню і радыё абвясцілі шэраг конкурсаў, прысвечаных слаўнаму юбілею. Сярод іх такія, як конкурс на лепшае апавяданне, нарыс, верш і рэпартаж, дэвіз якога «Шчасця, славы і дружбы Саюз», а таксама конкурсы на лепшае асвятленне шматтыражнымі газетамі і рэдакцыямі заводскага радыёвяшчання падрыхтоўкі да 50-годдзя ўтварэння СССР, на лепшае асвятленне ваенна-патрыятычнай тэматыкі, на лепшы матэрыял аб маладым рабочым і іншыя.

У апошні час у нас створана спецыяльная конкурсная камісія, якая кіруе работай па арганізацыі конкурсаў і падводзіць іх вынікі.

Сакратарыят праўлення Саюза разам з Міністэрствам культуры і журналістамі БЕЛТА падрыхтавалі перасоўную рэспубліканскую фотавыстаўку «50 год СССР». У многіх абласцях арганізаваны такія абласныя выстаўкі.

У гэтым годзе нямала праведзена мерапрыемстваў і арганізацыйнага характару. Гэта семінары і прэс-канферэнцыі, творчыя лятучкі і сустрэчы з журналістамі братніх рэспублік і многае іншае. Усе яны ставяць сваёй мэтай павышэнне ідэйна-творчай падрыхтоўкі, прафесійнай кваліфікацыі журналісцкіх кадраў, выхавання іх у духу партыйнай прынцыповасці і камуністычнай дзелавітасці.

Усімі сродкамі масавай інфармацыі журналісты стараюцца як мага лепш, шырэй і даходлівей паказаць, якія гістарычныя пераўтварэнні адбыліся на савецкай зямлі, дзякуючы перамозе ленінскай нацыянальнай палітыкі, што прынесла ў кожны працоўны калектыў, у кожны дом і кожную савецкую сям'ю здзяйсненне прадвызначэнняў роднай Камуністычнай партыі.

# *СУСТРЭЛІСЯ НА ПЛЕНУМЕ*



Заслужаны дзеяч мастацтваў кінааператар У. Цяслюк і народны паэт Беларусі А. Куляшоў.



Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР М. Савіцкі, мастак У. Стэльмашонак, народная артыстка СССР Л. Александроўская, народны мастак БССР А. Бембель.



Заслужаныя архітэктары БССР Ю. Шпіт і В. Ладыгіна, кандыдат архітэктуры В. Анікін,



Заслужаны дзеяч мастацтваў кінарэжысёр І. Вейняровіч, паэт А. Астрэйка, народны мастак БССР Я. Зайцаў, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР А. Шыбнёў.



Пісьменнік А. Адамовіч, заслужаная артыстка БССР Г. Маркіна, народны артыст БССР Г. Волкаў.



Кінарэжысёр І. Дабралюбаў, народныя артысты БССР А. Шэлег і М. Яроменка.

Фота Ул. КРУКА.

**У АБМЕРКАВАННІ дакладаў прынялі ўдзел: рэдактар часопіса «Маладосць» Г. Бураўкін, народны мастак рэспублікі Я. Зайцаў, старшыня Дзяржаўнага Камітэта Савета Міністраў БССР па кінематаграфіі У. Мацвееў, народны артыст БССР, акцёр Дзяржаўнага Віцебскага драматычнага тэатра імя Я. Коласа А. Шэлег, рэдактар абласной газеты «Гродненская правда» А. Богуш, дырэктар Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, член-карэспандэнт АН БССР В. Бандарчык, дырэктар Брэсцкага абласнога драматычнага тэатра імя ЛКСМБ, заслужаны дзеяч культуры БССР Л. Валчэцкі, галоўны архітэктар інстытута «Белдзяржпраект», заслужаны архітэктар рэспублікі В. Ладыгіна.**

**Удзельнікі пленума аднадушна прынялі прывітальнае пісьмо Цэнтральнаму Камітэту КПСС, Прэзідыуму Вярхоўнага Савета СССР і Савету Міністраў СССР.**

**У рабоце аб'яднанага пленума ўдзельнічалі сакратар ЦК КПБ А. Т. Кузьмін, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Л. Сняжкова, загадчыкі аддзелаў ЦК КПБ С. В. Марцалеў, С. Я. Паўлаў, адказныя работнікі Міністэрства культуры БССР, раду дзяржаўных камітэтаў Савета Міністраў БССР, творчых саюзаў рэспублікі, рэдактары газет і часопісаў, прадстаўнікі грамадскасці.**

Муза ЗАСЛОНАВА

# ...А МНЕ ЁН БЫЎ БАЦЬКАМ

*У гэтыя дні адзначаецца 30-годдзе з дня гібелі легендарнага беларускага партызана, Героя Савецкага Саюза К. С. Заслонава.*

*Яго дачка Муза Заслонава — выпускніца Усесаюзнага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі— ужо каля дзесяці год плённа працуе ў дакументальным кіно. Нядаўна яна закончыла работу над новай кінастужкай — фільм гэты прысвечаны яе бацьку.*

*Пра работу над фільмам — нататкі рэжысёра.*

ЗАВЯРШЭННЕ фільма — для рэжысёра заўсёды падзея. Здаючы мастацкаму савету кінанарыс «Бацька», я хвалявалася ўтрая больш. Бо цяжка меркаваць, атрымаўся фільм ці не. Асабліва цяпер, калі героем майго твора быў родны мне чалавек — бацька.

Да таго ж такая абмежаванасць па часе: фільм у якія 460 метраў стужкі. Пятнаццаць мінут — экранны тэрмін дэманстрацыі! Толькі пятнаццаць... Тут, мабыць, самае складанае не так сцэнарны план, як праца за мантажным сталом. Адбірай самае выразнае, дакладнае, эмацыянальна - насычанае. Праглядай сотні метраў, каб пакінуць якіх пяць, дзесяць, а то і наогул адкладай убок, бо закон метража непахісны: 15 мінут...

Як ні парадаксальна, але прыступаючы да здымкаў, я глыбей схавала ўсё асабістае, усе эмоцыі, усе пачуцці, імкнулася быць «халодным» аб'ектыўным вытворнікам. У той жа час глыбока схаванае павінна была мець пад рукой, каб знайсці штосьці **самае-самае,** што надасць эпізоду непаўторную афарбоўку.

Прыгадваю здымкі ў тэхнікуме, дзе некалі вучыўся К. С. Заслонаў (гэта ў Вялікіх Луках). Там зараз арганізаваны музей. Хтосьці прапанаваў зняць на кінастужку пустыя калідоры, пустыя аўдыторыі...

Не пагадзіўшыся з рэдактарскай думкай, я прыслухалася да таго, схаванага ў глыбіні. Яно, мусіць, падказвае мне правільнае рашэнне.

...Прыйшла ў вестыбюль тэхнікума. Быў якраз перапынак. Мяне тут ніхто не ведаў і не звяртаў на мяне ніякай увагі. Навучэнцы трымалі сябе як звычайна. Паступова пачынаю лавіць сябе на тым, што надта пільна прыглядаюся да іх, да таго, як яны бегаюць, жартуюць. І мне ўяўляецца студэнт Косця Заслонаў у гэтым жа калідоры, у гэткіх жа абставінах. Ці гэтак ён паводзіў сябе?.. Так «нарадзіўся» эпізод у тэхнікуме, які ўвайшоў затым у кінанарыс.

**Або яшчэ эпізод. Ёсць на рускай зямлі горад Асташкаў. Горад, дзе нарадзіўся Заслонаў. Даўно марыла трапіць туды. Трэба сказаць, што бабуля даўно распальвала маю дапытлівасць расказамі пра гэты гарадок. І вось, калі я выйшла з аўтобуса, то сапраўды быццам ступіла на казачную зямлю. З аднаго боку плёскалася вячэрнімі сонечнымі праменнямі возера Селігер, а з другога — увесь «апрануты» рыштаваннямі ўзвышаўся шпіль касцёла (відаць, ішла рэканструкцыя). Дамы ўздоўж вуліц я бачыла такімі, як на вокладках зборнікаў рускіх народных казак.**

**Тры дні жыла я ў Асташкаве, тры дні захаплялася яго цудоўнымі мясцінамі.**

**На жаль, калі праз некалькі гадоў я прыехала сюды са здымачнай групай, то «казачнага гарадка» тут не было. Але ж была, хай толькі для мяне, у гэтым горадзе нейкая казачнасць. Ужо ў каторы раз спатрэбілася даставаць тое, што было схавана ўглыбіні... Дык што ж за казачнасць была ў гэтым гарадку ў маім рэжысёрскім бачанні? На думку бабулі, гарадок абавязкова быў населены суседзямі, сябрамі, знаёмымі, пра якіх яна заўсёды магла расказаць або сумнае, або смешнае... Успаміны адносіліся да таго часу, калі нарадзіўся яе сын Канстанцін... З тае пары Асташкаў для мяне заўсёды заселены персанажамі з бабуліных успамінаў. Хацелася, каб гэты гарадок і глядач успрымаў як казачны. Такая думка і была пакладзена ў аснову эпізода «Асташкаў».**




Людзі, якіх убачыць і пачуе ў фільме глядач, —гэта тыя, хто разам з Заслонавым працаваў і ваяваў. Кожны мой прыезд у Оршу—для мяне радасная падзея. Як кажуць, хоць разарвіся на часткі. Баявыя паплечнікі К. С. Заслонава запрашаюць мяне, прымаюць як сваю, родную. Працуючы над фільмам, я звярнулася да іх з просьбай дапамагчы мне зрабіць галоўны эпізод—кінарасказ пра Заслонава. І кожны дапаўняе партрэт непаўторнымі і каштоўнымі рысамі, дэталямі.

Вельмі ж складаная рэч здымаць сінхронныя эпізоды. Ведаючы, што яго здымаюць і запісваюць, чалавек пачынае абдумваць кожнае слова, сочыць за мовай, у выніку расказы атрымліваюцца разрозненымі і не зусім часам натуральнымі, нават афіцыйнымі. Я вельмі баялася такога зыходу. І, трэба сказаць, спачатку сапраўды не клеілася, хоць усе таварышы і стараліся мне дапамагчы. Між тым рэалізацыя маёй задумы ўскладнялася. Тое, што яны пачыналі расказваць перад камерай, я чула ад іх раней, а яны ў сваю чаргу таксама помнілі пра гэта і добра ведалі: успаміны пра бацьку не новыя для мяне. Тут адбывалася можна сказаць на вачах, нежаданая страта навізны, непасрэднасці і першапачатковасці. Атрымлівалася «зробленая» размова... І раптам, — о, якая радасць! — былы інструктар падрыўной справы ў адным з партызанскіх атрадаў Антаніна Дзмітрыеўна Гарпінчанка (Любчанака) расказала аб тым, як К. С. Заслонаў падарыў ёй суконныя шкарпэткі. Гэты ўспамін быў для яе такі дарагі, што ёй вельмі захацелася падзяліцца з ім са мной, незалежна ад таго будзе здымацца эпізод на кінастужку ці не. Пачаўся хвалюючы, разам з тым просты, даходлівы экскурс у партызанскае ліхалецце.

Больш таго, здарылася непрадбачанае: тыя, хто адчуваў сябе перад кінакамерай скаванымі, тут жа ажывіліся. Леанід Аляксандравіч Калдушка прыгадаў гісторыю з гімнасцёркай, якую падарылі Заслонаву. А Гаўрыла Рыгоравіч Амельчанка ўспомніў самае запаветнае: ён даваў Канстанціну Сяргеевічу рэкамендацыю для ўступлення ў партыю.

**Ішоў час. Мае «акцёры» забыліся пра існаванне камеры, пра «юпітэры», пачалі аднаўляць у памяці тое, пра што нават не расказвалі мне раней. Наша гутарка набыла зусім новы, жывы, нязмушаны характар. Сэрца радавалася ад такога павароту. Даводзілася часам умешвацца ў гутарку, задаваць пытанні з тым, каб размова ішла ў патрэбным напрамку.**

**І размова сапраўды атрымалася шчырая. Могуць спытацца, чаму людзі паводзілі сябе перад камерай так натуральна? Мне здаецца, таму, што шчыра любілі Заслонава, і яшчэ таму, што расказвалі яны ўсё яго дачцы. Трэба было бачыць, якой цеплынёй свяціліся вочы кожнага, хто прымаў удзел у кінаінтэрв'ю, або хто проста сядзеў і слухаў успаміны свайго таварыша.**

Варта адзначыць і тое, што Фелікс Кучар вельмі трапна зняў на кінастужку і тых, хто расказваў, і тых, хто слухаў. Усяго было затрачана на гэтым эпізодзе 600 метраў стужкі, а ў фільм увайшло не больш 80... Пасля за мантажным сталом з вялікім болем давялося рэзаць, выкідаць, скарачаць тое, што палюбілася, што было вынікам доўгіх і пакутлівых пошукаў... Але ж нічога не зробіш. Такія законы дакументальнага кіно...

...ФІЛЬМ завершаны. Фільм набыў самастойнае жыццё. А тым, хто прымаў удзел у яго стварэнні, хто дапамог мне зрабіць кінанарыс пра Героя Савецкага Саюза і майго бацьку Канстанціна Сяргеевіча Заслонава — я шчыра, сардэчна дзякую.

МІНСКАМУ ДЗЯРЖАЎНАМУ ОРДЗНА ПРАЦОЎНАГА ЧЫРВОНАГА СЦЯГА ПЕДАГАГІЧНАМУ ІНСТЫТУТУ ІМЯ А. М. ГОРКАГА—50 ГОД

# ЖЫВОЕ ДРЭВА ДАЕ ПАРАСТКІ

**СЁЛЕТНЯЯ ВОСЕНЬ — залатая для інстытута, які адзначае сваё пяцідзесяцігоддзе.**

**За вялікія поспехі ў падрыхтоўцы высокакваліфікаваных спецыялістаў Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя А. М. Горкага ўзнагароджан ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.**

**Пачатак яго шляху прыпадае на восень 1922 года, калі пры Беларускім дзяржаўным універсітэце быў арганізаваны педагагічны факультэт. А сёння на шасці факультэтах інстытута 9000 студэнтаў атрымліваюць адукацыю па 18 спецыяльнасцях!..**

**За гады свайго існавання інстытут падрыхтаваў 26 тысяч педагогаў. Дзесяткі з іх сталі заслужанымі настаўнікамі рэспублікі, сотні — выдатнікамі народнай асветы. Сярод былых выпускнікоў шэсць Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы.**

**В. Лівенцаў, А. Мазанік, А. Казей — іх ведаюць ва ўсёй краіне, бо подзвігамі і працай сваёй яны ўпісалі ў яе біяграфію цудоўныя старонкі.**

**Выхаванцы Мінскага педагагічнага інстытута — народны паэт Беларусі А. Куляшоў, П. Панчанка, А. Вялюгін, А. Астрэйка, С. Грахоўскі і многія іншыя, звыш пяцідзесяці членаў Саюза пісьменнікаў БССР.**



Гэты здымак зроблены ў кабінеце бібліятэказнаўства.

**Сярод пяцісот выкладчыкаў — 21 доктар навук, звыш двухсот кандыдатаў навук.**

**Пранізліва- хвалюючая музыка кладзецца на лісты паперы дзівоснымі знакамі, каб потым зноў зрабіцца музыкай. На трэцім курсе музычна-педагагічнага аддзялення філалагічнага факультэта ідуць заняткі па сальфеджыо.**

**— Праслухайце яшчэ раз, — прапануе выкладчык тэарэтычных дысцыплін Ю. Вядзёхін.**

**Ідзе дыктант.**

**Зноў гучыць музыка.**

**Засяроджаныя твары студэнтаў...**

**Тоненькая, нібы лазінка, дзяўчынка, спявае. Гэта Галя Аўчарэнка. Ідзе яе першы студэнцкі год. Выкладчыца вакалу К. Ясінская шмат разоў спыняе Галю. І гэта зразумела. Бо вельмі хочацца, каб ні адна мінута не прапала дарэмна.**

**Галя і яе сябры, якія займаюцца побач, стануць выкладчыкамі спеваў у школе. Філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага педагагічнага інстытута, на якім займаецца каля 700 чалавек, рыхтуе настаўнікаў розных спецыяльнасцей: беларускай мовы і літаратуры, рускай мовы і літаратуры, спеваў. Тут на сямі кафедрах працуе 119 выкладчыкаў, у іх ліку шэсць прафесараў, 46 дацэнтаў і кандыдатаў навук. Узначальвае факультэт дацэнт А. Налівайка.**

**Сёлета ўпершыню адкрылася завочнае музычна-педагагічнае аддзяленне. Гэта вельмі важна — шмат настаўнікаў спеваў, якія не маюць вышэйшай адукацыі, цяпер змогуць яе атрымаць.**

**Чацвёрты паверх — паверх музыкі. За кожнымі дзвярыма ідзе напружаная праца. Колькі трэба затраціць сіл, каб заваяваць права потым з'явіцца перад дзецьмі кваліфікаваным прапагандыстам мастацтва.**

**Музыку ў інстытуце вывучаюць не толькі на філалагічным факультэце, але і на дашкольным, і на педфаку. Усе будучыя выкладчыкі спеваў абавязкова вывучаюць цымбалы. На музычна-педагагічным аддзяленні філфака працуе выдатны аркестр народных інструментаў, якім кіруе выкладчык Ул. Пераццька. Аркестр неаднаразова атрымліваў першыя прызы на розных конкурсах. Яго ўдзельнікі былі гасцямі студэнтаў педагагічных інстытутаў Кіева, Таліна, Рыгі.**

**Пасля заканчэння інстытута музыканты аркестра атрымліваюць дыплом, які дае права кіраваць самадзейнымі музычнымі калектывамі.**

**...Бібліятэчны факультэт. Тут пачынаецца падарожжа ў дзівосную краіну кнігі. Тут вучацца дзяўчаты і юнакі, якія вырашылі прысвяціць сваё жыццё кнізе, прапагандзе яе.**

**Ёсць на гэтым факультэце аддзяленне, якое рыхтуе работнікаў культасветустаноў — людзей, якіх так чакаюць у кожным сельскім клубе і доме культуры.**

**Акрамя прадметаў па спецыяльнасці, студэнты вывучаюць асновы вышэйшай матэматыкі, навуковай інфармацыі, знаёмяцца з асновамі прамысловай і сельскагаспадарчай вытворчасці, вывучаюць тэхнічныя сродкі інфармацыі, уключаючы ЭВМ.**

**Узводзіцца новы будынак факультэта. У ім толькі на стацыянары будуць займацца 2000 студэнтаў адначасова. Па плану дзевятай пяцігодкі, як прадугледжана Дырэктывамі XXIV з'езда КПСС, на базе факультэта будзе створаны Беларускі інстытут культуры.**

**Р. БАКУНОВІЧ.**



Пры інстытуце працуе тэатр чытальніка, якім кіруе Андрэй Каляда (другі злева). Ідзе рэпетыцыя...

Фота Ул. КРУКА.

НАШ СУЧАСНІК

**М. ЗАМСКІ,**

спец. кар. «Літаратуры і мастацтва»

# ПЕСНЯ ПРА ШАХЦЁРА

ПАСЛЯ ВАЙНЫ я ні разу не чуў гэтую песню. У гады ж майго маленства яна была даволі папулярная — песня пра шахцёра.

> Он был шахтер—простой
> рабочий,
> Служил в донецких рудниках.
> И день за днем, с утра до ночи,
> Долбил пласты угрюмых шахт...

Са слязьмі на вачах спявалі мы, першакласнікі, як прыйшлі на шахту белыя, як схапілі старога шахцёра і павялі яго да ракі на расстрэл.

Заканчвалася песня так:

> Уж десять лет Советской власти,
> Заводы крепнут с каждым днем.
> Шахтера кровь скрепила части
> Железной памяти о нем...

Ці то спрацаваў закон асацыяцыі, ці то з якой іншай прычыны, а толькі тут, у Салігорску, горадзе шахцёраў матыў той песні не выходзіў з галавы. Я нават праспяваў яе Леаніду Адамавічу Калініну, герою майго нарыса. Але ўсё гэта было пасля, калі мы добра пазнаёміліся, а спачатку...

...Спачатку мяне праінструктаваў інжынер па тэхніцы бяспекі. Ён выняў з шуфляды і ўручыў мне каробачку з раменьчыкам.

— Вось гэта самавыратавальнік,— растлумачыў інжынер. — У выпадку неабходнасці можа забяспечыць лёгкія кіслародам гадзіну-паўтары. Без яго ў шахту не спускаецца ніводзін чалавек.

Затым начальнік участка Яфім Уладзіміравіч Сейфер — зусім малады яшчэ, невысокі, вельмі рухавы чалавек—вядзе мяне ў гардэробную, дзе я скідаю ўсё сваё і апранаю казённае—бялізну, робу, боты, каску. У другім пакоі мы з маім гідам узбройваемся ліхтарыкамі. Яфім Уладзіміравіч крытычна аглядае мяне з усіх бакоў, пытаецца, ці не ціснуць боты, ці добра сядзіць каска. Здаецца, усё ў парадку.

Доўга ідзем па калідорах і трапляем у нейкае збудаванне з цэментаванай падлогай і конусападобным дахам, сярэдзіну якога прабівае металічная канструкцыя, што ідзе з-пад зямлі. Раптам недзе пад нагамі нараджаецца глухі грукат, які з кожнай секундай мацнее, мацнее, і вось на паверхню вырываецца і ў імгненне вока ўзлятае ўверх вялізны коўш, поўны пароды.

— Дваццаць тон, як лёду,—тлумачыць Яфім Уладзіміравіч.—Поўны пайшоў уверх, пусты — уніз.

У клець набіваецца нас чалавек дваццаць. Стаім, цесна прыціснутыя адзін да аднаго. Жаночы голас падае каманду, зачыняюцца дзверы і мы пачынаем апускацца. Мае суседзі, шахцёры гамоняць пра нешта сваё, падсвечваючы твары субяседніку ліхтарыкамі, бо вакол стаіць апраметная цемра.

Ш-шух, і мы, так сказаць, на станцыі прызначэння—другім гарызонце, хутка так хутка, што трохі заклала вушы. Частка людзей выходзіць разам з намі, астатнія паедуць яшчэ ніжэй...

Я загадзя прашу прабачэння ў шахцёраў-салігорцаў за ўсе падрабязнасці. Для іх гэта будні, звычайныя атрыбуты прафесіі. Я ж хачу пазнаёміць з шахтай людзей, якія ніколі яе не бачылі, а мо так і не пабачаць. Мне хочацца, каб чалавек, трымаючы ў руках бохан хлеба, калі-нікалі задумваўся пра тое, што гэты хлеб пачынаецца і з шахты, з гэтага чырвонага мінерала, які так нялёгка здабыць...

Мы выходзім з клеці ў прасторны вестыбюль, — інакш не назавеш,—з якога ў абодва бакі адыходзяць тунелі. Дзьме даволі моцны вецер. Заплюшч вочы, і можаш смела ўявіць, што стаіш у чыстым полі. Забягаючы наперад, скажу, што мы пабылі ў самых далёкіх кутках шахты і ўсюды дыхаецца на дзіва лёгка, на поўныя грудзі. Сюды бесперапынна нагнятаецца свежае паветра.

— Дзе ж Калінін?—пытаюся я ў Яфіма Уладзіміравіча.

— Да яго яшчэ далёка ехаць.

— Ехаць? На чым?

— На машыне,—спакойна адказвае інжынер.—Пойдземце, мо папутную знойдзем.

Мы збочваем у штрэк, праходзім міма пакойчыка дыспетчара—праз акно бачна, як схілілася над паперамі бялявая дзяўчына ў камбінезоне. На століку перад ёй тэлефоны. Наогул, шахта літаральна нашпігавана правадамі, трубамі, шлангамі, транспарцёрамі і рознымі іншымі атрыбутамі тэхнікі.

Прайшлі метраў пяцьдзесят і апынуліся на ладнай пляцоўцы, ад якой у розныя бакі ідуць штрэкі. У адным з іх ярка засвяціліся аўтамабільныя фары. На пляцоўку выехаў адкрыты газік, з якога злезла некалькі шахцёраў.

— Ты не на першы едзеш?—крыкнуў вадзіцелю мой гід.

— Не, на другі...

Праз некалькі хвілін прыйшло яшчэ некалькі машын, але ўсе яны ішлі не па нашым маршруце. Зусім, як таксі ў горадзе...

Пад'ехала яшчэ адна машына. Чалавек, які злез з яе, моцна лаяўся, называў некага галавацяпам, абяцаў яму памацаць бакі.

— Сярдзіты чалавек,—заўважыў я.

— Ды гэта ж і ёсць Калінін, якога вы шукаеце,—усміхнуўся Яфім Уладзіміравіч.—Леанід Адамавіч!—гучна паклікаў ён. — Што здарылася?

Чалавек падышоў да нас.

— Ды вось, разумееце, Яфім Уладзіміравіч, не тую шэсцерню прывезлі. Што яны там наверсе думаюць? — Ён зноў павысіў голас.

Пакуль ішла гаворка пра нейкія шэсцерні і блокі, я паспеў добра разгледзець Калініна. Высокі, мажны, з круглым, цяпер злосным тварам, ён выдаў мне гадоў на сорак пяць.

— Эге ж, — спахапіўся Сейфер,—тут да цябе карэспандэнт...



Закончылася змена... Л. Калінін (трэці справа) са сваімі таварышамі.

Калінін трохі сумеўся.

— Мы з вамі ўчора па тэлефоне дамаўляліся, — напомніў я.

— Так, так. Але ж нічога ў мяне цікавага няма — на рамонце стаю,— адказаў Калінін. — Мо каго іншага?..

Выручыў Яфім Уладзіміравіч.

— Нічога, нічога, рамонт не перашкода, ты ж па графіку...

— Наверх падымемся, ці на ўчастак паедзем? — спытаў Леанід Адамавіч.

— Ды вось карэспандэнт хоча ўсё на месцы паглядзець, — гаворыць Сейфер.

Садзімся ў газік, ён робіць разварот і нырае ў адзін са штрэкаў. Едзем пяць мінут, едзем дзесяць, пятнаццаць, а канца не відаць. Дарога, як у гарах, — паваротка за паваароткай. Ды ўсе крутыя, ледзь не пад прамым вуглом. Але адразу відно — шафёр спрактыкаваны, прызвычаены да такой язды, ды і дарогу добра ведае—вядзе машыну амаль на адной хуткасці.

Дзіўна з нязвычкі. Нібы едзеш па вялізнай каменнай трубе.

— Што над намі? — пытаюся.

— Метраў чатырыста з гакам пароды, — адказвае Калінін.

— Ды не, там наверсе.

— Наверсе? А хто яго ведае... Мы ж ад'ехалі ад ствала кіламетраў дзесяць... Мо поле, а мо вёска...

Вось так. Ідзе па вясковай вуліцы чалавек і не ўяўляе, што пад нагамі ў яго, недзе ледзь не на паўкіламетровай глыбіні імчыць машына з людзьмі.

Нарэшце, прыязджаем. Зноў такая ж пляцоўка. У кутку стаіць разабраны камбайн.

— Вось уся наша гаспадарка, — паказвае на яго Леанід Адамавіч. — Капітальны рамонт... А тут, — вядзе ў бліжэйшы штрэк,—апошні раз бралі руду.

Пад праменнямі ліхтарыкаў таямніча паблісквае на сценках штрэка чырвоная паласа шырынёй метра ў паўтара. Нібы хто правёў уздоўж сцен вялікім пэндзлем, перад гэтым добра набраўшы на яго чырвонай фарбы.

— Вось ён, сільвініт, — усміхаецца Калінін і павольна, я б сказаў, нават ласкава праводзіць далонню па шурпатай паверхні пароды. — Прыгожа, праўда? Як у казцы...

Сказана гэта так проста і шчыра, што я міжволі неяк інстынктыўна накіроўваю ліхтарык у бок Леаніда Адамавіча. Ён стаіць шырока расставіўшы ногі і твар яго пад брылём шахцёрскай каскі з прымацаваным ліхтарыкам у гэты момант дзіўна задуменны, нейкі летуценны.

Як жа яны знайшлі адзін аднаго— Калінін і шахта? Сам ён з Віцебшчыны, з Дубровенскага раёна. У іх вёсцы Слабадзе, што згубілася сярод лясоў, некалі пра такую долю шахцёрскую не чулі нават.

Калі вайна пачалася, Лёню акурат сем стукнула.

— Я вайну добра помню, — задумліва расказвае Леанід Адамавіч.— У сорак другім карнікі ўшчэнт спалілі нашу Слабаду, многіх забілі. А мы з маці ды з сястрой у лесе хаваліся. Так у лесе і жылі, пакуль нашы прыйшлі. Вярнуліся ў вёску, выкапалі зямлянку... А неўзабаве прыслалі маці з фронту пахавальную на бацьку.

Вось такое было наша жыццё-быццё. Вясной хадзіў я з хлопцамі на поле пышкі збіраць. Ведаеце, што такое пышкі? Гэта перазімавалая на полі бульба. Маці з яе каржы пякла.

Як скончыў сем класаў, паехаў у Оршу, уладкаваўся там на чыгунцы. Папрацаваў год, ды нешта не па душы была мне тая работа. А тут пісьмо ад сястры — яна замуж выйшла і жыла на Паўночным Каўказе — піша, прыязджай, можа тут уладкуешся. Прыехаў, а швагер — ён у шахце працаваў — кажа:

— Ідзём, браце, паглядзіш, як я хлеб зарабляю, можа спадабаецца.

Вось тады я ўпершыню трапіў у шахту. Было гэта акурат 18 гадоў таму. У шахце, як у пекле, — горача, людзі чорныя ад вугальнага пылу. Здабываўся там вугаль, у асноўным, уручную. Спачатку ўзрывалі пласт, а потым грузілі вугаль рыдлёўкамі ў ваганеткі.

— Ну, што, не па носе наша шахцёрская праца?—спытаў у мяне швагер. — Нябось, спалохаўся?

А я ж з маленства такі самалюбівы...

— Нічога, — кажу, — не спалохаўся. Буду працаваць.

Так і застаўся там. Год папрацаваў праходчыкам, а ў кастрычніку пяцьдзесят чацвёртага забралі мяне ў армію.

Адслужыў я, значыць, у арміі тры з паловай гады. Дарэчы, у час службы і ажаніўся. Каля нашай часці быў ваенны санаторый, пазнаёміўся я з тамашняй медсястрычкай, ну і пажаніліся неўзабаве...

Пасля дэмабілізацыі пацягнула мяне зноў на тыя шахты. Трохі папрацаваў на Данбасе, а пасля пераехалі мы на Паўночны Каўказ. Тут я пяць гадоў адхадзіў. Спачатку ў забойшчыках, а пасля брыгадзірам комплекснай брыгады.

Мабыць, застаўся б там назаўсёды, ды толькі ў шэсцьдзесят трэцім годзе паехаў я ў адведкі ў сваю вёску і тут неяк з газеты даведаўся, што ў Салігорску пачалі сільвініт здабываць. Рашылі пераехаць, усё ж бліжэй да хаты...

Гутарым мы ўжо не ў шахце, а ў нумары гасцініцы. Тут, пры дзённым святле, Калінін зусім іншы. Здаецца маладзейшым гадоў на дзесяць, нават на свае трыццаць восем не цягне.

Ёсць людзі, па выглядзе якіх нават у сталым веку лёгка сабе ўявіць, якія яны былі ў маладыя гады. Вось і цяпер я гляджу на Леаніда Адамавіча, і жыва ўяўляю сабе маладога хлопца з круглым, добрым сялянскім тварам, вачыма колеру ільняной кветкі, бялявымі валасамі і магутнымі рукамі асілка. Такім, відаць, ён упершыню спусціўся ў шахту...

Калінін павольна ўстае з крэсла, падыходзіць да акна, адкуль адкрываецца від на вуліцу з шматпавярховымі дамамі.

— Тады, у шэсцьдзесят трэцім, горада не было, так, пасёлачак на некалькі дамоў. Гэта пры мне ўжо ўсё пабудавалі. Ды і шахты не было. Ствол, па якім вы спускаліся, я прабіваў... А сёння толькі наш гарызонт за некалькі гадзін не аб'едзеш — на дзесяткі кіламетраў прайшлі ва ўсе бакі. А наогул я вам скажу — у параўнанні з вугальнымі шахтамі, тут у нас санаторый.

Я ўжо бачыў гэты «санаторый». У суседнім штрэку працаваў камбайн суседа Калініна па ўчастку— Героя Сацыялістычнай Працы Віктара Канстанцінавіча Бабіча. Стаяў такі грукат, што і свайго крыку не пачуеш. І гарачыня, хоць усё скідвай з сябе. І пыл такі, што не вельмі дапамагаюць так званыя «пялёсткі», якімі ў час работы закрываюць рот і нос, — павязкі з марлі і ваты, прапітанай асобым растворам.

Але спрачацца з Леанідам Адамавічам не стаў, яму відней...

Пра Калініна гавораць, што ён, як мала хто, адчувае пароду. Што гэта значыць? Сільвініт, дзеля якога людзі забраліся пад зямлю, ляжыць побач з іншымі пародамі — соллю, глінай і г. д. Яго тут не больш адной чвэрці. У ідэале, вядома, было б добра здабываць адзін чысты сільвініт, пакідаючы астатняе матухне-зямлі. Але пакуль што вымушаны выцягваць на-гара ўсё разам.

У штрэках, дзе прайшоў камбайн Леаніда Адамавіча, чырвоная паласа сільвініта цягнецца, здаецца, строга гарызантальна. Але гэта толькі здаецца. Калі б можна было прасачыць яе на ўсёй даўжыні штрэка, — а гэта недзе метраў 150, — дык стала б ясна, што пласт апускаецца то ўніз, то лезе ўгару. А яго лінію паўтарае штрэк, або калі больш дакладна — паўтарыў камбайн. Бо штрэк гэта тое, што засталося пасля праходкі машыны. Скажам, як дзірка пасля свярдзёлка.

Дык вось увесь фокус у тым, каб не згубіць пласт сільвініту. Куды ён — туды і камбайн... Лёгка сказаць... Не ў чыстым полі, а глыбока пад зямлёй, дзе ты ледзь не вобмацкам прабіваешся праз каменную тоўшчу...

— Тут неабходны вялікі вопыт і інтуіцыя, нейкае шостае пачуццё, — тлумачыў мне начальнік участка.

У Салігорску Калінін лічыцца адным з лепшых знаўцаў камбайна «ПК-8», які зараз на ўзбраенні шахцёраў. Адкуль гэта прыйшло? Мабыць ад прыроднай упартасці, цікаўнасці, жадання заўсёды ва ўсім разабрацца самому.

— Мы спачатку працавалі на амерыканскіх машынах «Джой». Нічога сабе машыны, толькі ціхаходныя. А цяперашнія нашыя «ПК-8» пры мне ўводзіліся. Сам збіраў і выпрабоўваў. Панаехалі тады, помню, канструктары, інжынеры з завода. Ходзяць вакол, хвалююцца, як, маўляў, машына. Папрацаваў я некалькі тыдняў, гляджу рэдуктар бермафрэз — гэта якім глеба падразаецца—ненадзейны, слабы, бо з трох частак зроблены. «Хлопцы,—кажу інжынерам,— вы народ вучоны, але паслухайце практыка. Корпус рэдуктара трэба цэльным варыць». Што вы думаеце, —Калінін ледзь прыкметна ўсміхнуўся, — паслухаліся. Потым параіў замяніць зубцы ў рэжучым апараце —бо руда ішла вельмі буйнымі кавалкамі. І гэта зрабілі.

Першапачатковая норма на камбайн складала 450—500 метраў у месяц. Мы ж на ім першыя ў свеце 1005 метраў далі. Потым замахнуліся на 1400, а пасля—на 1500 метраў. У 1970 годзе прайшлі за месяц 3109 метраў. Ну, а летась перагаварыў я з хлопцамі брыгады і далі мы новы рэкорд — 3815 метраў. Мяне за той рэкорд узнагародзілі ордэнам Леніна.

Рэкорд, рэкорд... Якая яна, прырода рэкорда? Вунь сам Калінін гаворыць, што камбайн быў разлічаны на 500 метраў, а далі ў сем з гакам

(Заканчэнне на 15-й стар.)

Сцэна са спектакля. У цэнтры — заслужаны артыст БССР Г. Дубаў у ролі Уладзіміра Мзінарадзе.

Фота С. КОХАНА.

# ЮНАК ГАРТУЕ ХАРАКТАР

*«НЕ ТРЫВОЖСЯ, МАМА!..» Н. ДУМБАДЗЕ У ТЭАТРЫ імя ЯКУБА КОЛАСА*

ІМЯ ГЭТАГА пісьменніка добра вядома чытачам. Знаёмы ён і прыхільнікам сцэнічнага мастацтва. Прынамсі, з вялікім поспехам многа гадоў ідзе спектакль «Я, бабуля, Іліко і Іларыён» на сцэне Акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы.

Кастрычніцкія афішы ў Віцебску запрасілі гледачоў на прэм'еру новага твора Надара Думбадзе «Не трывожся, мама!..» (пераклад Г. Бураўкіна).

У цэнтры спектакля, пастаўленага рэжысёрам Б. Эрыным,—вобраз юнака Тэймураза Джакелі, якога іграе артыст П. Ламан. Тэмо ці, як клічуць яго сябры, Джако — гэта нібы своеасаблівы працяг біяграфіі знаёмага нам героя Н. Думбадзе Зурыко Вашаламідзе з п'есы «Я, бабуля, Іліко і Іларыён». Сучасны грузінскі хлопец, добры і разумны, але пакуль што па-юнацку бесклапотны і часам празмерна гарачы, гатовы ўступіць у бойку, каб прадэманстраваць сабе і іншым сваё «я», Тэймураз — Ламан сталее на нашых вачах. Вось ён разам з дзедам Ісідарам Джакелі (бацькі хлопчыка загінулі ў аўтамабільнай катастрофе) прыязджае ў Тбілісі, каб паступіць у медыцынскі інстытут.

Чаму ў медыцынскі?

Тэймураз і сам не ведае. Так вырашыў за яго дзед, і юнак, не маючы асаблівай прыхільнасці да гэтай прафесіі, згаджаецца.

Зразумела, непазбежны правал. Вялікая туга ў вачах дзеда, які без ляманту і папрокаў, але з балючым дакорам, глядзіць на ўнука, прымушаюць Тэмо—Ламана задумацца над тым, што дзяцінства скончылася, што настала пара самастойна шукаць жыццёвае прызванне.

Па-новаму складаюцца ўзаемаадносіны Тэмо з дзядзькам Вано, цёткай Сашыко, любімай дзяўчынай Дадунай. Хлопец ужо разумее, што не толькі з аднадумцамі і сябрамі давядзецца яму сустракацца. Скажам, трапляе ён у нязвыклую для яго атмасферу так званай «залатой моладзі»... Сцэна пастаўлена і іграецца коласаўцамі надзвычай ярка, з дакладнымі светаценямі. Бачыш, што Тэймураз — Ламан сэрцам адчувае фальш нігілістычнага крыўляння Гелы, пошласць і мяшчанства вершаў Мзіі, пазёрства і ненатуральнасць паводзін кіназоркі Ізіды. І таму з такой непрымірымасцю, часам іранічна, з бравадай, часам амаль з «адкрытым забралам», ён уступае ў спрэчку з чужымі яму па духу людзьмі. Маральная перавага, як і сімпатыі гледача, безумоўна, на баку героя.

Ды толькі да поўнай яснасці ў душы, да разумення тонкіх адценняў таго, што такое «добра» і што такое «дрэнна», яму яшчэ далёка. Артыст П. Ламан паказвае душэўныя зрухі героя, у якога няма дастаткова жыццёвага вопыту, затое ёсць унутранае разуменне сваёй праваты. І гэтае разуменне гартуецца на нашых вачах.

Сапраўдная ж пераацэнка каштоўнасцей адбудзецца на далёкай граніцы з Турцыяй, дзе Тэймураз будзе служыць у пагранічных войсках. Не ў кнізе, не на экране, а побач загіне сябра, цудоўны, шчыры хлопец з украінскага гарадка Пятро Шчарбіна. Загіне ў пагоні за падонкам, які вырашыў перайсці граніцу. Сапраўднае гора, вялікая страта стала для Тэймураза —Ламана тым узрушэннем («катарсісам»), пасля якога жыць паранейшаму, блукаючы, ён не зможа. Куды падзеліся яго жарты, кпіны з сяброў, лёгкадумныя праявы няўрымслівага тэмпераменту!.. Адчуваеш, што складаны працэс асэнсавання жыцця Тэймуразам адбываецца не знешне, а глыбока ў душы героя. Да сапраўднай сталасці яму яшчэ далёка. Але мы бачым, што чалавек вызначыў шлях, ведае, якім яму варта і трэба быць.

Шкада, што пэўнай акцёрскай «падтрымкі» гэтаму характару не даецца з боку выканаўцы ролі Дадуны Г. Дзягілевай. Вельмі прыгожая, яна так і застаецца на працягу спектакля толькі блакітна-прыгожай «партнёркай» героя. І часам цяжка сказаць, каму ж на самой справе яна спачувае — Тэмо або Арчылу і Гела, і наогул, кахае яна юнака ці проста забаўляецца з ім, як з самым «арыгінальным» сярод усіх яе знаёмых.

**І яшчэ даволі спрэчны момант у спектаклі Б. Эрына. Часцей за ўсё ў ім, асабліва, калі размаўляе моладзь, сцэны будуюцца фрагментарна. Потым настае чарга маналогаў, і П. Ламан выходзіць на авансцэну, застаючыся сам-насам з глядзельнай залай, «чытае» так званыя «лірычныя адступленні». Часам яму ўдаецца перакінуць «эмацыянальныя кладкі» праз рампу сцэны, наладзіць кантакт з гледачом, зрабіць яго саўдзельнікам таго, што адбываецца на сцэне. Часам такая сувязь застаецца ўмоўнай і словы гучаць халаднавата-дэкламацыйна. Трэба спадзявацца, што работа П. Ламана яшчэ не скончана, што з цягам часу ён даб'ецца большай унутранай напоўненасці ва ўсіх эпізодах спектакля.**

Такая артыстычная напоўненасць уласціва выканаўцу ролі дзеда Ісідара Джакелі А. Трусу. Па тэксце ў п'есе, у параўнанні з раманам, роля многае страціла. Фактычна дзейнічае Джакелі толькі ў першых сцэнах спектакля. Тым не менш прывабная, лагодная ўсмешка, душэўная чысціня, народны розум і сялянскі гумар застаюцца з намі пасля знаёмства з Ісідарам — Трусам на працягу ўсяго спектакля.

Вельмі каларытным атрымаўся дуэт дзядзькі Вано і цёткі Сашыко, ролі якіх іграюць А. Шэлег і Г. Маркіна. Яны зусім розныя па характары. Герой А. Шэлега — разважлівы, стрыманы; гераіня Г. Маркінай — рухавая, шумная. Але абодва яны — людзі сардэчныя, добразычлівыя, крыштальна чыстыя. Бачыць і слухаць іх — эстэтычная асалода. Па-тэатральнаму кідкія, па-жыццёваму пераканальныя вобразы!.. Праўда, выканаўцы, бывае, захапляюцца вонкавай перадачай «каўказскага» тэмпераменту, злоўжываюць і акцэнтам, часам пераступаючы і пэўную меру мастацкага густу, і тады застаецца толькі яркая форма. Гэта адбываецца ў сцэнах, дзе Сашыко — Маркіна як бы «дэманструе» «каўказскі» тэмперамент гераіні: у такіх эпізодах гераіня выглядае не эмацыянальнай, а мітуслівай. Між іншым, калісьці сказаў Сярго Закарыадзе: «Калі хочаш растлумачыць гледачам нацыянальнае ў душы, то іграць трэба канкрэтны характар, а не наогул нацыянальны дух». Якраз такі канкрэтны характар вельмі пераканальна перададзены ў спектаклі ў вобразе Гургена І. Матусевічам. Артыст іграе тактоўна, без штучнага націску. Яго дзядзька Гурген — гэта любімец усяго двара, да яго ідуць за парадай і старыя і моладзь. Цікавая акцёрская работа Я. Шыпілы, які стварыў вобраз вясёлага хлопца Пятра Шчарбіны. Па-сапраўднаму стрыманым, па-ваеннаму суровым паказвае Чхарцішвілі А. Кацельнікаў.

Неадназначныя ў спектаклі і вобразы людзей, якія процістаяць Тэймуразу Джакелі. Выклікае нянавісць і абурэнне агідны парушальнік граніцы — А. Лабанок. Вобраз абмежаванага, тупога спартсмена Анзора, які жыве за кошт чужых думак, не маючы самастойных, стварае артыст Ул. Куляшоў. Смешным і непрыемным паўстае перад намі «чысценькі» Гела ў выкананні М. Цішачкіна, са сваёй дробненькай мараллю — «мая хата з краю».

Наогул, абедзьве сцэны вечарынак вырашаны Б. Эрыным неардынарна. Персанажы тут не падзелены на плакатна «добрых» і плакатна «нядобрых». Разам з драматургам рэжысёр даследуе глыбокія працэсы, якія адбываюцца ў душах дваццацігадовых. Шмат у іх яшчэ наноснага, выпадковага, што ідзе ад перавагі юнацкай эмацыянальнасці над «працай душы». Ім уласцівы пошукі і хістанні. Усім пафасам спектакля тэатр пераконвае нас, што іх жыццёвае крэда паступова выявіцца і прывядзе да правільнага выбару месца ў жыцці.

**Драматург назваў свой твор лірычнай камедыяй. Рэжысёр Б. Эрын вызначае жанр спектакля — камедыя. На жаль, дакладнае адчуванне жанру, наогул уласцівае гэтаму рэжысёру, у гэтым спектаклі часам робіцца расплывістае. Гэта вядзе да таго, што парушаецца адзіны стыль спектакля — ён ідзе то эксцэнтрычнай камедыяй, то меладрамай, а ў фінале наогул з'яўляецца падкрэсленая сімвалічная ўмоўнасць.**

ГАЛОЎНАЕ, што здолелі перадаць рэжысёр і артысты, — гэта інтэрнацыянальнае ў нацыянальным. Яны выявілі ў п'есе Н. Думбадзе токі, якія працінаюць жыццё маладога пакалення, тым самым сцэна кліча ўважліва агледзецца навокал, задумацца над маральным абавязкам чалавека і грамадзяніна, кожнага гледача.

Тамара ГАРОБЧАНКА,
кандыдат мастацтвазнаўства.

# НА КУПАЛАЎСКАЙ ХВАЛІ

*МУЗЫКА С. КАРТЭСА ДА СПЕКТАКЛЯ «РАСКІДАНАЕ ГНЯЗДО» У АКАДЭМІЧНЫМ ТЭАТРЫ ІМЯ Я. КУПАЛЫ*

ПРА ГЭТЫ СПЕКТАКЛЬ гавораць і, мабыць, яшчэ не раз будуць гаварыць у друку і гледачы, і крытыка. Твор Янкі Купалы на купалаўскай сцэне! І сапраўды: заслугоўвае добрага слова работа рэжысёра-пастаноўшчыка Б. Луцэнкі. Цудоўны акцёрскі ансамбль — С. Станюта, Л. Рахленка, С. Хацкевіч, Г. Гарбук і іншыя. Лаканічнае і ўражлівае афармленне мастака Б. Герлавана. Хочацца спыніцца і на музыцы да «Раскіданага гнязда» —яна заслугоўвае ўважлівых адносін і, на маю думку, узбагачае гэту цікавую пастаноўку.

...Тым, хто яшчэ толькі збіраецца паглядзець «Раскіданае гняздо», раім прыходзіць у залу хвілін за дваццаць да пачатку спектакля. Справа ў тым, што ў гэты час гучаць цудоўныя старадаўнія беларускія народныя песні (запіс З. Мажэйкі) і мы можам «настроіцца» на лад драмы, перанесціся ў дарэвалюцыйную беларускую вёску, адчуць, чым жыў просты селянін, яго клопаты, радасці, засмучэнні.

Музычная партытура, створаная С. Картэсам да «Раскіданага гнязда», арганічна зліваецца з дзеяннем трагедыі. Скажам адразу, што аўтару музыкі пашанцавала: па задуме рэжысёра ў спектакль упершыню ўведзены вершы Янкі Купалы і песні, створаныя кампазітарам на іх аснове. Песні, поўныя глыбокага філасофскага сэнсу, якія абагульняюць ідэі спектакля.

Напрыклад, першая з іх —«Як выйду за хату» — невялікі па аб'ёме маналог аб выбары шляху ў жыцці, аб яго сэнсе. Якую давядзецца выбраць дарогу, мэту так бязлітасна прагнанай са свайго роднага гнязда сям'і Зяблікаў: ісці з торбай жабраваць, як Старац, або адгукнуцца на заклік Незнаёмага? Які наогул будзе лёс простага беларускага народа? Працяжная, імправізаванага складу мелодыя гэтай песні поўная глыбокага роздуму. Маналог гучыць як слова ад аўтара, як паэтычны эпіграф спектакля.

**На некалькі відазмененых інтанацыях гэтай музычнай тэмы (яна ідзе больш упэўнена, больш важка, хутчэй за ўсё, як адказ на пытанні эпіграфа) пабудавана і аркестравае завяршэнне драмы, калі Сымон Зяблік, вызначыўшы сваю дарогу, бярэ сястру Зоську за руку і адпраўляецца «на вялікі сход, па Бацькаўшчыну».**

**Або вось яшчэ адна песня з «Раскіданага гнязда»: «Тутка мы п'яны», якая лейтматывам праходзіць праз увесь спектакль сімвалам болі і адчаю забітага і прыгнечанага беларускага селяніна. Відаць, рэжысёр параіў утрыраванае яе выкананне, і, думаю, дарэмна: зліццё горкага трагізму слоў з мелодыяй-выкрыкамі патрабуе больш стрыманай трактоўкі. Заўвагу гэту можна аднесці і яшчэ да адной скразной песні «Гавораць, ноч», іранічнасць якой таксама павінна быць падкрэслена танчэй.**

Музыка ў «Раскіданым гняздзе» служыць і дапаўненнем да раскрыцця вобразаў герояў твора, напрыклад, Зоські і яе малодшага брата Данілкі. З'яўленне Зоські, маналогі гераіні суправаджаюцца таямнічай па характары музыкай з «нябесным» перазвонам тубафона і трэмалюючымі водгукамі драўляных духавых інструментаў, музыкай, якая падкрэслівае незвычайнасць светасузірання гэтай прыгожай і адухоўленай дзяўчыны.

А вось Данілка. Як аддана любіць ён народнае мастацтва, як марыць «зайграць на ўвесь свет»! Кампазітар удала прыцягнуў тут інтанацыі народнай песні. Скрыпачку сваю Данілка майструе пад гукі дударскай песні «Былі ў бацькі тры сыны». Напяваючы гэтую ж песню, ён спрабуе адцягнуць маці ад цяжкіх думак. Народны напеў робіцца яго асноўнай музычнай тэмай.

Наогул жа С. Картэс выкарыстоўвае сапраўдныя народныя песні не «цытатна», музычная мова яго глыбока нацыянальная, сугучная мове драмы. Сродкі, якімі карыстаецца кампазітар у вакальных эпізодах, — простыя дыятанічныя тэмы, неўскладнёныя рытмы, а ў інструментальных, апрача таго, — гучанне ліры, найгрышы сялянскай скрыпкі. Адчуваецца, што ён ведае беларускі фальклор, добра валодае ім. Добра, што С. Картэс не паспрабаваў «мадэрнізаваць» музыку, звязаную ў спектаклі з вершамі Янкі Купалы.

# ЧАМУ ПАСТАЎЛЕНЫ ГЭТЫ СПЕКТАКЛЬ?

*«ІТАЛЬЯНСКАЯ ТРАГЕДЫЯ» А. ШТЭЙНА У РЭСПУБЛІКАНСКІМ ТЭАТРЫ ЮНАГА ГЛЕДАЧА*

**ГЭТА—інсцэніроўка славутага рамана «Авадзень» Э. Войніч. Зразумела, такі спектакль патрэбны ў рэпертуары тэатра, аўдыторыя якога—падлеткі, юнацтва. І ў біяграфіі калектыву ён не можа быць толькі «чарговым», «яшчэ адным»: чакалася, што «Авадзень» на сцэне прагучыць як значная творчая падзея для трупы, а хтосьці з артыстаў спраўдзіць сваю запаветную мару.**

**Тэатр юнага гледача даўно абвясціў, што ён ставіць гэты спектакль. Спачатку ў рэжысуры Б. Ганагі, потым—Р. Баравіка. І сёлета некалькі разоў паказаў яго гледачам. А потым паціху «зняў» з афішы. Чаму? Перш чым адказаць на такое пытанне, мабыць, варта папярэдне спытацца, чаму наогул калектыў ставіў менавіта гэтую інсцэніроўку, з якіх меркаванняў зыходзіў. Тэатразнаўца Т. Арлова ў сваім артыкуле і робіць спробу разабрацца ў гэтым пытанні.**

ТЭАТР МОЖА іграць не кожную п'есу. Гэта думка не новая. Існуюць п'есы, разлічаныя на акцёраў пэўнай індывідуальнасці. Звычайна гэта класічныя п'есы. І як бы ні стараліся ставіць класікаў, якімі б сучаснымі сродкамі ні карысталіся пры гэтым, колькі б ні сціралі грані паміж акцёрскімі амплуа, калі ў тэатры няма акцёраў на ролі Гамлета, Атэла, Любові Яравой альбо Рычарда III, браць гэтыя п'есы ў работу нельга.

Вядома, не існуе правіл без выключэння. Гісторыя ведае пастаноўку «Гамлета» з жанчынай у галоўнай ролі, ведае «Атэла» і «Рычарда III», адзначаныя не акцёрскімі адкрыццямі, а рэжысёрскім эксперыментам. Кажуць, што ў тэатры ўсё магчыма. І тым не менш...

Гэты ўступ спатрэбіўся для таго, каб разабрацца, чаму Беларускі тэатр юнага гледача вырашыў ставіць «Італьянскую трагедыю», п'есу А. Штэйна, напісаную па рамане Э. Войніч «Авадзень», ведаючы, што акцёра на галоўную ролю ў калектыве няма. Асоба Артура — Рыварэса —Авадня даўно ўжо стала хрэстаматыйнай. Напэўна, такой жа, як Гамлет альбо Атэла. Як жа тэатр будзе іграць гэтую п'есу? На чым сканцэнтруе сваю ўвагу? Чым заменіць такую прыцягальную сілу галоўнага героя? Менавіта ён, а не хто іншы, прынёс літаратурную бессмяротнасць Этэль Ліліян Войніч.

«Авадзень» без Авадня... Ці магчыма гэта?

Напэўна, і ў тэатры ўзнікалі такія сумненні. Прозвішчы двух выканаўцаў галоўнай ролі значацца на афішы. Рэпеціравалі абодва. Іграе адзін. Спектакль усё-такі нарадзіўся.

«Авадзень», якім яго да сённяшняга дня ігралі ў тэатрах для дзяцей,— гэта, перш за ўсё, гімн рамантыцы, эфектнай, гучнай, ахвярнай, часам рамантыцы дзеля рамантыкі. У арэоле пакутніка з'яўляўся перад гледачамі Артур. Пакутнікам заставаўся Рыварэс. Пакутнікам гінуў і Авадзень. Відаць, сёння такі сцэнічны пераказ наўрад ці прымусіў бы нашу дзятву палюбіць Авадня-пакутніка.

Ведаючы гэта, тэатр імкнуўся стварыць спектакль, які б стаў гімнам мужнасці, гімнам барацьбе. Дзеля гэтага, напэўна, ён і звярнуўся да таго Авадня, якога мы памятаем па рамане Войніч. На жаль, у інсцэніроўцы адчуваюцца значныя страты, асабліва па лініі галоўнага героя. Цяжка нават зразумець, чаму А. Штэйн назваў сваю інсцэніроўку «Італьянскай трагедыяй». Магчыма, аўтара сцэнічнай рэдакцыі цікавілі падзеі, звязаныя не толькі з лёсам Авадня, але і з лёсам яго таварышаў па барацьбе. Знаёмячыся з драматургічным матэрыялам, разумееш, што і гэта раскрыць А. Штэйну не ўдалося.

Авадзень, і ў першую чаргу Авадзень, цікавіць нас у рамане. Ягоны лёс, а не лёс Мантанэлі і нават Джэмы будзе, напэўна, хваляваць і гледачоў.

Гэта разумее тэатр. Таму рэжысёр спектакля Р. Баравік усю ўвагу звяртае на галоўнага героя. Тэатр крыху дапрацоўвае п'есу. Яна робіцца больш кампактнай. Тры часткі п'есы ўкладзены ў два акты. Скарочаны некаторыя сцэны. Зноў, як у рамане і насуперак інсцэніроўцы, на першым плане лёс Авадня.

«Італьянская трагедыя» напісана і па-рэжысёрску пабудавана так, што ўсё ў спектаклі «працуе на Авадня». Ніводнай пабочнай лініі, ніводнага лёсу, якія б існавалі па-за Аваднём. У гэтым ёсць свой сэнс, свая логіка. Адхіляючы іншыя лініі, адсоўваючы іх на другі план, рэжысёр тым самым дапамагае акцёру, які выконвае галоўную ролю.

Спектакль іграецца ў імклівым рытме. Ён насычаны экспрэсіяй. Падзеі разгортваюцца, як у добрым сучасным дэтэктыве. Ужо ў першай палове спектакля Артур ператвараецца ў французскага журналіста Рываэса. Ён перажыў горкае расчараванне ў сваім стасаванні да Мантанэлі, страчаны сябры, пацярпела крах арганізацыя «Маладая Італія», здраднікам аказаўся духоўны айцец, і нават пахіснулася, а потым пала вера ў бога.

Усё гэта ўкладзена ў гадзіну сцэнічнага часу.

А далей — новы Артур, Артур, які не выпрабоўвае больш на сабе ўдараў лёсу, а сам наносіць гэтыя ўдары, Артур, які змагаецца і перамагае, нягледзячы на смерць.

А цяпер давайце яшчэ раз прааналізуем працэс работы над спектаклем.

П'еса выбрана таму, што ў ёй дзейнічае любімы школьнікамі герой. Але п'еса недасканалая. Да таго ж тэатр доўга не можа вызначыць выканаўцаў галоўнай ролі: па сутнасці, адпаведнага акцёра ў калектыве няма. Для работы над спектаклем запрашаецца рэжысёр, які ўпершыню сустракаецца з трупай тэатра. На выпуск спектакля адведзен рэкордны тэрмін — месяц.

Ці не зашмат кампрамісаў?

Было зразумела, што ўсё накіравана супраць поспеху пастаноўкі. З самага пачатку спектакль стаў нялюбым пасынкам для калектыву, які здагадваўся, што ні рэжысура, ні выканаўцы да мастацкага адкрыцця не наблізяцца. Але за права паказаць яго змагаліся, і сярод энтузіястаў быў Р. Баравік, які дэбютаваў у якасці пастаноўшчыка на мінскай сцэне (раней ён працаваў у Брэсце і ставіў нават яркія спектаклі), а яго падтрымліваў акцёр В. Мельнікаў, бо Авадзень — яго мара. Захопленыя іх утрапёнасцю, імкнуліся давесці спектакль да належнага ўзроўню і іншыя артысты.

Прэм'ера адбылася. А спектакль— ці адбыўся ён?

На першых паказах «Італьянскай трагедыі» выканаўцы выступалі з уздымам, старанна. Ім здавалася, што мэта ўсё ж дасягнута, што ёсць на беларускай сцэне вобраз героя любімага мільёнамі рамана... Падкрэслім — «здавалася»!

Кампрамісы ў мастацтве заўсёды бязлітасна помсцяць за сябе. Пасля свята прэм'еры надышлі звычайныя будні, і спектакль стаў імкліва разважвацца. Экспрэсія ператварылася ў адкрытую мітусню, акцёры пачалі фармальна выконваць свае сцэнічныя задачы, і толькі выканаўца галоўнай ролі працягваў працаваць «на нервах», імкнучыся ўтрымаць спектакль.

Магчыма, гледачу ўсяго гэтага ведаць не трэба. Якая яму справа да ўнутраных канфліктаў у тэатры! Яго цікавіць вынік. Але, калі вынік у дзень прэм'еры быў адзін, а на пятнаццатым спектаклі — другі, мы не маем права не разабрацца ў гэтым. І таму я не ставіла сабе мэтай напісаць рэцэнзію на спектакль, я хацела падумаць, паразважаць аб яго лёсе.

Мне неаднаразова даводзілася адзначаць, што акцёрам нашага тэатра юнага гледача часта не хапае прафесіяналізму. Я мела на ўвазе не адсутнасць спецыяльнай вышэйшай адукацыі (хоць гэта таксама мае некаторае значэнне), а зусім іншае— уменне працаваць. Кваліфікаваныя акцёры не ўмеюць іграць дрэнна. У кожнай ролі, любімай ці нелюбімай, яны знаходзяць «манкі», якія нараджаюць натхненне, і тады пачуцці акцёра перадаюцца і гледачу. Не заўсёды ж іграць толькі любімыя ролі!...

Высокая прафесійная якасць акцёра — уменне кожны спектакль іграць так, быццам якраз сёння адбываецца прэм'ера, хоць на самой справе ідзе і «нелюбімы», і дзесяткі і нават сотні разоў паўтораны спектакль. І гледачу не цікава ведаць, што за «настрой», што за «адносіны» да гэтага прадстаўлення ў таго або іншага выканаўцы ролі. А на сцэне тэатра юнага гледача, на жаль, часта пасля прэм'еры першапачатковая сцэнічная рэдакцыя пастаноўкі разбураецца. Акцёры надта ж хутка «астываюць» і выконваюць усё механічна, па-рамесніцку. Губляюцца важныя акцэнты, старанна знойдзеныя раней нюансы. І рэзка зніжаецца тое, што называюць культурай творчасці.

У «Італьянскай трагедыі» гэты працэс дасягнуў свайго апагея. Калі ў тэатры не было выканаўцы на ролю Авадня, то Джэму браліся іграць многія актрысы (роля Мантанэлі нібыта напісана для артыста Ул. Говара-Бандарэнкі). Пасля прэм'еры, на абмеркаванні спектакля з радасцю адзначалі акцёрскія ўдачы М. Патапчук — Джэмы, Ул. Говара-Бандарэнкі — Мантанэлі, Л. Горцавай — Зіты, Я. Груніна — Кардзі. А сёння ў спектаклі больш-менш прыкметнымі засталіся двое: Авадзень— В. Мельнікаў і Ферары — А. Курловіч. Авадзень і Ферары — разумныя, моцныя праціўнікі, за іх паядынкам сачыць цікава, чаго не скажаш пра паядынак Авадня і Мантанэлі...

Вось, бадай, і ўсе плюсы спектакля. Здабытак, шчыра кажучы, мізэрны, калі ацэньваць работу па сапраўдным творчым рахунку. А спектакль мусіў стаць адным з самых значных у рэпертуары тэатра, бо Авадню даўно належаць бязмежныя сімпатыі новых і новых пакаленняў юных!..

**Таццяна АРЛОВА,**
**кандыдат мастацтвазнаўства.**

а шчыра, з душой, умела данёс да гледача мелодыі, блізкія лепшым народным узорам.

**Ёсць у «Раскіданым гняздзе» некалькі эпізодаў так званай «канкрэтнай» музыкі, дзе кампазітар звярнуўся да знешніх, гука-тэмбравых эфектаў. Так, напрыклад, у другой частцы спектакля сродкамі аркестра перадаюцца завыванні завірухі, шум ветру. Што ж, у тэатральнай музыцы гэта звычайны і дапушчальны прыём гукавога афармлення, тыповая ілюстрацыя. Аднак нельга не аддаць належнае майстэрству аўтара музыкі: на фоне завірухі паступова вырысоўваецца інтанацыя, а потым гучыць і сама песня са словамі «Гэта снег, толькі снег...» — у ёй падкрэслены смутак, спустошанасць і безвыходнасць. Жорстка абышлося жыццё з героямі, амаль усё страчана: зямля, дом, спадзяванні,—што рабіць? І вось у гэты крытычны момант з'яўляецца са сваім палымяным заклікам Незнаёмы. Такім чынам, важнейшы сэнсавы паварот падрыхтаваны і эмацыянальна, а музыцы тут належыць не апошняя роля.**

Глыбока вырашыў С. Картэс другі санорны эпізод, які малюе разбурэнне хаты Зяблікаў. Усё вельмі проста, амаль прымітыўна: шум, трэск дошак, удары тапара і г. д. Але знойдзена менавіта такая сіла гуку, такая інтэнсіўнасць яго нарастання, што ў спалучэнні са светавымі эфектамі і рэплікамі герояў ствараецца сапраўдная трагічная кульмінацыя. Забываешся, што сядзіш у зале, што час той даўно прайшоў і, здаецца, што гэта тут тваю хату ломяць, тваё гняздо разбураюць, на цябе абрынаюцца нягоды і няшчасці! І калі крычаць, што Лявон Зяблік з гора павесіўся, разумееш, што інакш і быць не магло.

Для таго, каб напісаць аб выканаўцах у «Раскіданым гняздзе», канечне, трэба асобны і не адзін артыкул. Скажу толькі, што, на маю думку, іграюць добра ўсе. Але, відаць, са мной згодзяцца і астатнія гледачы, маці Марыля ў выкананні Стэфаніі Міхайлаўны Станюты — адна з вяршынь спектакля. Успомнім хоць бы галашэнні па загінуўшым мужу. Традыцыі народнага плачу, якія ідуць з глыбіні вякоў праз народныя песні тыпу «Павей, ветрык»,—з якой узрушальнай сілай ператвораны яны тут, у такім невялічкім эпізодзе!

Маючы акцёраў з магчымасцямі С. Станюты (а з маладых, напрыклад, зусім добра спявае па ходзе дзеяння Ю. Лясны), мне думаецца, было залішнім запрашаць для выканання вакальных фрагментаў прафесійных спевакоў і даваць потым музычныя нумары ў магнітафонным запісе. Усё-такі «жывое» гучанне заўсёды ўражвае больш. Успомнім «Паўлінку» на гэтай жа сцэне!

**На вялікі жаль, нельга не сказаць аб нізкім тэхнічным узроўні гуказапісу. Асабліва гэта адбіваецца на тэкстах песень. Словы, якія і ў звычайнай песні павінны быць, прынамсі, раўназначныя музыцы, а ў гэтай пастаноўцы «Раскіданага гнязда» нясуць такую значную сэнсавую нагрузку — іншы раз проста невыразныя.**

**Ёсць намер нанова запісаць усю музыку — гэта было б добра. А пакуль можа варта хоць бы надрукаваць тэксты песень і ўкласці іх у праграмы спектакля? Работа невялікая, а некаторыя музычныя эпізоды стануць больш зразумелыя і ўздзеянне іх будзе мацнейшае.**



Кампазітар С. Картэс і рэжысёр Б. Луцэнка.

Пастаноўка «Раскіданага гнязда», якой у тэатры імя Янкі Купалы напэўна суджана доўгае жыццё, з самага пачатку не павінна губляць ні драбінкі з любога кампаненту, які дапамагае вылучыць думку спектакля. А музыка тут— адзін з такіх кампанентаў.

С. Картэс не навічок у галіне тэатральнай музыкі. Вось ужо каля дзесяці гадоў ён плённа супрацоўнічае з калектывам тэатра імя Янкі Купалы, ён аўтар музычнага афармлення вядомых спектакляў — «Выклік багам», «Амністыя», «Трыбунал» і інш. Музыка кампазітара да «Раскіданага гнязда», несумненна, работа паўнацэнная. Трэба адзначыць, што С. Картэс быў падрыхтаваны да яе. Яшчэ ў мінулым годзе ён напісаў даволі ўдалую музыку да тэлевізійнай пастаноўкі на вершы Я. Купалы «Па шчасце, па сонца». Нядаўна гледачы мелі магчымасць зноў яе ўбачыць — ужо ў якасці тэлевізійнага фільма—у дні купалаўскага юбілею. Стварэнне музыкі да «Раскіданага гнязда», гэтага выдатнага твора беларускай нацыянальнай драматургіі, стварэнне песень на тэксты ўзрушальнай сілы, паводле слоў самога кампазітара, бясконца зблізіла яго з творчасцю Я. Купалы. Зараз С. Картэс завяршае новы вялікі твор —араторыю для хору, салістаў, сімфанічнага аркестра і чытальніка на вершы беларускага песняра пад умоўнай назвай «Памяці паэта». Пакуль яшчэ рана гаварыць аб ёй, але відавочна, што плён працы над афармленнем «Раскіданага гнязда» паспрые яму знайсці правільны шлях і ў стварэнні музычных вобразаў, годных хараства купалаўскіх радкоў.

**Н. ЮЎЧАНКА-ЛЕБЕДЗЕВА.**



# ТАЛЕНТ ЯРКІ, САМАБЫТНЫ

ЁН БЫЎ сапраўды народным кампазітарам, гэты сын гаротнага беларускага селяніна, чырвонаармеец, артыст розных драматычных труп і перасоўнага тэатра пад кіраўніцтвам У. Галубка, хормайстар і адзін са стваральнікаў першага на Беларусі прафесійнага ансамбля песні і танца, нястомны фалькларыст і аўтар неўміручых беларускіх песень. Не, я не абмовіўся, бо даўно ўжо «Чырвоная вяргінечка», «Задумаў жаніцца», «Хлопец кудравы», «Песня аб Нёмане» Несцера Сакалоўскага «ўпісаліся» ў музычны быт роднага краю як узоры беларускай народнай творчасці і гучаць у такой якасці ва ўсіх кутках нашай краіны. Ці не ў такой «безназоўнасці» раскрываецца вышэйшае прызнанне мастака: народ лічыць яго неабмежавана сваім!

**А здарылася гэта таму, што, не губляючы кампазітарскага «я», Несцер Сакалоўскі ўмеў нібы расшчапляцца ў стыхіі мелодый, напеваў, інтанацый, «падслуханых» у свайго народа; умеў па-мастацку пераканальна спалучаць традыцыйныя рысы беларускай народнай песеннасці з музычнымі якасцямі, што нарадзіла сучаснасць. І мела рацыю вядомы даследчык беларускай песнятворчасці Л. Мухарынская, калі наконт песні Н. Сакалоўскага «Сонца яснае нам свеціць» пісала, што тут «мы сустракаемся ці то з бясхітраснай аўтарскай апрацоўкай народнага напеву і тэксту, ці то з засвоенай і распаўсюджанай у побыце аўтарскай мелодыяй, якая аказалася асабліва блізкай народнай традыцыі».**

Наколькі музыка Н. Сакалоўскага блізкая народным традыцыям творчасці і выканальнага майстэрства, сведчыць і гісторыя «Песні аб Нёмане» — твора, які стаў нібы музычным сімвалам магутнага духу, невычэрпных сіл беларускага народа, у нетрах якога магла нарадзіцца такая мужная і пяшчотная песня. Пачатак гэтай гісторыі даволі сумны: твор, што ўзнік у дні Вялікай Айчыннай вайны як споведзь сэрца, «дасведчаным» журы конкурсу на лепшую песню пра Радзіму быў прызнаны няўдалым. Вельмі сціплы і чэсны мастак, Несцер Сакалоўскі нават не рабіў спробы пасля такога прысуду, а дакладней кажучы, расправы, прапанаваць «Песню аб Нёмане» на выкананне якому-небудзь хору, нават Палескаму ансамблю песні і танца, якім ён сам кіраваў. Толькі пасля заканчэння вайны песня неяк, нават без ведама аўтара, трапіла ў калгас імя Леніна Хойніцкага раёна. Там гэтым творам захапіліся харысты, якія падрыхтавалі яго да агляду мастацкай самадзейнасці раёна. А далей усё было як у казцы. Выкананне «сваёй» песні дапамагло калгаснаму хору стаць пераможцам раённага, абласнога і рэспубліканскага аглядаў мастацкай самадзейнасці Беларусі ў 1946 годзе. Пра «Песню аб Нёмане» Сакалоўскага — Астрэйкі загаварыла грамадскасць; песня ўвайшла ў рэпертуар нашага цудоўнага спевака М. Ворвулева; высакародная нёманская музычная хваля загучала ў праграмах Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы БССР, украінскай «Думкі», армейскіх мастацкіх ансамбляў... Мільёны слухачоў пачалі выказваць удзячнасць спевакам за выкананне ў канцэртах, па радыё і тэлебачанні песні, такой блізкай, зразумелай, «сваёй» для кожнага, хто яе чуў.

І яшчэ адна песня Несцера Сакалоўскага, якая з вялікай сілай пераконвае ў народнасці таленту кампазітара, з'яўляецца і мастацкім, і грамадскім, і дзяржаўным сцвярджэннем гэтага таленту. Гаворка ідзе пра твор «Мы — беларусы», які ў 1955 годзе, пасля ўжо смерці кампазітара, быў зацверджаны Дзяржаўным гімнам Беларускай ССР. А пісалася песня (на словы М. Клімковіча) яшчэ ў дні вайны, і лёс яе быў вельмі ўдалы: яна стала ў пасляваенны час бадай самай папулярнай на Беларусі. Гэта дало магчымасць Г. Цітовічу грунтоўна сцвярджаць на прыкладзе песні «Мы — беларусы», што «народныя творы ствараюць цяпер не толькі безымянныя народныя мастакі. Гэтыя песні складаюць таксама паэты і кампазітары. Іх блізкія і зразумелыя народу песні ідуць у масы і робяцца народнымі».

Гэтае выказванне пераклікаецца з наступнымі словамі выдатнага майстра народнай песнятворчасці, стваральніка Азершчынскага калгаснага хору Таццяны Лапацінай: «Песню «Мы — беларусы» многа і часта спяваў наш хор... Мы адчувалі, што гэта наша, родная песня...».

Калі гаворыш пра творчую спадчыну кампазітара Несцера Сакалоўскага, нельга абмяжоўвацца толькі ягонымі арыгінальнымі песнямі, хорамі, рамансамі, што ён пісаў натхнёны паэзіяй Я. Купалы і Я. Коласа, А. Астрэйкі і А. Русака, М. Клімковіча і А. Вялюгіна, М. Гамолкі і М. Гарулёва, А. Зарыцкага і Ю. Лявоннага, іншых беларускіх пісьменнікаў. Тое, што кампазітар зрабіў для захавання і прапаганды лепшых узораў традыцыйнай і сучаснай народнай песні, мае не меншае значэнне для развіцця беларускай музычнай культуры. Збіральнік фальклору — звыш пяцісот запісаў, выканаўца-хормайстар песенных скарбаў, Несцер Сакалоўскі быў аўтарам выдатных мастацкіх апрацовак непаўторных па характве беларускіх народных мелодый. У гэтым раздзеле сваёй творчасці ён выключна беражлівы да асаблівасцей народных ладоў, да складу мелодыі, яе рытмікі, магчымасці распеву.

**Гэта дзякуючы Несцеру Сакалоўскаму мы яшчэ ў трыццатыя гады пазнаёміліся з такімі цудоўнымі перламі беларускага традыцыйнага і сучаснага фальклору, як «Рэчанька», «Ці не быстра рэчка», «Ой, сокал, мой сокал», «Як крыніца цячэ». Гэта ён ажыццявіў у мастацкіх калектывах, прафесійных і самадзейных, пастаноўку народных тэатралізаваных абрадаў. Гэта ён увёў у практыку народнага спявання некаторыя прыёмы харавога голасавядзення, што спрыялі пашырэнню рэгістраў народных хораў.**

**Галоўнае месца сярод усіх апрацовак, зробленых Н. Сакалоўскім, займае пяцічасткавая сюіта для хору без суправаджэння. Тут найбольш ярка раскрылася чуласць кампазітара да народна-песенных багаццяў свайго краю, яго ўменне падпарадкаваць кампазітарскую фантазію патрабаванням музычнай першаасновы. Але да якога б народнага запісу ні дакраналася рука гэтага натхнёнага мастака, ёй заўсёды кіравала любоў і пашана да народнай музыкі.**

Несцеру Сакалоўскаму днямі споўнілася б 70 год з дня нараджэння (9 лістапада). Пакінутая ім мастацкая спадчына — сведчанне таленту яркага, самабытнага, неадрыўнага ад музычных крыніц роднай зямлі. Імя народнага кампазітара ўвайшло ў залаты спіс лепшых сыноў Радзімы.

**І. НІСНЕВІЧ.**

# АД «МАЛАДНЯКА СЛУЧЧЫНЫ» ПАЧАТАК...

**У ЛІТАРАТУРНЫХ АБ'ЯДНАННЯХ**

У СТОСЕ падшывак слуцкай раённай газеты «Шлях Ільіча» (выходзіла яна таксама і пад іншымі назвамі) ёсць адзін нумар, які мае асаблівую цікавасць. Праўда, арыгінал прыдбаць не давялося, таму зроблена фотакопія з таго экземпляра, які захоўваецца ў Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна. Гэта першы выпуск дадатка да тагачаснай акружной газеты «Вясковы будаўнік». Называецца ён «Літаратурны маладняк Случчыны» і датуецца 10 ліпеня 1925 года.

Дадатак — орган Слуцкай філіі Усебеларускага аб'яднання пралетарскіх паэтаў і пісьменнікаў «Маладняк» — выдаваўся двойчы на месяц. У ім выступалі многія, цяпер вядомыя беларускія паэты і празаікі: Васіль Вітка, Рыгор Мурашка, Сцяпан Ліхадзіеўскі, Юрка Гаўрук, Мікола Лобан.

Цяпер літаратурнае аб'яднанне працуе пры рэдакцыі раённай газеты. Кіруе ім член Саюза пісьменнікаў Беларусі, дырэктар Чапліцкай сярэдняй школы Віктар Дайліда. Раз у месяц збіраюцца ў рэдакцыі пачаткоўцы. Людзі гэта розных узростаў і прафесій, але ўсіх іх аб'ядноўвае любасць да роднай літаратуры, беларускага слова.

Прыемна, што ў літаратурным аб'яднанні з кожным годам усё мацней чуваць маладыя галасы. Тонка пранікае ў свет лірычнага героя выхавацельніца дзіцячага сада Антаніна Дубовік. Вершы ў яе мілагучныя, шчырыя. Адчуваецца, што аўтар іх — чалавек, які любіць родную Случчыну, людзей яе, і ўсю прыгажосць краю імкнецца перадаць у прачулых радках.

Вучаніца Кальчыцкай сярэдняй школы Жана Касцюкевіч у адным са сваіх вершаў прызнаецца:

**Люблю я Случ, люблю азёры,**
**Вясновы дзень, лясны ручай.**
**Люблю я вечны пошум бору,**
**Бо гэта — мой любімы край.**

Жана — дзесяцікласніца. І хаця ёй у вершах часам бракуе самастойнасці, аднак вабіць у іх чысціня, свежасць вобразаў. І «вечны пошум бору» вакол невялічкай вёскі Ржаўкі — радзімы яе, і гоман ляснога ручая з мурожнымі травамі, і пах чабору, уплеценага ў дзявочыя косы, — усё гэта міла, па-юначы непасрэдна, першародна.

Даволі часта на старонках газеты выступае Марыя Савановіч. Яна таксама сёлета канчае дзесяць класаў гарадской школы. Упершыню на чарговае пасяджэнне літаратурнага аб'яднання прыйшла некалькі гадоў назад. Тыя яе вершы, якія абмяркоўвалі тады пачаткоўцы, хутчэй за ўсё нагадвалі проста зарыфмаваныя радкі. І вельмі добра, што старэйшыя таварышы ўважліва аднесліся да Марыі, дапамаглі ёй сяброўскімі, шчырымі парадамі. Дарэчы, уважлівасць да таварыша тут заўсёды спалучаецца з высокай патрабавальнасцю. І калі адбываецца абмеркаванне новых твораў для літаратурнай старонкі, пасіўных няма.

Свае сілы ў літаратурнай творчасці спрабуюць таксама Вольга Залатая, Рыгор Родчанка... Апошні выступае і з артыкуламі аб мінулым Случчыны, аб яе вядомых земляках.



**На здымку — пасяджэнне літаратурнага аб'яднання. Свае новыя вершы чытае вучаніца Марыя Савановіч. Злева направа: настаўнік-пенсіянер А. Лешчанка, рабочы В. Барадзіч, дырэктар Чапліцкай сярэдняй школы, член Саюза пісьменнікаў БССР В. Дайліда (старшыня аб'яднання), настаўнік Р. Родчанка, выхавацельніца дзіцячага сада А. Дубовік, шафёр П. Шуляк.**

Фота А. РАЎБЫ і І. ЗЯНЕВІЧА.

Літаратурныя старонкі ў газеце выходзяць амаль кожны месяц, друкуюцца асобныя падборкі.

Пачаткоўцы — даволі частыя госці сярод калгаснікаў, рабочых, вучняў школ горада і раёна. Цікавыя сустрэчы адбыліся нядаўна ў гарадскім тэатры «Дружба», у Бокшыцкай сельскай бібліятэцы, на радзіме пісьменніка Рыгора Мурашкі ў Бязверхавічах.

Не зазіраючы на далёка, адно можна сказаць, безумоўна: любасць да роднага слова, якая нарадзілася тут, дасць добрыя ўсходы.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

**Пятро ШУЛЯК**

## Родная Беларусь

О, Беларусь! Красуня яснавокая,
Я твой да скону дзён маіх!
Люблю лясы твае высокія,
Сярод хлябоў духмяных, залатых.
Палошча вецер косы твае жытнія,
Карункі маладых бяроз,
У неба я ўглядаюся блакітнае
І слаўлю край, дзе ў радасці ўзрос.

**Марыя САВАНОВІЧ**

●

Гэтак кожны вечар:
Выбяру хвілінку,
Каб па кладцы срэбнай
Рэчку перайсці.
Не плыві на зорку,
Ціхая хмурынка, —
Мне патрэбна неба
Яснае ў жыцці.

**Жана КАСЦЮКЕВІЧ**

## Дарогі

На поўдзень, на захад,
На поўнач ляглі
Дарогі на нашай
Роднай зямлі.
І вабіць дарога
Заўжды за сабой,
Туды, дзе будоўля,
Дзе мора прыбой.
Дзе песням раздольна,
Дзе столькі сяброў!
Дарога ж удалеч
Імчыцца ізноў.
Хай песні гучаць,
Хай горад гудзе,
Хай шчасце з сабою
Дарога вядзе.

**Антаніна ДУБОВІК**

## Танец бярозак

Абцасы пастукваюць,
Бы песню выводзяць:
Бярозкі плывуць у карагодзе.
Зялёныя косы,
Спаднічкі бялюткія...
Уздрыгваюць плечы
У танцы хуткім...
Няма прыгажэйшага
Танца на свеце,
Чым танец бяроз —
Танклявых дзяўчатак,
Маленства майго непаўторны пачатак...

СЯРОД КНІГ СЯРОД КНІГ

# ЗЯМЛЯ, НА ЯКОЙ ЖЫВЁМ

АСЕННІМ ХОЛАДАМ вее са старонак гэтай кнігі. Нібы напісана яна на адным подыху, у адзін асенні сезон, калі ў пустых, размытых дажджом палях пуста і гола, а раніцай над гарызонтам устае невысокая чырвоная зара — прадвеснік блізкіх маразоў. У такія дні да чалавека прыходзяць успаміны. Душу раптоўна ахоплівае адчуванне трывогі. Памяць вяртае з мінулага падзею, якая асабліва запомнілася, і калі «адкрываюцца яе старыя раны — гэта страшна».

Страшна не ў тым сэнсе, што героязў кнігі А. Жука «Асеннія халады» грызе сумленне і ім хочацца каяцца, выварочваць сваю душу. Не, ім не трэба хаваць вочы ад людзей — яны пражылі жыццё высакародна і сумленна. Аднак гэтым людзям, якія прывыклі жыць проста і незамыславата, у вечных турботах аб зямлі і хлебе, прыходзіцца разбірацца ў тым, што хацелася б забыць, адштурхнуць ад сябе — вайну, страшэнную і крывавую, якая забрала сваякоў і блізкіх — вось тут, побач, на вачах ва ўсіх людзей, але гэта забыць нельга, цяжка. І, напэўна, у самім механізме чалавечай памяці, «пільнай на страты», заключана гэтая вялікая зямная задача: напомніць чалавеку пра тое, што было.

Успаміны пра вайну, што сталі традыцыйнымі ў апавяданнях і аповесцях маладых аўтараў, якія ўжываюць іх часта без асаблівай на тое патрэбы — як своеасаблівы фон для галоўных падзей, у кнізе А. Жука ўспрымаюцца арганічна, яны — плоць і сутнасць многіх яе старонак. Часам упамінаецца, што гаворыцца, «голы эпізод», але ў ім мільгане адна-дзве дэталі — аб'ёмныя і глыбокія, і сэнс прачытанага ўспрымаеш ясна, без лішніх слоў.

Так у навелах «За Дзедавым лесам» партызаны «ляжалі на толькі што вымытай падлозе, ляжалі ўсе восем, нязвыкла нерухомыя і доўгія»... «Доўгія» — гэта проста праўдзівая мастацкая дэталь, а сутнасць навелы ў словах «нязвыкла нерухомыя»: «нязвыкла» не чалавечая смерць, яна — натуральная, а ненатуральна забойства — так дзіўна і незразумела бачыць мёртвымі тых, хто яшчэ раніцай гаварыў, смяяўся, спяваў... У некаторых апавяданнях успамінаецца не столькі эпізод, колькі яго «адлюстраванне»: колер, пах, дэталі абставін, і калі раптам прагучыць аўтарскі голас, які разбурае «ілюзіі прысутнасці», ён не перашкаджае ўспрыманню галоўнага, уся карціна нібы асвятляецца новым святлом.

Так, дачытваючы навелу «Бабулька», уздрыгваеш не ад вінтовачнага выстралу, а ад шчымлівых аўтарскіх слоў: «А ў вёсцы па-ранейшаму было ціха, дружна дымілі каміны»... «Слепа і бела» свеціць месяц у мёртвыя вочы бабулі, якую застрэліў фашысцкі вылюдак (апавяданне «Белы месяц»).

Нянавісць — не проста як эмацыянальны стан душы, у ёй ёсць усведамленне свайго прызначэння на роднай, растаптанай чужымі ботамі зямлі, усведамленне, якое прыходзіць да старой жанчыны ў яе апошні дзень і не прыходзіць да яе дарослай дачкі. І калі нават падобны пераварот у душы адбываецца неасэнсавана, усё роўна, гаворыць аўтар, «надыходзіць тая пара, каб агледзецца на пражытае» і даць яму сваю ацэнку. Яна можа прыйсці праз многа год, і нават «калі ў жыцці было больш пражыта справядліва, захочацца неяк яшчэ паправіцца, каб і ўсё яно, жыццё, было гладчэй»... Ці не гэта жаданне «неяк яшчэ паправіцца» прыводзіць былога партызана Хвёдара праз многа год ў месцы, якія запомніліся ў вайну (апавяданне «Даўняя памяць»).

Ёсць у кнізе «Асеннія халады» апавяданні аб сённяшніх днях, карціны сучаснага вясковага быту, характары людзей, апісаныя пільна і пераканаўча. Трэба сказаць, што ў гэтых апавяданнях, створаных з любоўю да працоўнага чалавека, аўтар не абыходзіць і «цёмных бакоў», аб якіх пакуль яшчэ гавораць скупа і з неахвотай. У гэтым сэнсе прадстаўляе цікавасць апавяданне «Замеценыя дарогі» — апісанне п'янага вяселля, на якое выпадкова трапляе калгасны трактарыст. Выразна і праўдзіва апісаны «гаспадар» і яго жонка — пустыя, нікчэмныя людзі, якія бачаць сэнс жыцця ў грошах, багацці, і толькі з гэтай меркі ацэньваюць кожнага новага чалавека. Горка гучаць у фінале словы хлопца, які гаворыць з хваляваннем: «Чалавека згубілі. За паўлітрам, за рублём, за машынаю... І ўсё з гэтага пачынаецца»...

Добрае апавяданне «Вінцэсеў дзень» — адзін дзень з жыцця пажылога калгасніка, які сэрцам хварэе за народнае дабро. Выдатнае «Сонечны снег» — аб паляванні, аб роднай прыродзе, пра час «зіхатлівых сонечных дзён, высокага неба і да слёз іскрыстага снегу ў палях»...

Але ў зборніку ў дастатку хапае і таго, што псуе нават лепшыя апавяданні. Перш за ўсё — гэта нераспрацаванасць кампазіцыі, няўменне аўтара выкрасліць лішняе: дэталі, эпізоды, нагрувашчванні звужваюць «аператыўную прастору» — герою нібыта прыходзіцца прабівацца праз густыя зараснікі. Людзі ўваходзяць і выходзяць часта без усялякага мастацкага тлумачэння. Напрыклад, у выдатным апавяданні «Даўняя памяць» выглядаюць лішнімі апісанні дарогі да месца падзей (яно з'яўляецца ў апавяданні некалькі разоў). Некаторае шматслоўе, гэткае «эмацыянальнае нетрыманне» адчуваецца і ў апісаннях прыроды. Часамі аўтара падводзіць і мастацкае пачуццё, і тады з-пад яго пяра выходзяць такія прыдуманыя, «салодкія да слёз» апавяданні, накшталт «Сок манга» і «Завулак». Непраяснёнае па думцы, апісальнае апавяданне «Жонка героя».

**Б. КАЗАНАЎ.**

А. Жук. «Асеннія халады». Апавяданні. Выдавецтва «Мастацкая літаратура». Мінск, 1972.

# НЕАКРЭСЛЕНАСЦЬ ПАЗІЦЫІ

Лірычны герой Уладзіміра Дзюбы яшчэ шукае свайго месца ў жыцці. Ён неспакойны і няўрымслівы, прагне жыццёвай рамантыкі. І гэта адразу ўражвае чытача.

Але чым далей чытаеш зборнік, тым больш пераконваешся, што пазіцыя аўтара яшчэ не зусім акрэслена, што ён празмерна захапляецца ўяўнай паэтызацыяй. Адсюль — непатрэбная ўзнёсласць, рытарычныя пытанні, накшталт: «А які ён (Млечны шлях. — **У. С.**), цярністы ці не?».

Паэт звяртаецца да цяжкага пасляваеннага дзяцінства. Ды, захапіўшыся, часам піша аб тым, чаго не мог бачыць, што не выспела ў душы, сэрцы, а ўзята з літаратуры.

Дзіўна чытаць, калі аўтар, які нарадзіўся пасля вайны, піша:

**Байцы.**<br>
**Байцы з усіх бакоў.**<br>
**Крычу,**<br>
**Махаю я ім з далі—**<br>
**Іх, невясёлых,**<br>
**Не ўпрасіць,**<br>
**Каб і мяне**<br>
**на фронт узялі,**<br>
**каб мне,**<br>
**як ім,**<br>
**на фронце быць.**

Пераважная большасць вершаў зборніка дае падставы думаць, што Ул. Дзюбу часта нестае свайго голасу, яго вершам — вобразнасці, пэўнага разумення ў абагульненні факта. І паэт ідзе па шляху найменшага супраціўлення, бярэ на ўзбраенне штамп: «І першая дыміцца баразна» (гэта аб вясне), «сцяна са звонкай сасны», «І многа хустачак агністых», яшчэ аўтар п'е з ласінага капытка, з якога піло ўжо столькі паэтаў. Інертнасць прыводзіць да абстракцыі, звыклага набору слоў і — няпраўды:

**Асцярожна—лес!**<br>
**Зусім дарэмна**<br>
**З недаверам перасцерагаць**<br>
**Лася,**<br>
**Які між лесу дрэмле,**<br>
**Птушак... і г. д.**

У цытуемым вершы «Асцярожна — лес!» — паток інфармацыі, які лагічна не звязаны з абагульненнем. Невядома, каго ратаваць: лася ці паэта, лес ці надпіс «Асцярожна — лес!»

Паэт часам да таго захапляецца, што ідзе на кампраміс з сумленнем і ўласнымі пачуццямі:

**Мяне высачыла,**<br>
**Убачыла...**<br>
**Можа так вось яно і лепш:**<br>
**Ты ідзеш да мяне**<br>
**Ускудлачанага,**<br>
**І сняданак цёплы нясеш.**

Гэта — аб каханай («Пушча»).

У вершы «Свая казка» аўтар не змог падняцца да мастацкага паказу прыгажосці зімы.

Сінія азёры і русалкі, зоркі, што падаюць у мурог, многае другое, збітае ад частага ўжывання, вядома, не нясе ў сабе сапраўднай паэзіі. Усё гэта надакучліва. І тым больш не даруеш аўтару, бо сустракаюцца і добрыя радкі, удалыя вершы: «Люблю вясковыя вяселлі», «Вуліцы без назваў», «Што ні думаць»... Удачы ў паэта больш-меншыя тады, калі тэма падказана асабістым светаўспрыманнем, калі думка загартавана ў гарачыні свайго сэрца, калі асэнсавана ў сваім разуменні з'яў. Агаворымся, што і вышэй названыя творы зусім не бездакорныя ў сэнсе выяўленчых сродкаў мовы.

І яшчэ. Малады аўтар звярнуўся да жанру вянка санетаў, што не так ужо і часта сустракаецца ў беларускай паэзіі. «Выток» — так называецца вянок Ул. Дзюбы. З першых радкоў пачынаеш верыць у шчырасць аўтара, але яна не даўгавечная і разбіваецца ад прызнання:

**І сам сябе даўно лаўлю на думцы,**<br>
**Што трэба мне душою не крывіць,**<br>
**Зямлёю продкаў шчыра даражыць...**

Атрымліваецца, што аўтар даўно крывіць душой і разумее гэта. У творы адсутнічае арганічная сувязь паміж малюнкамі, ёсць супярэчнасці, рыторыка.

Гаварыць аб пэўных творчых удачах аўтара зборніка «Вуліцы без назваў», на нашу думку, яшчэ ранавата. Яму неабходна больш строга, ашчадна адносіцца да радка, шукаць слова, шукаць настойліва свой шлях.

**У. САЛАМАХА.**

У. Дзюба. «Вуліцы без назваў». Серыя «Першая кніга паэта». Выдавецтва «Мастацкая літаратура». Мінск, 1972.

# КАРЫСНЫ ДАПАМОЖНІК

У правілах спалучэння слоў, у заканамернасцях утварэння розных тыпаў словазлучэнняў ярка праяўляецца нацыянальны характар мовы. Даследаванне Л. Падгайскага «Словазлучэнне ў беларускай мове» і прысвечана гэтаму актуальнаму і важнаму пытанню.

Даследчык у сваёй працы бярэ пад увагу і ўсебакова разглядае толькі дзеяслоўна-іменныя словазлучэнні з акалічнаснымі адносінамі. Зыходзячы з гэтага грунтуецца і сама структура кнігі. Спачатку разглядаюцца беспрыназоўнікавыя і прыназоўнікава-склонавыя словазлучэнні, а затым даследуюцца канструкцыі з часавымі, прычыннымі і мэтавымі адносінамі.

Ва ўступнай частцы характарызуюцца два пункты погляду на словазлучэнні: традыцыйна-сінтаксічны і лексіка-сінтаксічны.

З даследавання відаць, што нават кароткая характарыстыка іх сведчыць пра складанасць і недастатковую распрацаванасць праблемы. Аўтар добра робіць, што ў рабоце выкарыстоўвае дыялектныя матэрыялы, свае назіранні і запісы, зробленыя ў розных раёнах нашай рэспублікі.

У сувязі з тым, што ў беларускай мове перадача прасторавых адносін пры дапамозе беспрыназоўнікавых склонавых форм з'яўляецца малапрадуктыўнай, асноўную ўвагу аўтар канцэнтруе на прыназоўнікава-склонавых канструкцыях. У іх выдзяляюцца два віды значэнняў: значэнне месца і значэнне прасторавай накіраванасці дзеяння. Затым характарызуюцца словазлучэнні з прыназоўнікамі: *з, ля, каля, між, паміж, на, у, па, пад* і інш.

Як станоўчае ў кнізе, трэба адзначыць, што, аналізуючы словазлучэнні з прыназоўнікамі, амаль да кожнага прыназоўніка аўтар робіць гістарычныя каментарыі, звязаныя з паходжаннем яго, вызначаюцца асноўныя функцыі, падкрэсліваецца ступень пашырэння словазлучэнняў з адпаведнымі прыназоўнікамі ў сучаснай беларускай мове.

Прааналізаваны матэрыял з выражэннем прасторавых адносін у складзе дзеяслоўна-іменных словазлучэнняў у сучаснай беларускай мове, падкрэслівае моваазнаўца, дае падставу зрабіць вывад, што беларуская мова, як і іншыя славянскія мовы, мае багатыя і разнастайныя граматычныя сродкі для выражэння прасторавых адносін, што сучасная беларуская мова захоўвае некаторыя старажытныя беспрыназоўнікавыя сродкі выражэння прасторавых адносін: формы давальнага, вінавальнага і творнага склонаў.

У другім раздзеле аналізуюцца словазлучэнні, якія выражаюць часовыя адносіны, паказваючы час як аб'ектыўную форму існавання матэрыі. У супрацьлегласць словазлучэнням з прасторавымі адносінамі, дзе галоўным словам у большасці выпадкаў з'яўляецца дзеяслоў, які паказвае на перамяшчэнне, тут выступаюць дзеясловы, досыць разнастайныя па сваім лексічным значэнні, бо ўсякае дзеянне можа атрымаць часавую характарыстыку ў залежнасці ад моманту яго здзяйснення.

Такім чынам, галоўны кампанент у словазлучэннях з часавым значэннем лексічна не абмежаваны. Затое колькасць назоўнікаў, падкрэсліваецца ў даследаванні, якія могуць уступаць у лексікаграматычную сувязь з дзеясловамі і ўтвараюць словазлучэнні з часавым значэннем, абмяжоўваецца пэўнай групай слоў. Гэтыя словы абазначаюць канкрэтныя часавыя адзінкі або адрэзкі часу: *гадзіна, суткі, тыдзень, месяц, год, ноч, зіма, лета* і інш.

Тэарэтычна глыбока і кампазіцыйна правільна разглядаюцца прыназоўнікава-склонавыя словазлучэнні, шырока выкарыстоўваюцца адпаведныя эквіваленты з рускай, польскай, чэшскай і іншых славянскіх моў. У прыватнасці, аналізуюцца словазлучэнні з прыназоўнікамі *а (аб), ад, да, к, з, за, на, у, пад, праз, цераз* і ў заключнай частцы з вытворнымі прыназоўнікамі.

Трэці раздзел прысвечаны словазлучэнням з перадачай прычынных адносін. Адпаведны матэрыял патрабуе зусім іншага падыходу да вырашэння тэмы. Аўтар шмат увагі аддае філасофскаму тлумачэнню пытання.

Спачатку даследуюцца беспрыназоўнікавыя словазлучэнні з родным, давальным, вінавальным і творным склонамі. Падкрэсліваецца, што вывучэннем пытання пра ўжыванне склонавых форм у значэнні прычыны займаліся многія даследчыкі марфалогіі і сінтаксісу ўсходне-славянскіх моў, што гістарычны лёс гэтых канструкцый ва ўсходне-славянскіх мовах быў неаднолькавы. У сучаснай рускай мове склонавыя формы, якія выступалі ў значэнні прычыны, зусім выйшлі з ужывання і не адзначаюцца даследчыкамі. У беларускай аналагічныя канструкцыі ў выглядзе лексікалізаваных моўных сродкаў дайшлі да нашых дзён і ў сістэме іншых спосабаў перадачы прычыннага значэння ўжываюцца і цяпер.

У даследаванні на шырокім моўным матэрыяле ў супастаўленні са старажытнымі помнікамі паказаны гістарычны працэс абмежаванага ўжывання беспрыназоўнікава-склонавых форм для перадачы прычынных адносін. Шкада, што аўтар крыху неакрэслена ўжывае лінгвістычную тэрміналогію. У адных выпадках пішацца «агульна-ўсходне-славянская мова», у другіх — «старажытная мова», і невядома, ці гэтыя тэрміны падаюцца як сінонімы ці маюцца на ўвазе зусім розныя мовы.

Цікавы і апошні раздзел пра словазлучэнні, у якіх выказваюцца мэтавыя адносіны. Даследчык на багатым моўным гістарычным і сучасным матэрыяле аналізуе словазлучэнні з прыназоўнікамі *да, к, для, дзеля, за, на, па, пад, у,* а таксама застарэлыя сродкі перадачы мэты, і акрэслівае фарміраванне новых сродкаў выражэння мэтавых адносін. Аўтар паслядоўна вызначае семантычныя функцыі кожнага прыназоўніка ў канкрэтным словазлучэнні, супастаўляючы іх з адпаведнымі сінтаксічнымі асаблівасцямі іншых славянскіх моў.

Напрыклад, разглядаючы словазлучэнні з прыназоўнікамі *для, дзеля,* аўтар падкрэслівае, што ў сучаснай беларускай мове гэтыя прыназоўнікі існуюць паралельна, але кожны з гэтых прыназоўнікаў выконвае свае функцыі.

Як станоўчую з'яву трэба адзначыць і тое, што ў дапаможніку даецца змястоўнае і глыбокае заключэнне, змешчана багатая бібліяграфічная літаратура па тэме.

**М. СТЭЛЬМАХ.**

Л. Падгайскі. «Словазлучэнне ў беларускай мове». «Вышэйшая школа», Мінск, 1971.

З ЛІТАРАТУРНАЙ СПАДЧЫНЫ



Антон АЛЕШКА




АПАВЯДАННЕ

Мал. А. САПЕТКІ.

УСЁ так хутка і нечакана адбылося, што Адар'я вярнулася на родны двор і рукамі развяла. Снег ад ганку адкідалі рыдлёўкамі суседкі, а крывы Арцём падмятаў двор венікам на палцы, шырока размахваючы рукамі, як касец на аселіцы. У глыбіні двара каля нізкае клеці тупаў бацька Адар'і — Калістрат. На прыступках з малым дзіцем на руках стаяла маці. Навокал валяўся няхітры хатні скарб.

Ружовая лялька, з якой гуляла дзяўчынка Адар'і, сядзела на снезе, растапырыўшы ручкі, і, здавалася, дрыжэла ад холаду, як жывая.

Адар'я прайшла па сваім двары, як па чужым, кіўнула галавою суседзям. Забрала ляльку, спынілася каля клеці.

На ганку хаты з'явіўся прысадзісты немец.

— Шнэлер, працаваць!— і ляснуў нечым па дзвярах.

Адар'я паглядзела на ўскудлачаную бараду бацькі, на якой вісеў выбіты каласок жыта, і ўзяла на рукі сваю дзяўчынку. Дзіця голасна заплакала.

— Выгналі з хаты, дачушка. Усё выкінулі...

Калістрат спаткнуўся на вожагі, дыхнуў Адар'і ў твар.

— Шпіталь будуць рабіць. Усіх вон. Я баюся, каб дзіця не захварэла.

Хатні скарб склалі ў клеці. Маці, замкнуўшы дзверы, заламала рукі.

— Дзе нам, гаротным, прытуліцца? Дзе дзецца з дзіцем?!

Калістрат на гэты раз хутчэй другіх знайшоўся.

— Мар'я, — звярнуўся ён да старое. — Не стаяць жа нам на дварэ. Пограб наш пустуе, а калі ў ім паставіць пячурку, то можна будзе жыць.

Усе ўтраіх пераглянуліся. Разумная думка адразу ўсцешыла іх. Нават маленькая Нэля на руках Адар'і сціхла і штосьці гула сама сабе, варушачы ружовымі губкамі.

Калістрат адчыніў прыгрэбіцу. Дзверцы пограба падпёр палкай. З чорнай ямы адразу дало ў нос прэлай саломай, гнілой бульбай. Згорблены Калістрат апусціўся ў пограб. На вязанцы аўсяніцы селі маці і дачка.

— Што будзем рабіць?— падпершы твар сухою рукою, запыталася Мар'я ў дачкі Адар'і.

— Мама, будзе відно, што рабіць. Алесь сказаў трымацца покуль.

— Ты бачыла яго?

— Бачыла.

Адар'я паправіла правай рукою хустку. Правяла шурпатай далонню па твары.

— Крута і Алесю зараз. Траха не загінуў у блакаду.

Адар'я падкурчыла пад сябе ногі, утрапёна пазірала чорнымі вачыма праз дзверцы прыгрэбіцы на аснежаны агарод, пусты сад. Ёй відзён быў шалёваны лабок хаты, у якой яна радзілася, расла, у якой была гаспадыняй. А зараз...

— Шнэлер, працаваць!—даляцеў з двара голас немца.

Адар'я абудзілася ад хвіліннага забыцця. Сэрца яе сціснулася. Нутро калацілася ад невыноснай злосці. На пушку верхняй губы пад самым носам блішчэла раса інею.

У вачах бліснулі халодныя іскры.

— Мо як перажывем,— манатонна цягнула маці.

Словы маці тупым нажом пілавалі горла. Адар'я ўстала. Пасадзіла на салому ўхутаную дзяўчынку. Невысокая постаць Адар'і не ўмяшчалася на прыгрэбіцы. Яна стаяла сагнуўшыся тварам да маці і горача шаптала ёй у твар.

— І сабака Лыска перажыве. А я немчуру з першага дня не цярплю і зараз зусім не магу трываць, калі яны топчуцца ў нашай хаце.

— Ціха!

Галава Калістрата паказалася з пограба. Ён замёр на месцы. Як зняў з каўняра саломінку і хацеў яе данесці да рота, так і павісла рука ў паветры. Гладкі, бялявы твар дачкі палыхаў полымем. Вочы чорныя, круглыя, так і пранізвалі наскрозь.

— Каб я болей не чула...

Калістрат варушыў барадою, ён не зразумеў, што хацела сказаць дачка. Гутарку перабіў немец.

— Мыць падлогу!

Адар'я азірнулася. Немец адхіснуўся назад, нібы хто заляпіў яму аплявуху. Правёў хутка рукою па чырвоным тлустым твары. Паправіў на сабе шынель, сабраўся з духам.

— Хутчэй мыць падлогу!

Адар'я выйшла за прыгрэбіцу. Шэрае нізкае неба, як алавяны вялікі каўпак, асела на зубчасты лес гарызонта. Аснежаныя палеткі сіратліва стылі на марозе. Маладзіца блукала поглядам навокал сябе і не знаходзіла, на чым можна было спыніцца. Як у жыцці, так і на запалоненай зямлі не было ні аднае радаснае прасветлай мясціны.

Па плячы Адар'і пастукала рука маці.

— Пойдзем, дочачка, памыем падлогу. Яна ўсёроўна наша.

У голасе маці чуліся пявучыя ноткі, як і ў гутарцы Адар'і.

— Ты супакойся.

Наэлектрызаванае нутро Адар'і атрымала разрадку. Яна паглядзела на ўпалыя губы маці і ёй стала шкада старое. Рукі міжвольна падніmaліся, каб абняць худыя яе плечы. Аднак твар Адар'і зноў стаў суровы, яна закусіла верхнюю губу.

— Паслухаюся цябе,— прабурчэла сабе пад нос.

Маці, Адар'я і дзве суседкі пачалі мыць падлогу. Адар'я старанна шаравала венікам мокрыя дошкі, дзе яна ведала кожны сучок, а на сэрцы ў яе ляжаў смутак, і думала яна, што можа мые родны кут у апошні раз. Пачуццё прывязанасці да наседжанага месца стала дваіцца, і калі ўзяліся за другую палавіну хаты, яна абыяк хутка нацерла падлогу, сабрала ваду. Падумала пра сябе, што калі прапала кароўка, то нечага шкадаваць і вяроўкі.

На парозе стаяў немец.

— Трэба лепш...

— Годзі з цябе і так...

Адар'я паглядзела на памытую пустую хату і выйшла на двор. Усё навокал было роднае, адначасова і чужое. Калістрат у новых умовах хутка асвоіўся. Пад вечар ён прарэзаў дзірку ў страсе пограба каля самае зямлі і вывеў на верх комін. Запалілі пячурку. У пограбе зрабілася горача і сыра, як у лазні.

Раніцай у дзверцы пограба раздаўся аглушальны стук.

— А божачка, мілы!..

Калістрат стаў на лескі. У цёмны пограб прасачылася вадзяністае святло шэрае раніцы.

— Адар'я!— зваў немец.

Маці ўхапілася за дачку, шаптала ёй на вуха, каб тая не адзывалася і не выходзіла. Адар'я не паслухалася. Яна вылезла з пограба, умурзаная ў сажу. Бруднаю рукою захіліла твар, асепленая бялізною снегу. Праз некалькі хвілін прамаргалася, убачыла перад сабою ўчарашняга немца.

— Пойдзем! Мыць падлогу...

Адар'я недаверліва пазірала на немца, а потым затаіла пра сябе думку на ўсякі выпадак і пайшла за ім. У варотах двара стаялі дзве закрытыя машыны з чырвонымі крыжамі. На ганку трапіліся два немцы з насілкамі на плячах. За адну ноч хата Адар'і так перамянілася, што яна не пазнала яе. У першай палавіне стаялі два сталы ўпоруч. У кутку — адзін нізкі стол з бутэлькамі і розным блішчастым інструментам. Лявей стаяў жалезны столік з падстаўкай. Сцены хаты былі абцягнуты белай, як снег, марляй. Адразу ў вочы Адар'і кінулася кроў на падлозе. Яна перавяла погляд на белыя міскі пад сталамі. Яны былі запоўнены акрываўленымі бінтамі і ватай. Адар'я аслупянела.

Яна да смерці баялася крыві. А тут яе так многа на падлозе, на сталах. Немец узяў яе за руку і павёў з хаты. За плотам быў стары закінуты калодзеж.

— Усё кідаць сюды. Мыць хутчэй, пакуль адпачываюць дактары.

Адар'я сама не свая зайшла ў хату і злажыла рукі на хвартуху. Яна не ведала, за што брацца. Немец, як яна даведалася, быў санітар аперацыйнай, ён узяў прысадзістую бутэльку са стала і стаў пырскаць з яе на запечаную кроў на падлозе.

Дзве чырвоныя лужы каля абодвух сталоў пеніліся і пускалі малінавыя банькі. Санітар узяў шчотку, паліў на кроў вадою і стаў шараваць.

— Рабіць так!— а сам зараз жа знік.

Адар'я пастаяла некалькі хвілін, потым узялася за работу. Рук сваіх яна не чула. Перад вачыма ўсё заслала чырвонае палотнішча, на якім штохвілінна з'яўляліся і лопаліся банькі. Бывала, яна баялася крыві пеўня. Зараз пачала выціраць падлогу свае хаты, шчодра палітую варожай кроўю. Выцерла адну лужу, потым другую. Выпрасталася не спяшаючыся і тут жа пачула, як часта пад паўкажушкам б'ецца яе сэрца. Яна прыслухалася і падумала пра сябе, чаму яно так можа быць. Пакуль думала — супакоілася. Яшчэ раз вышаравала падлогу не таму, што хацела добра выканаць загад. Яна хацела, каб на падлозе яе хаты не было нямецкай паганай крыві. Пасля вынесла адну міску з бінтамі, прыйшла і ўзяла другую. Спакуслівая цікавасць прымусіла падняць за край бінт і паглядзець, што робіцца глыбей. Асцярожна ўзялася за акрываўленую тканіну, гідліва адвярнуўшы ўбок галаву, нібы адтуль павінен быў выскачыць аблезлы пацук. Пад бінтамі ляжала вата. Адар'я смела падняла яе. З-пад ваты паказаліся чалавечыя кіпці. Адар'я не зразумела, у чым справа. Далей паказаліся пальцы, далонь, цэлая рука!.. Міска бразнула аб падлогу. З яе вываліліся дзве рукі. Адна была ампуціравана па локаць, сіняя, як купарос, другая — па запясце, уся жоўтая, нібы з воску вылепленая.

Адар'я задам адступіла назад, хапаючыся рукамі за вушак дзвярэй, і выйшла ў другую палавіну. З'явіўся санітар. Ён падабраў ампуціраваныя рукі, перавязачны матэрыял.

— Нясі.

Адар'я спынілася на ганку. Глыбока ўдыхнула свежае паветра. Сад, агарод і палеткі ўбачыла афарбаванымі ў мяккі чырвоны колер. Сама з сябе дзівілася, вяртаючыся ў хату. Немец пахваліў яе за працу, растлумачыў, што яна павінна кожную раніцу прыбіраць аперацыйную. Сам санітар увесь час знаходзіцца тут і нават спіць за печкаю на нізкім ложку. Паказаў таксама, як і дзе мыць рукі пасля работы. Адар'я выйшла з хаты, а перад вачыма неадчэпна, як сляпень, стаяла жоўтая нямецкая рука з заграбастымі скурчанымі пальцамі.

Яна спачатку крыху сумелася, а потым стала думаць пра сябе, што мабыць нямала непавінных людзей загубіла гэтая рука, урэшце адбітая караючай куляй чырвонаармейца. Адар'я спынілася каля пограба. Усхваляваная маці абняла дачку. Адар'я адвяла рукі маці.

— Зараз я табе не дачка. Выганяй мяне з пограба, і я пайду па свету, як валацуга.

— Што ты?! — спалохалася маці.

— У нашай хаце нямецкія дактары рэжуць раненым рукі і... крыві поўная хата. Ён прымусіў мыць падлогу. Мае рукі гараць ад крыві, нібы я іх сунула ў кіпень. Ну, як я вазьму дзіця на рукі?..— і сціхла.

У пячурцы гудзеў агонь. Адар'я губілася, не ведала, што сказаць. Старая супакоілася, бо спачатку падумала страшнае, сказала ціхім голасам.

— Ты вельмі хаця не гадзься...

Думкі Адар'і насіліся далёка ад гэтага пограба, там, дзе быў Алесь. Аднак, у момант апамяталася, схапіла руку маці.

— Я ўсё перанясу. Мяне радуе толькі адно, што добра нашы б'юць немцаў. Колькі яны разлілі іх крыві? Я, матуля, нават рада, што бачыла, колькі фашыстаў перабіта. Разумееш мяне?

У кутку пограба на саломе паварушыўся Калістрат.

— Але, добра кажа... І астатнія атрымаюць па першую лічбу.

— І ты нешта ведаеш,— перабіла Калістрата Мар'я.

— Няхай я нічога не ведаю.

— Мама!— узмалілася Адар'я.

На хвіліну ў цёмным пограбе асталявалася цішыня. Ад сцен веяла халоднай сырасцю.

— Каб не дзіця, ці я была б тут? Маё месца поруч з Алесем,— гаварыла далей Адар'я працяглым голасам і нібы сама з сабою разважала. — Ды Алесь сказаў, што я пакуль што добрая разведчыца. Як ён быў рад, калі я прыйшла да яго.

— Быць пэўна,— сказала маці.

— Ён мне расказваў, як ашукаў мадзьяраў. А мадзьяры, мама, Алесь гаварыў, такія ж, як цыгане, чорныя і ваююць разам з немцамі супроць нас. Яны праводзілі блакаду. І, кажа, от ужо прыперлі іх за Піліпкамі ў хмызняках, што і дзецца няма дзе. А ў Алеся абмуляная пятка. Яны спяшаюцца, а наперарэз мадзьяры. Здаровыя пабеглі хутчэй, а Алесь застаўся. Дзе дзецца, што рабіць? Алесь, кажа, бачу тырчаць уверх рэбры здохлага ці забітага каня. Падпоўз і залез...

— А божачка!— прастагнала маці.

— І так там праляжаў да цёмнага,— скончыла Адар'я.

У пограбе ціха. Старая паварушылася каля пячуркі.

— Хіба бульбы напяком?

— Ну, але,— сказаў Калістрат.

Так зарадзілася жыццё ў пограбе. Узімку сюдтуд дый вечар на дварэ. А калі сцямнела, на вуліцы зараўлі машыны. Калістрат ляжаў на сціснутым кулаку і губіўся ў дагадках. «Мусіць, горача стала, калі так заездзілі»,— падумаў ён і задрамаў. У поўнач паціху вылез на верх. Стаіўся каля клеці. На дварэ стагналі і енчылі параненыя немцы. Чуліся адрывістыя галасы каманды. Калістрат не звяртаў увагі на мароз, чакаў, што будзе далей. Нічога цікавага ён не дачакаўся, бо каля ганку і на дварэ рабілася адно і тое ж. З вуліцы падыходзіла машына і спыня-

ласся срод двара. Мітусіліся немцы, снег злосна скрыпеў. Параненыя крычалі на розныя лады. Потым машына заднім ходам выходзіла на вуліцу. Яе месца займала другая. І так без канца.

Калістрат вярнуўся ў пограб.

— Мар'я, ты не спіш? Адар'і будзе работы заўтра. Вязуць і вязуць...

— Спі, а то дзіця пабудзіш.

І сапраўды, на другі дзень яшчэ ў поцемках прыбег санітар па Адар'ю.

У аперацыйнай нікога не было, але ўсе міскі былі поўныя акрываўленых бінтоў і ваты. У вуглу першай палавіны штосьці ляжала загорненае ў акрываўленую прасціну. Гідлівасць страсянула Адар'ю ад плеч да пятак, як сцепае бура адзінокае дрэва ў полі. Адар'я сціснула зубы і стала прыбіраць хату. Памыла падлогу і з цікавасцю пакратала, што ляжала ў кутку. Калі ўчора яна не магла глядзець на ампуціраваныя рукі, то зараз з задавальненнем разглядала загорненыя ў прасціну ампуціраваныя часткі цела. Яе ўвагу звярнула нага, адрэзаная па самае бядро. Калена ўсё размята. Крыху вышэй чарнелі тры дзіркі кулявых прабоін.

Прытарны пах кружыў галаву Адар'і. Яна нібы ўчадзела, адышлася ад печы і села на ўслон. Блукала без мэты стомленым поглядам па падлозе і спынілася на вялікай сякеры з выгнутым тапарышчам. Ёй здалося, што гэтая нага была адсечана не іначай як гэтай сякерай. Холад прабег па яе плячах.

Далёка ў нутры, як з макавага зярняці вырастае цвет, вырасла і выплыла наверх упэўненасць і задавальненне, што вось і яшчэ некалькі нямецкіх ног не будуць таптаць нашу зямлю, а на чужой нямецкай зямлі яшчэ дабавіцца некалькі мыліцаў.

Зайшоў санітар, і, узяўшыся ў бокі, адабральна пазіраў на Адар'ю. Калі ўбачыў, што рабілася ў куце, сам вынес і хутка вярнуўся.

— Гут працуеш!— і ашчэрыў жоўтыя зубы.

Усмешка немца горш чым кроў і смурод разлажэння страсянулі Адар'ю. Яна выйшла. Немец крыкнуў ёй услед, але Адар'я не слухалася.

Затым два дні ў аперацыйнай не было работы. Адар'я засумавала. Раз няма работы тут, значыць нашы на фронце адпачываюць. Потым чатыры дні засаб адна Адар'я ўжо не магла выстарчыць і ёй дапамагаў санітар. На пяты дзень Адар'я не ўтрымалася. Яна з раніцы пайшла ў Карэнне з цвёрдым намерам убачыць Алеся.

Партызаны добра ведалі, што рабілася на фронце. Алесь шаптаў на вуха Адар'і:

— Цэлы тыдзень ідзе наступленне Чырвонай Арміі. Глядзі Нэлю. Хутка будзем разам.

Падвечар Адар'я вярнулася дамоў. З'явіўся санітар.

— Чаму не працавала?— гаркнуў ён.

— Табе добра. Усё пажэрлі,— і Адар'я паказала, выняўшы з кішэні акрайчык. — Хлеба шукала.

Немец махнуў рукою і знік у хаце.

На другі дзень з самае раніцы, лежачы ў пограбе, Калістрат прыслухаўся і цвёрда сказаў:

— Страляюць, Мар'я...

— Заўсёды выдумляеш.

— Прыслухайся, кажу.

Мар'я прыслухалася і пачула невыразны гул.

— То мо і праўда?

— Нашы б'юць,— сказаў Калістрат.

Адар'я ў гэты час скончыла работу і, выцершы рукі, павесіла ручнік. Немец зашчапіў дзверы, ухапіў яе і панёс на ложак. Адар'я ўпілася кіпцямі яму ў твар і вырвалася. Ухапіла з-за шафы сякеру і спрытна, як кошка, апынулася каля немца. Удар сякеры ў скроню раздваіў рыжы чуб немца на дзве часткі. Пярэдняя частка чуба разам са скурай зляцела чырвоным валасатым лоскутам на лоб і закрыла вочы. Аголены чэрап бліснуў на секунду жоўтай косцю, а потым раптам пачырванеў. З чорнай дзіркі скроні цурком пырснула кроў. Чырвоныя кроплі заляпілі белую печ, дасталі нават да столі. Немец як падняў рукі, так і застылі яны ў паветры на некаторы момант. Моцна захрыпеў ён і, як гліняны, абсеў на падлогу. Адар'я кінула сякеру. Паглядзела на свае рукі. Па падлозе пад яе ногі разлівалася лужа крыві.

Адар'я хутка сцягнула з ложка сінюю коўдру, выцерла з падлогі чорную кроў і ў апошні раз коўдрай абкрыла немца. На сэрцы яе ляжала трапяткая радасць, якая бывае ў чалавека, калі ён скончыць важную работу.

Адар'я акінула вокам чыста прыбраную хату, хутка выйшла на ганак. На бягу да прыгрэбіцы зашпіліла гузікі паўкажушка, аблягчона ўздыхнула.

— Мама, глядзі Нэлю. Я хутка, —і знікла за гумнамі.

Увечары сядзела поруч з Алесем, апавядала, што адбылося дома. Алесь гладзіў ліпкія ад поту валасы, пазіраў у чырвоныя зочы Адар'і.

— Цяпер ты можаш быць воінам нашага партызанскага атраду. Бачыш колькі трэба для таго, каб уліцца ў нашу сям'ю...

...Раніцаю Калістрат вылез з пограба. Убачыў на сваім двары незнаёмых. Тры чалавекі стаялі каля ганку, рослыя, з пагонамі на ватоўках. На вушанках гарэлі пяцікутныя зоркі. Самы крайні ўсміхнуўся з-пад кароткіх вусікаў, ківаў Калістрату.

— Ідзі сюды, стары.

Калістрат спыніўся і адвёў рукі назад. Ад радасці ў яго дрыжэлі губы.

— Нашы! Адар'я, нашы прыйшлі!

**Студзень 1946 г.**

ПА ВЫСТАВАЧНЫХ ЗАЛАХ

# ПЯШЧОТНАСЦЬ Рамуальдаса РАКАЎСКАСА

«Маленькі скрыпач» — IV прэмія, ГДР, 1964.

«Рукі»—бронзавы медаль, «Інтэрпрэсфота-70».

«Птушкі» — дыплом, ФРГ, 1970.

«Старасць» —дыплом, ФРГ, 1970.

«Аўтастрада» — ганаровая ўзнагарода, ЗША, 1970...

Гэты рэестр узнагарод літоўскага фотамайстра Рамуальдаса Ракаўскаса можна было б працягваць яшчэ і яшчэ. 58 лепшых яго твораў «гасцяць» сёння ў мінчан. Даволі разнастайныя па жанру — тут і пейзажы, і партрэты, і бытавыя «замалёўкі», і так званыя «фармальныя» здымкі,— яны на рэдкасць роўныя па ўзроўні выканання. На кожнай выстаўцы звычайна бываюць работы і ўдалыя, і не зусім, і іншы раз нават зусім няўдалыя — тут такое раздзяленне правесці цяжка.

«Пяшчотнасць» — вось назва-дэвіз экспазіцыі. Назва, на мой погляд, дакладная. Менавіта пяшчотнасцю, нейкай асаблівай добразычлівасцю прасякнуты адносіны аўтара да прадметаў выяўлення, да свету сваіх герояў. І не выпадкова, што шчасце кахання, шчасце маладых бацькоў —любімая тэма літоўскага фотамастака: шмат здымкаў («29-я вясна», «Ранак», «Маладыя», «Вузкая вулачка», «Пяшчотнасць», «Марскія хмары» і інш.) прысвечана ёй.



Р. РАКАЎСКАС. Аўтастрада.

Р. Ракаўскас любіць людзей, спачувае ім, радуецца іх радасцям... Свет мастака просты, ясны і спакойны, у ім няма месца нядобраму. Часам дазваляе сабе аўтар трохі пасумаваць («Скульптар», «Старасць», «Сяброўкі»). Але ж невясёлым яго назваць таксама нельга. Р. Ракаўскас — мастак мяккі, лірычны, лагодны.

У яго здымках, якія б складаныя па думцы, глыбокія па пачуцці яны ні былі, няма і намёка на вычварнасць, на штукарства—досыць распаўсюджаную хваробу мастакоў фатаграфіі. Р. Ракаўскас адлюстроўвае жыццё такім, якое яно ёсць; ён—назіральнік. «Я» мастака праяўляецца ў адборы. Ледзь абвастраючы, ледзь павялічваючы, аўтар толькі **звяртае вашу ўвагу.** Вось у гэтым «толькі звяртанні» —характэрная рыса светаадчування літоўскага фотамайстра. Натуральна таму, што работы яго пазбаўлены дэкларатыўнасці, што галоўнае гучанне ў іх часам набываюць «другарадныя» дэталі (рукі юнака—«Пяшчотнасць»; «заваленая», кажучы мовай фатографаў, у ценях і нават непрыкметная з першага позірку старая — «Старасць», і інш).

Адметная рыса твораў Р. Ракаўскаса — рух. Ён прысутнічае і ў самых статычных, на першы погляд, здымках—за кошт светлаценевага малюнку, пабудовы планаў, лінейнай кампазіцыі. А ў рабоце «Хлеб» эфект руху дасягаецца выключна сродкамі оптыкі. Тут «сыграў» «шырокавугольнік»: зрабі аўтар гэты кадр звычайным аб'ектывам — здымак «змярцвеў» бы.

Моцнае ўражанне пакідае работа «Сябры», нібы напоеная музыкай. Цудоўна зробленая «Аўтастрада» — той, хто быў у Літве, адчувае ўсю «літоўскасць» гэтай дарогі, гэтага святла. Запамінаюцца «Туман», «Рукі», «Дубы»...

Майстрам паказаў сябе Р. Ракаўскас і ў выкананні здымкаў, дзе некалькі большую, чым звычайна, ролю адыгрывае форма. «Дзікая яблыня», «Дарога», «Мост» дэманструюць добрае ўменне аўтара «абыгрываць» вялікія плошчы, процістаўляючы іх маленькім, раскрываюць яго тонкае пачуццё рытму.

Цікавыя работы, дзе літоўскі фотамастак стварае «эфект прысутнасці» («Матухна», «Пагляд», «Практыкант» і інш.), які дасягаецца пры дапамозе рэзкага перападу планаў. Гэтым прыёмам часта карыстаюцца кінематаграфісты. У фатаграфіі, аднак, ён дае, бадай, больш выразныя вынікі. Здымкі Р. Ракаўскаса, пабудаваныя на гэтым прыёме, адрозніваюцца вострай экспрэсіўнасцю.

...І ад таго, што гэта выстаўка — персанальная, і ад таго, што погляд аўтара на свет адрознівае рэдкая цэласнасць, уся экспазіцыя гучыць у адным ключы. З залы выходзіш з пачуццём чагосьці светлага, чыстага, добрага — і з падзякай мастаку...

Некалькі слоў аб арганізацыйным баку. Яны ўжо не зусім укладваюцца ў межы жанру рэцэнзіі, але сказаць іх, здаецца, неабходна.

Калекцыя работ Р. Ракаўскаса экспануецца ў памяшканні Саюза архітэктараў БССР, утульным і прыемным — аднак нязручным для правядзення выставак. Справа ў тым, што фотаклуб «Мінск» — арганізатар усіх фотасалонаў у нашай сталіцы — не мае сваёй дэманстрацыйнай залы. Хутка ён атрымае вялікія калекцыі здымкаў з Аўстраліі і Іспаніі. Трэба паклапаціцца загадзя, каб паказаць іх у добрых экспазіцыйных умовах.

**К. МІХАЙЛАЎ.**

# ЗЯМНОГА ЖЫЦЦЯ ХАРАСТВО

У МІНСКІМ абласным доме народнай творчасці разгорнута экспазіцыя работ народных умельцаў сталічнай вобласці. Звыш 350 экспанатаў расказваюць пра творчасць разьбяроў па дрэве, майстроў керамікі і шкла, скульптараў, жывапісцаў і графікаў, ткачых і вышывальшчыц.

— Задума такая, — расказвае дырэктар дома народнай творчасці Ул. Таран, — пастаянную выстаўку ператварыць у своеасаблівую творчую лабараторыю, у якой майстэрства лепшых народных умельцаў Міншчыны, іх традыцыі будзе пераймаць моладзь. Тут будзем праводзіць семінары, наладжваць сустрэчы, а экспанаты выстаўкі раскажуць пра творчасць людзей, улюбёных у мастацтва...

Партрэты У. І. Леніна зрабілі ў тэхніцы інкрустацыі народныя ўмельцы з Барысава А. Скакун і В. Фокін. Спявае дрэва ў руках спрытнага музыкі і добрага знаўцы народных інструментаў І. Лычкоўскага. На яго цудоўных дудках і звонкіх цымбалах грае нямала самадзейных артыстаў рэспублікі.

Гнеўны пратэст супраць вайны перадае ў сваёй кампазіцыі «Далоў вайну!» старэйшы ў рэспубліцы разьбяр А. Пупко. Пра сённяшні дзень, пра нязгасную прагу моладзі да ведаў апавядае работа разьбяра Л. Шостака «Мара».

А славутая івянецкая кераміка, вырабы са шкла барысаўскіх майстроў!.. Посуд Ф. Целяшэўскага, І. Малчановіча, А. Пракаповіча, вырабы з каляровага шкла і крышталю А. Жаваранкава, Л. Цімафеева, С. Грахоўскага задаволяць самыя патрабавальныя густы.

Атмасферу святочнасці, прыўзнятасці ствараюць і шматлікія работы калгасніц-ткачых. Цуды твораць іх залатыя рукі, багатая фантазія. Посцілкі зіхацяць як вясёлкі. Глядзіш — і здаецца, быццам трапіў у царства прыгажосці. І ткуць яго таленавітыя майстрыхі С. Пратасевіч, І. Весялуха, А. Муха са Слуцкага, Нясвіжскага і Любанскага раёнаў.

Нашы ткачыхі ўмеюць назіраць, падгледзець у краявідах роднай прыроды найбольш прыгожае. а пасля перадаць гэтую непаўторную красу ў сваіх посцілках і ручніках. Зайздросны талент.

Выставачная зала толькі адкрылася. Яшчэ не ўсталявалася яе экспазіцыя. Многае тут яшчэ будзе мяняцца. І гэта зусім натуральна. Бо штотыдзень паступаюць новыя экспанаты. Пастаянная экспазіцыя пастаянна ўдасканальваецца.

**Я. ДАНСКАЯ.**

У КЛУБАХ, БІБЛІЯТЭКАХ, КАЛЕКТЫВАХ МАСТАЦКАЙ САМАДЗЕЙНАСЦІ

# ТЫДЗЕНЬ У САМАДЗЕЙНЫМ ТЭАТРЫ

ТЭАТРАЛЬНАЯ САМАДЗЕЙНАСЦЬ Беларусі і найбольш дасканалая сучасная форма яе — народныя тэатры —у апошнія гады творча ўмацаваліся і пасталелі.

Нядаўна прайшоў другі этап грандыёзнага конкурсу народных талентаў, ініцыятарам якога стала Брэстчына. Аматараў тэатральнага мастацтва хвалююць праблемы сучаснасці, старонкі гераічнага мінулага краіны. Пра гэта яскрава сведчыць практыка работы многіх народных тэатраў вобласці. Напрыклад, у рэпертуары Пінскага народнага тэатра такія спектаклі, як «Рускія людзі» К. Сіманава, «Цудоўны сплаў» Ул. Кіршона, «Якаў Бацюк» А. Сінельнікава, «Заводскія хлопцы» І. Шура, «Трыбунал» А. Макаёнка. У Баранавіцкім ідуць спектаклі «Слава» В. Гусева, «Платон Крэчат» А. Карнейчука, «Вяселле ў Малінаўцы» Б. Аляксандрава, «Хлопец з нашага горада» К. Сіманава, «Шторм» Ул. Біль-Белацаркоўскага. Аб сучаснай п'есе шчыра клапоціцца і Брэсцкі народны тэатр чыгуначнікаў, Целяханскі сельскі народны тэатр.

Якасны рост сцэнічнага майстэрства аматараў прымушае мастацкіх кіраўнікоў народных тэатраў наладжваць сістэматычную вучобу ўдзельнікаў, арганізоўваць студыі.

Агляд народных тэатраў Брэсцкай вобласці паказаў, што заслугоўвае даволі высокай ацэнкі рэжысёрскае майстэрства. І гэта не дзіўна, бо амаль усімі калектывамі кіруюць людзі з прафесійнай падрыхтоўкай, з вялікай практыкай работы ў самадзейнасці.

Возьмем для прыкладу два лепшых спектаклі пінчан: «Паўлінку» Я. Купалы і «Усяго адно жыццё» А. Маўзона.

П'еса А. Маўзона складаная, разлічаная ўвогуле на прафесіяналаў. У ёй 12 карцін, чатыры розных месцы дзеяння. Пастаноўшчык І. Сакольскі і мастак А. Белавус удала пераадолелі гэту складанасць, выкарыстаўшы ўмоўны прыём сучаснай рэжысуры — змены дэкарацый на вачах у гледача. Такі прыём складаны для самадзейнага тэатра, бо тут асноўная нагрузка кладзецца на выканаўцаў, якія дзейнічаюць пры мінімальных дэкарацыях. Яны самі перастаўляюць іх і імгненна зноў уключаюцца ў дзеянне. Пінскія аматары ўдала спраўляюцца з такой задачай. А рэжысёру такі прыём даў магчымасць дасягнуць выразнага рытму ў спектаклі.

У рабоце над творамі тэатр пайшоў уласным шляхам. Іх «Паўлінка» — гэта якраз купалаўскі твор без штучных прыстасаванняў да моды, які ў той жа час мае мясцовы каларыт. Спектакль дакладны, напоўнены гумарам, яркімі фарбамі, музыкай і песнямі, ясная яго рэжысура, разлічаная на акцёрскае паглыбленне ў вобразы.

Сацыяльны сэнс твора не падкрэсліваецца наўмысна знешнімі сродкамі, а лагічна выцякае з усяго дзеяння. Аказаўся сціплым пастаноўшчык і ў адборы сцэнічных дэталяў. У яго няма надуманага шаржу, падкрэсленых камедыйных рыс, выйгрышных мізансцэн. Камедыйнасць ствараецца прапанаванымі аўтарам становішчамі і жыццёвай адпаведнасцю характараў.

Аформіў спектакль мастак А. Белавус, скарыстаўшы народны арнамент, узоры мясцовага ткацтва і вышыўкі. Дапамагае выканаўцам і народная музыка. Яна не толькі ўпрыгожвае пачатак і фінал, але і дае музычныя характарыстыкі персанажам п'есы. Праўда, трэба зрабіць заўвагу рэжысёру за тое, што ён усё ж дапісаў тэкст. У пачатку Паўлінка перад заслонай вітаецца з гледачамі, расказвае пра свой лёс, знаёміць з дзеючымі асобамі. Твор Я. Купалы не мае патрэбы ў такіх дадатках, асабліва чужы духу п'есы дадатак пасля фіналу, калі Паўлінка паведамляе гледачам, што яе лёс склаўся добра, што яны пажаніліся з Якімам, пamірыліся з бацькамі.

Творчая спроба Баранавіцкага народнага тэатра далучыцца да багацця нацыянальнай драматургіі — спектакль «Прымакі». Падрыхтавала яго рэжысёр М. Пячонкіна. Знешне спектакль атрымаўся яркі і маляўнічы, аформлен з густам і адчуваннем жанру п'есы. Але да рэжысуры можна прад'явіць вялікія прэтэнзіі. На маю думку, пастаноўшчык няпэўна акрэсліў жанр спектакля: ён ставіў перад выканаўцамі такія задачы, якія вялі да аблегчанага, спрошчанага, падкрэслена «смешнага» паказу персанажаў.

Спектакль «Амністыя» па п'есе М. Матукоўскага, пастаўлены Брэсцкім тэатрам чыгуначнікаў, таксама выклікаў нямала спрэчак. І тут, у асноўным, заўвагі адрасуюцца рэжысёру А. Самараву. Ён паставіў п'есу, як звычайную камедыю з прыкметным бытавым ухілам. П'еса ў яго трактоўцы страціла палемічную вастрыню, сатырычны зарад. Але і тут ёсць цікавыя акцёрскія ўдачы.

Як станоўчую рысу ў самадзейным мастацтве, трэба адзначыць імкненне народных тэатраў стварыць па-акцёрску ансамблевыя спектаклі. Адыходзіць у нябыт практыка, калі на сцэне вылучаюцца два-тры таленавітых самародкі, а астатнія аматары ім «падыгрываюць». Але ў ансамблі можна заўсёды вылучыць найбольш яркія работы. Напрыклад, спектакль «Сэрца маці» ў Баранавічах. Гэта ролі Аляксея (В. Болбат) і яго маці Марыі Паўлаўны, якую шчыра і сардэчна сыграла здольная артыстка Л. Клімішына. Гэта пэўнае дасягненне самадзейнай артысткі, запамінальны вобраз з рысамі мужнасці і вялікай мацярынскай любоўю.

Творчасць самадзейных артыстаў з Целяхан займае асобнае месца ва ўсім беларускім тэатральным мастацтве. Іх спектакль «Над хвалямі Серабранкі» пакідае супярэчлівае ўражанне. Рэжысёр — настаўніца Л. Уліціна будуе спрошчаныя, франтальныя мізансцэны, замаруджвае рытм дзеяння.

І ў той жа час ёсць у спектаклі нешта каштоўнае. У глядзельнай зале пануе прыхільнасць да калгасных артыстаў, якія з захапленнем іграюць блізкую ім па змесце п'есу.

У чым сакрэт поспеху? Перш-наперш, у тонкім адчуванні моўнага багацця тэксту і рэальнасці адлюстраванага драматургам жыцця, веданні ўмоў. «Над хвалямі Серабранкі» ў целяханцаў не рэжысёрскі спектакль, а выключна спектакль акцёраў. Яны ўсе падабраны па тыпажу, з улікам узросту, амаль кожны з іх іграе сам сябе.

Мастацкая самадзейнасць захоўвае ў сабе шмат сакрэтаў і нечаканасцей. І хаця ўзровень майстэрства не ўсюды аднолькавы, яно няўхільна расце і ўдасканальваецца. Прынамсі, такое ўражанне пакінуў агляд народных тэатраў у Баранавічах.

**С. ПЯТРОВІЧ,**
кандыдат мастацтвазнаўства.



Сцэна са спектакля «Амністыя» ў пастаноўцы народнага тэатра Брэсцкага клуба чыгуначнікаў. Злева направа: Салавейчык — Г. Бароўскі, Добрых — А. Сечанок, Бажашуткава — Т. Лебярэўская.

Фота В. ГЕРМАНА. (БЕЛТА).

# «МАЛЫ КІНЕМАТОГРАФ» ТРАКТАРНАГА

Конкурсы аматарскіх фільмаў сталі ў нас добрай традыцыяй. Энтузіясты «малога кінематографа» збіраюцца разам, каб паглядзець новыя работы сваіх калег, абмяняцца вопытам, пагаварыць пра творчыя планы.

Самадзейная студыя на Мінскім трактарным была створана трынаццаць гадоў назад. Займацца любімай справай прыйшлі сюды рабочыя, тэхнікі, інжынеры. А праз некаторы час, як вынік творчай калектыўнай працы, з'явіліся кінастужкі «Наш піянерскі лагер» і «Навагодняя фантазія». На абласным конкурсе яны атрымалі станоўчую ацэнку.

Першыя спрэчкі і першыя няўдачы шмат чаму навучылі кінааматараў. Кароткаметражка «Жнівень» (аператар А. Аксёнаў, сцэнарыст і рэжысёр М. Нядбайла) прысвечана выпускнікам сярэдніх школ, тым, хто пачынае працоўнае жыццё.

Увогуле, паказ сучасніка, чалавека сямідзесятых гадоў — галоўная тэма энтузіястаў аматарскага кіно. Не абмяжоўваючыся аднымі толькі дакументальнымі стужкамі, яны звярнуліся таксама да ігравых. Так узнікла «Бібліятэка» — кінанавела, якая была адзначана на Усесаюзным фестывалі аматарскіх фільмаў у Маскве. Апрача таго, яна двойчы дэманстравалася па тэлебачанні, была паказана ў Алма-Аце, Рызе, Новасібірску.

Далёка за межамі рэспублікі ведаюць пра фільмы «Апошні званок» і «Трэніроўка» (аўтары А. Бяклемішаў і М. Нядбайла).

Аднак, трэба сказаць, што не ўсе работы кінааматараў адпавядаюць патрабаванням часу. Яўна ніжэй іх магчымасцей атрымаўся фільм «Свята працы». Цяпер ён дапрацоўваецца.

Нядаўна аматарская студыя закончыла яшчэ дзве стужкі — «Нараджэнне грамадзяніна» (аб працоўным выхаванні дзяцей) і «Наташка» (псіхалагічная навела).

Кінастудыя пастаянна вядзе летапіс жыцця трактаразаводцаў, адлюстроўвае ў кінастужках важнейшыя падзеі свайго прадпрыемства. Дэманструюцца яны ў кінатэатрах «Усход», «Мір», «Радзіма», «Перамога» і іншых.

Настойлівая праца, пошукі не спыняюцца ні на адзін дзень.

**Л. НЕСЦЯРОВІЧ,**
метадыст Палаца культуры Мінскага трактарнага завода.

# У АДНЫМ РАЁНЕ

Зараз паўстае шмат праблем, і адна з найбольш важных — як задаволіць духоўныя патрэбы насельніцтва, лепш арганізаваць яго адпачынак?

Адказаць на гэтае пытанне мы папрасілі загадчыка аддзела культуры Пухавіцкага райвыканкома К. Трухана.

— У кожным калгасе, саўгасе, на прадпрыемствах і ўстановах створаны калектывы мастацкай самадзейнасці. Нямала ў нас калектываў, якія маюць вялікі творчы вопыт і карыстаюцца заслужаным аўтарытэтам. У першую чаргу трэба адзначыць народны хор Мар'інагорскага саўгаса-тэхнікума. У складзе яго каля ста чалавек.

Добра наладжана работа драматычных гурткоў пры Навасёлкаўскім, Блужскім, Цітвянскім, Сінчанскім, Талькаўскім і іншых сельскіх дамах культуры. Маюць сваё аблічча харавыя калектывы пры Блужскім, Навасёлкаўскім, Туранскім СДК, Азярычанскім, Цітвянскім, Сінчанскім, Шацкім, Дудзіцкім, Талькаўскім і іншых сельскім клубах.

— Вядома, поспех гурткоўцаў і калектываў у цэлым залежыць не толькі ад майстэрства выканаўцаў, але і ад таго, хто імі кіруе і якімі музычнымі інструментамі яны забяспечаны?

— Так, і гэтая праблема нас непакоіць пастаянна. Зразумела, што без кваліфікаваных кадраў на любым участку работы цяжка, тым больш, калі гаворка ідзе аб культуры. Без важака, як кажуць, і птушкі не ляцяць у вырай. Што датычыць непасрэдна нашых устаноў, то ў сваёй большасці тут працуюць людзі з адпаведнай адукацыяй. За апошні час да нас прыехала працаваць дзесяць адукаваных спецыялістаў, шэсць з іх сёлета. Наладзілі мы сувязі з Мінскім педвучылішчам, дзе ёсць аддзяленне культасветработы. Студэнты вучылішча шэфствуют над Навасёлкаўскім і Туранскім дамамі культуры, шаснаццаць студэнтаў праходзілі ў раёне практыку. Трэба адзначыць, што яны пакінулі прыкметны след пасля сябе. Вучылішча абяцае па нашай просьбе з наступнага выпуску прыслаць яшчэ пяцёх спецыялістаў.

Апрача таго, значную дапамогу некаторым калектывам аказваюць выкладчыкі Мар'інагорскай музычнай школы. Рэгулярна наведваюць сельскія клубы педагогі Валянціна Прышчэпчык, Галіна Казіцкая, Віктар Малашанка і іншыя.

Што датычыць музычных інструментаў, то мастацкія калектывы забяспечаны імі дастаткова. Сёлета райвыканком для набыцця музычных інструментаў, інвентару і абсталявання выдаткаваў 35 тысяч рублёў. Большая частка гэтай сумы ўжо выкарыстана. Папоўнілі свае арсеналы РДК, Рудзенскі ГДК, Зазёрскі, Талькаўскі і многія іншыя сельскія клубы. Набыты новыя баяны, ударныя ўстаноўкі, магнітафоны, фільмаскопы, тэатральныя крэслы і гэтак далей.

Горш з касцюмамі. Іх набываюць, звычайна, за кошт перавыканання раённага бюджэту. А ў нас тут не ўсё добра.

У сувязі з гэтым хочацца прыгадаць праўленне калгаса «Іскра», якое надае вялікую ўвагу культурнай рабоце. За сродкі калгаса тут набываецца ўсё неабходнае.

— Надыходзіць 50-я гадавіна ўтварэння СССР. Якую работу праводзяць вашы калектывы да гэтай падзеі?

— Асаблівы размах набыла самадзейнасць сёлета. Яшчэ ў пачатку года ўсе гурткі і калектывы распрацавалі планы сваёй работы, падабралі рэпертуары, якімі і кіраваліся ў паўсядзённай рабоце. Арганізацыйны камітэт, створаны пры райвыканкоме, склаў графікі агляду мастацкай самадзейнасці.

А ў другой палове жніўня пачаліся куставыя агляды, якія закончыліся ў верасні. Фінал агляду адбыўся ў лістападзе.

Трэба зазначыць, што асобныя калектывы прадэманстравалі высокае майстэрства. Гэта датычыць Блужскага сельскага дома культуры, які ўзначальвае Валянціна Паўціна, а мастацкі кіраўнік — Яўгенія Забалоцкая. З цікавай, змястоўнай праграмай выступіла агітбрыгада гэтай установы. Журы ўхваліла выступленні ўдзельнікаў самадзейнасці з Сенчанскага клуба, Навасёлкаўскага дома культуры і іншых.

Гонар раёна, безумоўна, Мар'інагорскі народны тэатр. Рэжысёрам працуе тут Валянціна Палухіна. У мінулым прафесійная артыстка, з багатым вопытам і здольнасцямі, яна ўмее з'яднаць калектыў, адшукаць цікавую рабочую праграму.

Артысты народнага тэатра пабывалі ў многіх гаспадарках раёна. Цёпла прымалі сельскія гледачы «Трыбунал» А. Макаёнка, ««Саслужыўцаў» Э. Брагінскага і Э. Разанава ў пастаноўцы мар'інагорцаў.

**І. МАРКЕВІЧ,**
спец. карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва».

# ПІСЬМЕННІК ПРЫХОДЗІЦЬ ДА ЧЫТАЧОЎ

□ У Палацы культуры ордэна Леніна Мінскага камвольнага камбіната адбыўся літаратурны вечар, прысвечаны 50-годдзю ўтварэння СССР. У госці да рабочых прыйшлі лаўрэат Ленінскай прэміі Іван Мележ, паэты Іосіф Васілеўскі, Язэп Семяжон, Уладзімір Паўлаў.

У сваіх выступленнях рабочыя гаварылі аб вялікім працоўным уздыме, які пануе цяпер на камбінаце, падзяліліся ўражаннямі аб творах беларускіх пісьменнікаў.

Затым выступілі госці. Яны расказвалі пра свае новыя творы, чыталі іх.

□ Бібліятэка імя Маякоўскага сумесна з Домам культуры швейнага аб'яднання імя Крупскай правялі літаратурны вечар. На ім прысутнічалі вучні старэйшых класаў, работніцы швейнай фабрыкі.

Пісьменнікі Мікола Аўрамчык, Ілья Клаз, Іван Калеснік гаварылі аб братняй дружбе савецкіх рэспублік, чыталі вершы і ўрыўкі з новых твораў. Заслужаны артыст рэспублікі Валерый Прышчапёнак праспяваў некалькі песень.

□ У 15-й школе адбылася канферэнцыя чытачоў па кнізе Алеся Савіцкага «Самы высокі паверх». Чытачы гаварылі аб сваёй цікавасці да кнігі, аўтар якой прысутнічаў на канферэнцыі. Пісьменнік адказаў на шматлікія пытанні чытачоў, падзяліўся творчымі планамі.

□ У мінскім кінатэатры «Сцяг» працуе кіналекторый, прысвечаны 50-годдзю ўтварэння СССР. Тут можна паслухаць лекцыі, сустрэцца з пісьменнікамі, мастакамі, дзеячамі навукі. Цікавасць выклікаў расказ драматурга Алеся Кучара аб беларускім кінамастацтве.

□ Бібліятэка № 11 арганізавала шырокі прагляд лепшых твораў беларускіх пісьменнікаў. Праводзіліся гутаркі аб новых кнігах. Тут пабывалі пісьменнікі Уладзімір Карпаў, Мікола Аўрамчык, Васіль Зуёнак, Хведар Чэрня.

Цікавы ранішнік правяла другая дзіцячая бібліятэка. У госці да юных чытачоў прыйшлі пісьменнікі Артур Вольскі, Эдзі Агняцвет, Вячаслаў Марозаў.

**Л. ФРЫД,**
загадчык бібліятэкі № 11 Ленінскага раёна г. Мінска.

# ПЕСНЯ ПРА ШАХЦЁРА

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

разоў больш. Але ж для машыны, хоць і жалезнай, усё ж мера павінна быць. А што калі рэкорд робіцца дзеля рэкорда, каб бліснуць? Праца на знос. І для машыны і для чалавека. А пасля месяцы чарапкі склейваць?

Леанід Адамовіч слухае мяне з вельмі сур'ёзным тварам. Доўга думае, марудзіць з адказам. Не, тут было не так. Проста ўбачыў, што машына здольная на большае.

— У нас самае небяспечнае — паломка камбайна. Нават самая нязначная. Спецыфіка такая. Мы як працуем? Укапаўся ў сцяну, і ідзеш метраў 150 да поўнага месца. Затым камбайн заднім ходам выводзіцца са штрэка і ўразаецца ў новае месца. Уяўляеце, што калі нешта ў машыне адмовіць у самім штрэку? Ні залезці, ні падлезці. Кліч на дапамогу, каб хутчэй выцягнулі машыну. Хутчэй, бо можа так сціснуць пародай камбайн, што і рады не дасі.

— Сціснуць? — не разумею я.

— Але ж, з шахтай трэба ўвесь час на «вы». Прырода не любіць, калі яе спакой трывожаць. Парушылася раўнавага, і пачынае парода ціснуць, каб запоўніць пустату. Асабліва гліна сябе дрэнна трымае — ненадзейная рэч. Значыць, выйсце якое? Выйсце, каб тэхніка працавала спраўна. Вось галоўнае, на што я нацэльваю хлопцаў сваёй брыгады. Бачымся мы не вельмі часта. Працуем жа ў чатыры змены, на кожнай — машыніст, яго памочнік і машыніст самаходнага вагона, якім руда адвозіцца ад камбайна. Такую я зрабіў завядзёнку — калі што здарылася, каб адразу ж мне званілі дахаты, ці гэта дзень, ці ноч. Праўда, жонка крыўдзіцца крыху, — усміхнуўся Калінін,—ну, ды неяк ладзім.

— І часта звоняць?

— Бывае. Вунь нядаўна ноччу паднялі — не ішоў камбайн на адгон. Я ім параіў праверыць помпы. Праверылі — зноў не ідзе. Замяніце, кажу, масла. Відаць тут закавыка. Толькі заснуў, зноў званок — замянілі і ўсё пайшло на лад.

— Нябось, назаўтра ўсыпалі хлопцам, што спаць не далі?

— Я б ім усыпаў, калі б не пазвалілі ды прастаялі змену.

Вусны Калініна ўсміхаюцца, а ў вачах нечаканыя ільдзінкі. Не, пра хлопцаў сваіх Леанід Адамавіч расказвае з павагай. І пра аднавяскоўца Міхаіла Калініна, якога ён сагітаваў кінуць сваё шафёрскае рамяство і пайсці працаваць на шахту, — атрымаўся з Міхаіла класны машыніст камбайна. І пра Барыса Пятрышчава, які заканчвае завочна горны інстытут. Пра Уладзіміра Арцюхова, Паўла Мацукевіча, Мікалая Сычова і іншых. Многія з іх — вучні Калініна.

— Брыгадзе нашай прысвоілі званне брыгады камуністычнай працы. Хлопцы, як на падбор. Адзін за усіх— усе за аднаго. Добрая палова з іх — камуністы. Вось шкада толькі, што стаім на капітальным рамонце, не пабачылі іх у рабоце.

Я цікаўлюся, ці доўга працягнецца рамонт.

— А я і не спяшаюся, — раптам адказвае Калінін. — Хоць і заробак на рамонце куды меншы, але я нахапок рабіць не люблю. Пакуль кожную дэталь сваімі рукамі не абмацаю — не пастаўлю. Мне майстар кажа, што заганяў яго з запчасткамі, што, маўляў, вельмі пераборлівы. А як жа ж інакш! Не кожны дзень рамантуемся. Тэхніка, яна да сябе павагі патрабуе.

Пачынаю разумець, чаму Калініну ў свой час даручылі на шахце выпрабоўваць лазерную ўстаноўку. Я спытаў пра падрабязнасці і трэба было бачыць, як загарэліся вочы ў чалавека. Узяў у мяне блакнот, пачаў маляваць. Дарэчы, гэта мясцовая прыдумка. Сам лазерны генератар, праўда, дасталі ў Львове, а з астатнім мудрагелілі самі. Сутнасць устаноўкі вось у чым. Машыністу не трэба сядзець на самім камбайне, парыцца ад спякоты, глытаць пыл і глухнуць ад грукату. Машыніст можа спакойна сядзець за пультам воддаль і адтуль пры дапамозе лазернага праменьчыка кіраваць камбайнам, на якім устаноўлена спецыяльнае прыстасаванне. Калінін доўга тлумачыў мне, што і як, ды я так і не зразумеў. Падзівіўся толькі, як арыентуецца ў такіх складаных рэчах шахцёр.

Пакуль што дыстанцыйнае кіраванне пры дапамозе лазера лепш выкарыстоўваць для пракладкі канвеерных штрэкаў. Бо лазерны прамень ідзе строга па прамой. «Лавіць» сільвінітны пласт пры яго дапамозе, пакуль што, не выпадае.

— Але прыдумаецца і гэта, — упэўнена гаворыць Калінін. — Наогул, трэба яшчэ шмат чаго прыдумаць. І каб не так грукатала, і каб пылу было менш. Дарэчы з пылам мы спрабавалі змагацца. Змачвалі пароду. Ды выйшла прамашка—вада так цэментуе пароду, што машына не бярэ потым. Трэба нешта іншае...

Тут без інжынерных ведаў не абысціся, — асцярожна кажу я.

— Не абысціся, — згаджаецца Калінін. І тут жа дадае: — Інжынеры, яны таксама розныя бываюць. Да нас у шахту аднойчы спусціўся камандзіраваны аднекуль інжынер. Ганарысты такі. Усё парады даваў. А я яму кажу: «Прабачце, калі ласка, вы бліжэй стаіцё, выключыце камбайн». Забегалі ў яго вочы. Тыц-мыц, за тое схапіўся, за гэта, аказваецца, не ведае як машыну выключыць, а лезе з парадамі... — Леанід Адамавіч хвілінку маўчыць і потым, як бы між іншым, гаворыць: — Я сёлета на вячэрняе аддзяленне горна-хімічнага тэхнікума паступіў... — глядзіць на гадзіннік. — Загаварыўся тут з вамі. Мне яшчэ ў дачкі трэба ўрокі праверыць. А ў шэсць — на заняткі.

Бачу праз акно, як ён выходзіць на вуліцу і на хвілінку спыняецца ля жанчын, якія корпаюцца ля газона з кветкамі. Нешта спытаў у іх і пакрочыў далей. Успамінаю, што забыўся пацікавіцца ў Калініна пра яго грамадскую работу. Мне ж казалі на шахце, што ў Леаніда Адамавіча цэлы тузін грамадскіх даручэнняў. Як дэпутат гарсавета ён адказвае за азеляненне горада. Акрамя таго, Калінін член парткома рудніка, член рудкома, член абласнога савета прафсаюзаў, яшчэ нешта...

БЛІЗКАЯ ўжо апошняя кропка. А мне не хочацца развітвацца з маім героем. Думаю пра яго, а ў вушах зноў гучыць матыў той далёкай песні пра шахцёра. «Он был шахтер, простой рабочий...»

У гэтай песні ёсць працяг. Я пачуў яго ў Салігорску...

Салігорск—Мінск.

## ВІНШУЕМ З УЗНАГАРОДАЙ!

За заслугі ў развіцці беларускага савецкага выяўленчага мастацтва і ў сувязі з сямідзесяцігоддзем з дня нараджэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў мастака Шаўчэнку Акіма Міхайлавіча Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

## ГУЧЫЦЬ СЛОВА МІКАЛАЯ ЦІХАНАВА

Сталася добрай традыцыяй, што ў апошнія гады ўсё часцей і часцей завітваюць на эстраду чытальнікі мастацкага слова. Яны робяць вельмі важную справу, прапагандуючы лепшае, што створана і ствараецца ў літаратуры.

Зала Беларускай філармоніі нярэдка радавала і радуе сваіх наведвальнікаў цікавымі, змястоўнымі літаратурнымі канцэртамі, якія прыносяць сапраўдную асалоду аматарам мастацкага слова. Толькі за апошнія часы на яе сцэне выступалі І. Андронікаў, Р. Гамзатаў, К. Куліеў, Д. Кугульцінаў, М. Дудзін, В. Бокаў, Э. Асадаў, такія чытальнікі, як Д. Жураўлёў, Л. Елісееў, І. Русінаў, Ю. Ларыёнаў, А. Ганчароў, І. Колін, В. Сомаў, Л. Кайранская і інш. І на выступленні пісьменнікаў, і на выступленні майстроў-чытальнікаў аўдыторыя нязменна адказвала шчырасцю і цеплынёй.

Днямі тут адбыўся літаратурны вечар паэзіі, прысвечаны пяцідзесяцігоддзю ўтварэння СССР. У цэнтры ўвагі вечара былі творы Мікалая Ціханава.

Лаўрэат Ленінскай і Дзяржаўных прэмій Мікалай Ціханаў — адзін з майстроў савецкай літаратуры, мастак, слова якога заўжды было на службе народа. Створанае ім за дзесяцігоддзі мастацкай дзейнасці ўваходзіць у залаты фонд савецкай літаратуры. Мужнасць людзей вогненных гадоў — грамадзянскай і Вялікай Айчыннай — тэматыка шматлікіх твораў мастака.

Мікалай Ціханаў — шчыры пясняр дружбы народаў, асабліва блізкія яму, рускаму, каўказскія народы, там ён часта бываў, жыў сярод іх, перакладаў іх пісьменнікаў, шмат пра іх пісаў.

Паэзія Ціханава — сплаў рэвалюцыйна-бунтарскага, трыбуннага і глыбока лірычнага.

Вечар адкрыў народны пісьменнік Беларусі, лаўрэат Ленінскай прэміі Іван Мележ. З чытаннем твораў Мікалая Ціханава выступіла артыстка Масканцэрта Ірына Кастрова. У яе выкананні вершы і балады паэта — то ўзнёсла-патэтычныя, трыбунныя, то мякка-лірычныя, настраёвыя — прагучалі натхнёна, задушэўна. Артыстка знайшла фарбы, каб перадаць іх грамадзянскі запал, баявітасць, чалавечнасць.

Ф. АНДРЭЙЧЫК.



Л. Мазепа (Яраслаўна)



Г. Туфціна (Кармэн)



У. Кіняеў (Ігар Святаслававіч)



А. Урабель (Эскамільё)

## ... І НЕПАЎТОРНАЕ ХАРАСТВО

*ГАСТРОЛІ МАЙСТРОЎ ОПЕРНАГА І БАЛЕТНАГА МАСТАЦТВА УКРАІНСКАЙ ССР*

СВЕЖЫ І ЧЫСТЫ спеў вылучаецца з хору, узнімаецца над сцэнай, пералівaецца адценнем мілагучнай украінскай мовы, зачароўвае залу шчырасцю пачуццяў маладой княгіні. Артыстка Людміла Мазепа здолела выказаць якасці характару Яраслаўны не толькі багатым тэмбрам голасу, але і неспадзяванымі праявамі драматычнага таленту. Надзвычай выразны твар і пастава актрысы спрыялі завяршэнню вакальна-сцэнічнага вобраза ў спектаклі «Князь Ігар», які адбыўся на сцэне Беларускага тэатра оперы і балета.

— Прыгожы, мяккі тэмбр, добры густ, артыстка з выдатнай вакальнай манерай, — ацэньвае дэбютантку галоўны дырыжор нашага тэатра оперы і балета народны артыст УССР Яраслаў Вашчак.

Уражанне ад сціплай спявачкі з братняга Кіева можа быць ацэнкай і прызнаннем поспеху ўсёй украінскай музычнай школы. Хацелася б, каб воплескі і кветкі, якімі адкрыўся тыдзень майстроў суседняй рэспублікі ў Мінску, дайшлі да сэрцаў украінскіх сяброў як падзяка за тую ролю, што адыграла іх песенна-тэатральнае мастацтва ў развіцці спрадвечных культурных сувязей паміж нашымі народамі. З радасцю вітаюць спевакоў і танцораў братняга народа аматары і майстры беларускай сталіцы.

Народная артыстка БССР Лідзія Галушкіна:

— Гастролі ўкраінцаў для нас — свята мастацтва і братэрства. З радасцю чакаю новай сустрэчы з народнай артысткай СССР Нінэль Ткачэнка. Апошні раз мы бачыліся з ёю ў Адэсе, а днямі спаткаемся ў нас, на сцэне, у спектаклі.. У мяне партыя Амнерыс, Аіда — Нінэль Ткачэнка...

Сяброўства артыстаў з Мінска, Кіева, Львова, Харкава, Днепрапятроўска, Адэсы мае шмат сведчанняў не толькі за апошнія гады.

Мелі поспех і ў нас і на Украіне сумесныя партыі ў операх, балетах, канцэртныя праграмы і вечары з удзелам М. Ворвулева, Л. Александроўскай, Б. Рудэнка, В. Глушакова, Т. Шымко, Л. Ражанавай, В. Каліноўскай, Т. Ніжнікавай, Я. Чаўдар і іншых.

Заслужаны артыст БССР, лаўрэат міжнародных конкурсаў Аскольд Сухін:

— Мне даводзілася выступаць у канцэртах і захапляцца галасамі Гнацюка, Рудэнка, Гуляева, Мірашнічэнка і іншых сяброў і старэйшых таварышаў. А з многімі пасябраваў у Італіі. Напрыклад, разам са мною стажыраваліся ў Ля Скала А. Салаўяненка і М. Кандрацюк...

Не толькі для знаўцаў класічнага рэпертуару, але і для тых, хто ўпершыню слухаў «Кармэн» Ж. Бізэ, шмат цудоўных хвілін падарыла народная артыстка УССР Галіна Туфціна, спяваючы партыю гарэзлівай і свавольнай цыганкі. Салістка Кіеўскага тэатра імя Т. Шаўчэнкі, лаўрэат міжнароднага конкурсу Г. Туфціна ўжо з'яўлялася ў беларускай сталіцы ў класічных операх — «Кармэн» і «Трубадур». Выступленне 15 лістапада — яе падарунак мінчанам.

Мела поспех складаная па сутнасці партыя князя Ігара, якая патрабуе не толькі вакальных, але і сцэнічных здольнасцей, з пачуццём выкананая заслужаным артыстам РСФСР Ул. Кіняўскім (Ленінград), што сустрэўся на мінскай сцэне з украінскімі гастралёрамі. Бліскуча (як і кожны тарэадор!) выступіў у оперы Ж. Бізэ народны артыст УССР Аляксандр Урабель. Яго адданасць класічнаму рэпертуару прынесла плён не толькі на сцэне Львова: за найлепшае выкананне партыі Анегіна балгарскія меламаны ўшанавалі яго вышэйшай узнагародай конкурсу. Гэты выхаванец львоўскай опернай школы ўпершыню ў Мінску, і добры ўрачысты настрой падказвае яму цёплыя словы.

— Чароўны Мінск падвечар... Ужо магу казаць пра надзвычай гасцінны ваш люд. З гонарам за свой і ваш тэатр, сустрэўся з галоўным дырыжорам Я. Вашчаком, майстрам выключна дасведчаным, сапраўдным талентам опернай справы. Гастролі маіх землякоў працягваюцца да 21 лістапада, і хачу спадзявацца, што прыезд Бэлы Рудэнка дапаможа нам свае найлепшыя пачуцці да Беларусі выказаць з майстэрствам, вартым нашага з вамі братэрства...

МІНЧАНЕ і госці беларускай сталіцы горача апладзіруюць пасланцам звонкагалосай Украіны.

Ул. ЛАДЗІК.

## ПОСПЕХ «РАДЗІМІЧАЎ»

Ёсць у Гомельскім універсітэце вакальна-інструментальны ансамбль. Называецца ён «Радзімічы». Не прайшло і двух гадоў з часу яго заснавання, а ўдзельнікі ансамбля сталі ўжо дыпламантамі Усесаюзнага конкурсу вакальна-інструментальных ансамбляў «Універсіяда-72».

Днямі «Радзімічы» вярнуліся з гастрольнай паездкі па вобласці. Сваю праграму ансамбль прысвяціў знамянальнай даце — 50-годдзю ўтварэння СССР.

Валерый ПАЛАЎКОЎ,
студэнт 3-га курса гісторыка-філалагічнага факультэта.

## У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ «ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

*Дазвольце са старонак газеты падзякаваць творчым ўстановам і таварышам па вучобе і рабоце, якія павіншавалі мяне з нагоды майго 70-годдзя, за іх добрыя словы і пажаданні.*

Таццяна БАНДАРЧЫК.

г. Бабруйск.

*Выказваю шчырую ўдзячнасць арганізацыям і культурна-асветным установам, сябрам і чытачам, якія прыслалі цёплыя віншаванні з нагоды майго 50-гадовага юбілею.*

Міхась ДАНІЛЕНКА.

г. Гомель

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

**ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ**

Савось АВОСЬ



# ДЗЕ ПЕГАС ПАСЕЦЦА

*РЭПАРТАЖ З АЛІМПА*
*СПЕЦЫЯЛЬНА ДЛЯ «ЛІМа»*

### БЮРО ПРАПАГАНДЫ

*(Выступай, як здаровыя горла і гланды!)*

Выступаеш па бюро —
Маеш
Медзь і серабро.
Калі справу зразумець,
Можна і не дбаць
Пра медзь.
На рапсода-волата
Ліўнем ліся,
Золата!
Едзе
Прадстаўнік сталіцы
У раён
Азалаціцца.
Там нырае
Рыбка тая,
Што завецца
Залатая.
Дзе нырае
Тая рыбка,
Вам адкажа
Толькі Скрыпка.
Цёзка Пушкіна,
А. Ставер
Па СП рэкорд паставіў, —
Матаролерным прабегам
Фору даў
Усім калегам!
Ён Пегасу:
«Косю-коська!» —
Рыбы поўная авоська!
Харч адменны
На сяле.
Добры харч,
Ды ёсць «але».
Хопіць воплескаў усім,
Ды, на жаль,
Не дрэмле «ЛІМ»!
Гутарыць ласкавым тонам
У разгромным фельетоне.
Як глыбока ні нырні,
Рыбка залатая,
Не ўцячэш ты ад Вірні —
З ходу падсякае!
А калі паклапаціцца,
Можна ў Мінску
Залаціцца!
У сталіцы больш утульней:
Ёсць хімчысткі,
Ёсць цырульні!
Крытык, драматург
А. Кучар
Касы шчодрыя акучыў!
Толькі думае бюро,
Каб запал не кінуў,
Каб лілося серабро
Шчодра
На акынаў!..

### КАМУ ШТО

Што даўніна!
Яна мне сэрца рэжа.
Не ашчаслівлю
Рыфмай»даўніну.
Не Белую,
А сіласную вежу
Адну люблю,
Яе пяю адну!

### СЯМЕЙНЫ ДЫЯЛОГ

— Сябе яшчэ персонай важнай лічыш!
Мне не хапае зла!
Ты страціў чалавечае аблічча.
— Аддай,
Калі знайшла!

### СУЦЕШЫЎ

— Ты ж такі,
Як твае лайдакі-дружбакі...
— Ну і што,
Калі піва вып'ю...
Размяняю зарплату на медзякі —
І грашыма цябе засыплю!

### РАГАТЫ

Казёл
Са збродлівай пароды
Не пільнаваўся хаты,
Любіў чужыя агароды,
Таму і сам
Рагаты.

### Алесю БАЧЫЛУ,

*аўтару лібрэта оперы «Зорка Венера»:*

Навошта непатрэбныя ухмылкі! —
Усё дакладна Муза разлічыла:
Адразу распазнаеш
Без памылкі,
Дзе Багдановіч,
Дзе Бачыла...

### АСАБЛІВЫ ТВОР

Хоць не хапае зор,
Ды хоча гучна пiснуць:
— Нерукатворны твор,
Мой твор —
Машынапісны!

### КРЫТЫК НЕХАЦЯ

Няшчодры ў Музы быў пасаг,
Да працы
Жонка змусіла:
І іншых я вучу пісаць
У змучаных дыскусіях.

Рыгор ЛАЗУРКІН




Няштатны карэспандэнт трэстаўскай шматтыражкі быў у адчаі. Тэрмінова патрабаваўся артыкул аб рабоце на самым далёкім будаўнічым участку, а ехаць яму туды не хацелася. Стаяла восень, сыпаў надакучлівы дождж і ўсё на вуліцы было мокрае, слізкае, непрыемнае. Адно— сядзець бы табе, Рыбаедаў, у цёпленькім, у сухенькім ля тэлевізара ды глядзець сустрэчу любімай футбольнай каманды. А тут... Урэшце ён толькі няштатны карэспандэнт! Сваіх спраў хапае...

— Гэй, ды што ж гэта я скіс? — раптам схамянуўся Рыбаедаў.— Вось вазьму тое інтэрв'ю па тэлефоне, і— усё!

Ад гэтай выратавальнай думкі ён аж заспяваў нейкую дзіўную нескладзёху:

А я зараз пазваню-ню-ню,
Інтэрв'ю зараз вазьму-му-му!

Потым схапіўся за тэлефонную трубку і бадзёра закрычаў:

— Алё, алё! Мне прараба Засівуліса... — І хоць трубка маўчала, ён настойліва паўтараў, то ўмольна, то пагрозліва: — Засівуліса!

Нарэшце ў трубцы пачуўся кволы мужчынскі голас. Рыбаедаў ведаў дужага, басавітага Засівуліса і адразу здагадаўся, што тэлефон падводзіць, і што Засівуліс, можа, амаль не чуе яго.

— Добры дзень! — закрычаў Рыбаедаў так, што аж закалола ва ўласных перапонках. — Гэта я, няшчас... няштатны карэспандэнт шматтыражкі! Як там у вас справы?

— Экс ка-ватар стаіць няспраўны-ы! Паляцеў рэверс паварот-на-га механі-і-ізму-у! — нібыта з таго свету, пачуўся голас Засівуліса.

Рыбаедаў зразумеў далёка не ўсё:

— Не чую! Што ў вас там паляцела-а? Хто па-ля-цеў? Паўтарыце!

— Экс-ка-ва-тар! Чака-ем зап-ча-а-стак!

Рыбаедаў спачатку здзівіўся: што за фокус? Нейкі экскаватар-верталёт завялі сабе... За запчасткамі лётае... Але, падумаўшы, абрадаваўся надзвычайна: ён напіша пра ўкараненне новай тэхнікі. І вечнае пяро хуценька забегала па паперы...

Праз тры дні ў шматтыражцы з'явіўся артыкул пад сенсацыйным загалоўкам «Экскаватар-верталёт»: «Ідучы насустрач святу будаўніка, слаўныя працаўнікі нашага трэста з кожным днём нарошчваюць тэмпы работ, укараняючы новую тэхніку ў вытворчасць. Участак прараба Засівуліса, як заўсёды, наперадзе па ўсіх паказчыках. І вось зноў прыемная навіна: тут з'явіўся экскаватар-верталёт... Якія выгоды мы будзем мець ад новай цудоўнай машыны? Папершае, экскавацыя грунта вядзецца з паветра. Такому экскаватару не страшныя ніякія балоты. Апрача таго, нават працуючы за сотні кіламетраў ад дома, экскаватаршчыкі змогуць на кожную ноч вяртацца да сваёй сям'і на гэтым транспарце...

Г. Рыбаедаў».





Малюнкі Збігнева КЮЛІНА і Ежы ФЛІСАКА (часопіс «Польское обозрение»).

З НЯМЕЦКАГА ГУМАРУ

# СЕНСАЦЫЙНАЯ ПРЭМ'ЕРА

ПЕРШЫ знаёмы, якога я сустрэў, прыехаўшы ў Парыж, спытаў:

— Ты ўжо ўзяў білет?

— Білет? Куды?

— На сённяшнюю прэм'еру! Сенсацыя!

— Новая п'еса?

— Так, англійскага аўтара. Дэтэктыў. Такога яшчэ не было! Выдатныя акцёры, вядомы дэкаратар, п'еса пастаўлена амерыканскім рэжысёрам. Ужо тыдзень, як усе білеты распрададзены.

— Як называецца п'еса?

— «Забойства ў парку».

— Гм, нядрэнна.

— Увесь горад гаворыць толькі аб прэм'еры. Да канца невядома, хто забойца. Даведацца можна толькі праз тры гадзіны пасля заканчэння.

— От такія дэтэктывы я вельмі люблю. Не прапускаю ні слова. Ажно трасуся, як у ліхаманцы, а сэрца як не вырвецца з грудной клеткі. Добры дэтэктыў — гэта для мяне самае лепшае ў свеце.

— Але ж усе білеты прададзены тыдзень назад. З рук абыдзецца ў дваццаць разоў даражэй.

Я купіў білет з рук і ўвайшоў у цёмную залу. Ледзьве паднялася заслона, як да мяне ў ложу падышоў білецёр.

— Вы задаволены сваім месцам?

Я заўважыў, што ён трымаў руку далоняй угару.

— Так, дзякуй, — сказаў я.

— Можа, ваш капялюш аднесці ў гардэроб?

— Не, вялікае дзякуй.

Я спадзяваўся, што ён пойдзе, але памыліўся: ён стаяў у мяне за спіной.

— Вы не хочаце праграму?

— Не, дзякуй.

— Тут цудоўныя здымкі.

— Дзякуй, не хачу.

— Можа, бінокль?

Пачаўся спектакль. Я нервова павярнуўся да білецёра. Ён паўтарыў сваё пытанне.

— Не, дзякуй.

Я сціснуў зубы: калі, нарэшце, гэтыя здзекі скончацца?

— Вам не заказаць таксі пасля спектакля?

— Не!

— Значыць, не трэба?

— Не! Не!

— Можа вам прынесці плітку шакаладу?

— Не, дзякуй, не хачу нічога!

П'еса мяне вельмі зацікавіла, і я баяўся што-небудзь прапусціць.

— Вы не хочаце ў антракце выпіць шампанскага?

— О, ліха! Не!

— А можа, некалькі сэндвічаў?

— Я не хачу нічога, адчапіцеся!

І ў гэты момант здарылася самае жахлівае. Пакрыўджаны білецёр, зразумеўшы, што нічым у мяне не разжывецца, прыдумаў жудасную помсту. Ён нахіліўся да майго вуха і з'едліва прашыпеў:

— Забойца — садоўнік!

Пераклаў М. НАВІЦКІ.


По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Адрас рэдакцыі: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04 аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33 24 62 аддзела публіцыстыкі — 33-21-53, аддзела культуры — 33-24-62, выдавецтва — 32-22-19 бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.







Індэкс 63856 АТ 18633